Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся

БЕЛАРУСКІ РАБОТНІЦКА-СЯЛЯНСКІ

# КАЛЯНДАР

НА 1924 ГОД



*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# БЕЛАРУСКІ РАБОТНІЦКА-СЯЛЯНСКІ КАЛЯНДАР

## на 1924 год.





БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“. МЕНСК, 1924.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**1 студзеня 1919 году.** Абвешчана Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка і ўтворана часовае рэволюцыйнае правіцельства.

**13 студзеня 1892 году.** Радзіўся беларускі вучоны філёлёг, аўтор першай беларускай граматыкі Б. Тарашкевіч.

**15 студзеня 1919 году.** Забойства правадыроў комуністычнай партыі—Карла Лібкнэхта і Розы Люксэмбург.

**19 студзеня 1775 году.** Царская ўлада пакарала сьмерцьцю Амэльляна Пугачова, падняўшага паўстаньне сялян проці расійскіх памешчыкаў і шляхты.

**22 студзеня 1905 году.** Расстрэлены тысячы безаружных рабочых у Пецярбурзе па загаду крывавага цара Мікалая II.

**23 студзеня 1569 году.** Падпісана Люблінская вунія (сувязь) Беларуска-Літоўскай дзяржавы з Польшчай.

**28 студзеня 1918 году.** Дэкрэт (пастанова) аб стварэньні Чырвонай арміі.

**31 студзеня 1892 году.** Радзіўся беларускі поэта А. Гурло.

**„Крывавая нядзеля"—9-га студзеня.** Дзень 22-га (па старому календару—9-га) студзеня Савецкая ўлада абвясьціла непрацоўным у памяць загінуўшых пецярбурскіх рабочых ад катняе рукі царска-памешчыцкай улады.

У гэты дзень—а было гэта ў нядзелю—соткі тысяч пецярбурскіх рабочых з патрэтамі цара й царкоўнымі сьцягамі пад кіраўніцтвам агэнта царскай паліцыі папа Гапона пайшлі к царскім палацам, каб падаць сваю просьбу цару Мікалаю II. Па загаду цара войска і паліцыя пачалі расстрэльваць безаружных рабочых. Загінула некалькі тысяч рабочых, жанчын і дзяцей. Царскія кулі былі адказам на просьбу рабочых палепшыць іх цяжкае становішча,

Пасьля 9-га студзеня 1905 году пролетарыят Расіі зразумеў, што царскую ўладу трэба не прасіць, але скідаць сілай і самому паляпшаць сваё жыцьцё.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў студзені.

**Працы па гаспадарцы.**

Коліва кормных сьвіньней.

Нагляданьне за складам бульбы.

Малацьба жыта, пшаніцы і г. д.

Звоз сена, рублёў, дроў, лесу на будоўлю.

Нагляданьне за хлевам, каб было цёпла, суха і каб паветра было чыстае.

Дагляданьне за жывёлінай, асабліва за цельнымі каровамі, за авечкамі, за пароснымі сьвіньнямі, каб ім было цёпла, суха і выгодна.

Зьбіраньне попелу дзеля паляпшэньня грунту.

Звоз шляму і торфу дзеля паляпшэньня грунту і на падсьцілку.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыслы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 7 г. 26 м. | 4 г. 01 м. | 8 г. 35 м. |
| 10 | 7 » 08 » | 4 » 21 » | 9 » 13 » |
| 20 | 6 » 46 » | 4 » 42 » | 9 » 56 » |
| 29 | 6 » 24 » | 5 » 02 » | 10» 38 » |

**Перамены месяца**

- —сход. . . 5-га чысла
- —маладзік . 12-га „
- —поўня. . 20-га „
- —ветах . . 27-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| АЎТОРАК . . . . | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| СЕРАДА . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ПЯТНІЦА . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СУБОТА . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | |

Непрацоўныя дні: 3, 10, 17, 24—нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

1 лютага 1919 году. Выдан закон аб спыненьні выдачы дзяржаўных сродкаў на ўтрыманьне царквей і духавенства.

3 лютага 1919 году. Адчыніўся Першы Зьезд Саветаў Беларусі.

5 лютага 1918 году. Выдан закон аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы.

5 лютага 1916 году. Памерла беларуская рэволюцыянэрка і пясьнярка А. Цётка (Пашкевічанка).

13 лютага 1897 году. Царскі ўрад саслаў Уладзіміра Ільіча Леніна ў Сыбір.

22 лютага 1922 году. Памёр беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі).

Зацьменьне месяца. 20-га лютага гэтага году ў нас можна будзе бачыць (калі неба будзе чыста, бяз хмараў) зацьменьне месяца.

Зацьменьне месяца творыцца таму, што месяц, абягаючы ўкруг зямлі, трапляе ў цень, якую адкідае зямля. Цень гэты робіцца ад таго, што сонца асьвятляе праменьнямі зямлю, якая не прапускае сонечнага сьвятла. І калі зямля стане паміж сонцам і месяцам, то цень ад яе падае на месяц і засьціць яго. Пацямненьне месяца пачынаецца заўсёды зьлева направа і павялічваецца ў меру таго, як месяц уваходзіць у зямны цень. Калі месяц зусім увойдзе ў гэты цень, то робіцца поўнае зацьменьне.

Зацьменьне 20-га лютага пачнецца а 4 гадзіне 18 мін. удзень; пачатак поўнага зацьменьня—5 гадз. 20 мін. удзень; сярэдзіна зацьменьня—6 гадз. 8 мін. вечара; канец поўнага зацьменьня—6 гадз. 57 мін. вечара; усход месяца з цені зямлі—7 гадз. 58 хвіл. вечара.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў лютым.

**Працы па гаспадарцы.**

Абчышчаць дахі ад сьнегу.
Рэпарацыя плугоў, баронаў і іншага гаспадарчага інвэнтару.
Звазіць торф, шлям.
Праветрываць усялякае зярно.
Сартыроўка насеньня.
Нагляданьне за бульбай у складах.
Загатоўка мінэральных тукаў.

**Працы ў садзе.**

Прышчэпка дзічкоў.
Абрэзваць дрэвы падчас адлігаў у канцы месяцу.
Абтаптываць сьнег навакол дрэў ад мышэй.
Папраўка (рэпарацыя) інструмэнтаў, загатоўка падпорак.
Калі шмат сьнегу, абтрахваць з галінак, каб не паламаліся.

**Працы ў агародзе.**

Сяўба ў раньніх парнікох агуркоў, салаты, шпінату, морквы, пятрушкі і г. д.
Звазіць тукі (палепшаньні), гной.




**Усход і захад сонца**

| Чыслы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
|---|---|---|---|
| 1 | 6 г. 22 м. | 5 г. 04 м. | 10 г. 42 м. |
| 11 | 5 » 56 » | 5 » 24 » | 11 » 28 » |
| 21 | 5 » 30 » | 5 » 45 » | 12 » 15 » |
| 31 | 5 » 04 » | 6 » 05 » | 13 » 01 » |

**Перамены месяца**

● — сход . 5-га чысла
☽ — маладзік. 13-га „
◉ — поўня . 21-га „
☾ — ветах . 27-га „

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| АЎТОРАК. . . . . | | 4 | 11 | **18** | **25** | |
| СЕРАДА . . . . . | | 5 | **12** | 19 | 26 | |
| ЧАЦЬВЕР. . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| ПЯТНІЦА. . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| СУБОТА . . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

Непрацоўныя дні: 12 — Скінута самадзяржаўе. 18 — Дзень Парыскай Камуны. 25 — Благавешчаньне.
2, 9, 16, 23, 30 — нядзелі.

## Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**2 сакавіка 1919 году.** Адчыніўся Першы Міжнародны Зьезд камуністых у Маскве.

**3 сакавіка 1861 году.** Вызваленьне сялян ад памешчыцкага прыгону.

**5 сакавіка 1919 году.** Заснаваньне III Інтэрнацыяналу.

**9 сакавіка 1883 году.** Радзіўся беларускі пісьменьнік Францішак Аляхновіч.

**11 сакавіка 1887 году.** Радзіўся беларускі поэта Алесь Гарун (Аляксандар Прушынскі).

9 **12 сакавіка 1817 году.** Скінута самадзяржаўе.

**14 сакавіка 1883 году.** Памёр Карл Маркс у Лёндане.

**17 сакавіка 1886 году.** Радзіўся беларускі поэта й пісьменьнік Зьмітрок Бядуля-Ясакар (Самуіл Плаўнік).

**20 сакавіка 1922 году.** Памёр выдатны беларускі політычны й грамадзкі дзеяч Аляксандар Бурбіс.

**20 сакавіка 1921 году.** Падпісана паміж Савецкай Расіяй і Польшчай Рыжская ўмова, па якой Беларусь падзелена на дзьве часткі—Усходнюю й Заходнюю.

**Дзень Парыскай Камуны.** Дзень 18 сакавіка Савецкая ўлада абвясьціла непрацоўным вось чаму. У гэты дзень у 1871 годзе ў Парыжы (Францыя) паўсталі рабочыя ды захапілі ўладу ў свае рукі. Парыж быў агалошан вольнай Камунай. За кароткі час свайго істнаваньня (72 дні) Камуна правяла цэлы шэраг законаў у інтарэсах рабочай клясы: перадачу прадпрыёмстваў коопэрацыйным таварыствам рабочых, аддзяленьне царквы ад дзяржавы, абмежаваньне ночнай працы, зраўнаньне пэнсыі дзяржаўных служачых з аплатай рабочых, зьніштажэньне сталай арміі й інш. Парыская Камуна была першым у сьвеце рабочым урадам. Буржуазны францускі ўрад, які ўцёк з Парыжу, сабраў войска й пасьля жорсткіх крывавых баёў Камуна пала. Буржуазія расстраляла 25.000 камунараў і 15.000 камунараў адправіла ў ссылку і на катаргу.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў сакавіку.

**Працы па гаспадарцы.** Заканчэньне ўсялякіх звозаў. Рэпарацыя інвэнтара. Падкармліваць коняў перад вясеньнімі працамі. Загатоўка насеньня, сартыроўка. Звазіць гной на агароды. Чысьціць дарогі ад гразі і гною. Спускаць ваду з поля, каб ня вымакла жыта.

**Працы ў садзе.** Абчышчаць дрэвы ад імху і лісьцяў. Бяліць вапнай. Абтаптываць сьнег навакол дрэў. Абразаць дрэвы. Абарона дрэў ад шаракоў і мышэй.

**Працы ў агародзе.** Унаважваньне агароду. Загатоўка гною для рассаднікаў. Закладваць сярэднія (паўцёплыя) парнікі. Сяўба капусты, радысу і гароху (калі раньняя вясна) і г. д.




**Усход і захад сонца**

| Чыслы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
|---|---|---|---|
| 1 | 5 г. 02 м. | 6 г. 07 м. | 13 г. 05 м. |
| 11 | 4 » 36 » | 6 » 27 » | 13 » 51 » |
| 21 | 4 » 11 » | 6 » 47 » | 14 » 36 » |
| 30 | 3 » 50 » | 7 » 05 » | 15 » 15 » |

**Перамены месяца**

- —сход. . 4-га чысла
- —маладзік. 12-га „
- —поўня. . 19-га „
- —ветах. . 26-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| АЎТОРАК . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СЕРАДА . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| ПЯТНІЦА . . . | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| СУБОТА . . . | 5 | 12 | 19 | 26 | |

Непрацоўныя дні:
19—Вялікая субота.
20, 21—Вялікдзень.
6, 13, 20, 27—нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**2 красавіка 1871 году.** Пастанова Парыскай Камуны аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы.

**16 красавіка 1917 году.** Зварот у Расію з заграніцы У. І. Леніна.

**17 красавіка 1912 году.** Расстрэл рабочых на Ленскіх золатакапальнях у Сыбіры.

**20 красавіка 1864 году.** Павешаны ў Вільні царскай уладай першы беларускі рэволюцыянэр-паўстанец, дыктатар Літвы й Беларусі, Костусь Каліноўскі.

**22 красавіка 1870 году.** Радзіўся У. І. Ленін.

**Костусь Каліноўскі.** Першым беларускім рэволюцыянэрам, падняўшым беларускія сялянскі масы на ўзброенае паўстаньне проці польскіх паноў і царскай расійскай улады, быў Костусь Каліноўскі. Ён радзіўся ў вёсцы недалёка ад мястэчка Сьвіслач Горадзенскай губэрні. Будучы студэнтам пецярбурскага ўнівэрсытэту, Каліноўскі горача захапіўся ідэяй барацьбы з польскай абшарніцкай шляхтай і маскоўскім царызмам за нацыянальныя й соцыяльныя інтарэсы беларускіх сялян. У 1863 годзе, у часе польскага паўстаньня Каліноўскі стаў на чале паўстанчаскага камітэту Літвы й Беларусі. Каліноўскі хацеў узброенай сілай скінуць царскі й панскі прыгон над беларускімі сялянамі, хацеў выкінуць усю польскую шляхту з Беларусі й панскую зямлю падзяліць між працоўнымі земляробамі. Як царская маскоўская ўлада, так і польскія паны аднолькова ненавідзелі чырвонага правадыра паўстаўшых сялян і вялі акрутную барацьбу з Каліноўскім і яго атрадамі.

Каліноўскі друкаваў адозвы й газэту „Мужыцкая Праўда“ на беларускай мове ў патайной друкарні ў Беластоку.

Паўстаньне было задушана войскамі царскага гэнэрала Мураўёва, а сам Каліноўскі быў арыштаваны і 20 красавіка 1864 году быў павешаны ў Вільні.

---

# Сельска-гаспадарчыя працы ў красавіку.

**Працы па гаспадарцы.** Пачысьціць гумно й пуню. Спускаць ваду з поля, дзе пасеяна жыта. Рэпарацыя плотаў, мастоў і будынкаў. Сяўба дзятліны (клеверу) і цімафейкі ў жыце. Абгляд пшчолаў (у залежнасьці ад пагоды). Сяўба вікі, гароху, аўсу, пшаніцы й ярыны. Злучка кабыл. Чысьціць (халасьціць) жарабятаў, кныроў, парасятаў. Баранаваць пшаніцу і жыта (калі з зімы кепска выходзіць). Баранаваць другагоднюю дзятліну. Наглядыньне за сенажацьцю: баранаваць, выдзіраць мох, зрэзваць кочкі.

**Працы ў садзе.** Абрэзка дрэў. Араць і перакапаць між дрэвамі. Перасаджваць і выкапваць дрэвы. Пасеў насеньня яблыкаў, ігруш і інш. Бяліць вапнай. Прышчэпка. Апрысківаць медным купаросам. Абкладваць гноем кусты.

**Працы ў агародзе.** Сяўба морквы, радысу, рэпкі, гароху, шпінату, салаты, цыбулі для насеньяў; садзіць бульбу, хрэн.




**Усход і захад сонца**

| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
|---|---|---|---|
| 1 | 3 г. 48 м. | 7 г. 07 м. | 15 г. 19 м. |
| 11 | 3 » 26 » | 7 » 27 » | 16 » 01 » |
| 21 | 3 » 08 » | 7 » 45 » | 16 » 37 » |
| 31 | 2 » 55 » | 8 » 00 » | 17 » 05 » |

**Перамены месяца**

| | | |
|---|---|---|
| ● — сход. . . | 4-га | числа |
| ☽ — маладзік. . | 12-га | » |
| ○ — поўня. . | 18-га | » |
| ☾ — ветах. . | 25-га | » |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **4** | **11** | **18** | **25** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АЎТОРАК . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| СЕРАДА . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | **1** | 8 | 15 | 22 | **29** |
| ПЯТНІЦА . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СУБОТА . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

Непрацоўныя дні:
- 1 — Дзень Інтэрнацыяналу.
- 29 — Ушэсьце.
- 4, 11, 18, 25 — нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**1 травеня 1922 году.** Адчыненьне Дзяржаўнай Бібліатэкі ў Менску.

**1 травеня 1890 году.** Першае сьветкаваньне 1-га травеня.

**3 травеня 1882 году.** Радзіўся беларускі пісьменьнік Галубок (Уладыслаў Голуб).

**5 травеня 1818 году.** Радзіўся правадыр вызваленьня рабочай клясы Карл Маркс.

**20 травеня 1918 году.** Памёр беларускі пісьменьнік Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі).

**25 травеня 1917 году.** Памёр беларускі поэта Максім Багдановіч.

**30 травеня 1920 году.** Бела-польскія банды спалілі горад Барысаў.

**Першае травеня—сьвята рабочых.** Першага травеня гэтага году рабочыя ўсіх краін сьвяткуюць ужо 35-ы раз. У 1889 годзе ў Парыжы адбываўся міжнародны соцыялістычны конгрэс (зьезд), на якім былі прысутнымі прадстаўнікі палітычных партыяў працоўнай клясы розных краін. На гэтым зьезьдзе было пастаноўлена, каб на 1 травеня рабочыя ўсе разам ува ўсіх краінах зрабілі маніфэстацыю й вымагалі васьмігадзіннага рабочага дню. Кліч к сьветкаваньню 1-га травеня сустрэў гарачы водклік у рабочых масах. Пачынаючы ад 1890 году, пролетарыят паўсюды робіць першага травеня маніфэстацыі ў адзнаку братэрства й яднаньня пролетараў усіх краёў.

У савецкіх рэспубліках, і асобна ў Савецкай Беларускай рэспубліцы, рабочыя сьвяткуюць 1-га травеня, як сьвята вызваленьня працы.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў травені.

**Працы па гаспадарцы.**

Садзяць бульбу.
Сеюць усю ярыну, апрача грэчкі.
Стрыгуць авечак.
Злучаюць кабылы.
Аглядаюць пшчолы.
Рэпаруюць платы, тыны, будынкі.
Выганяюць жывёліну (скаціну), калі крыху паднімаецца трава.
Аруць пад грэчку.
Возяць гной на пар і пачынаюць заворваць.

**Працы ў садзе.**

Тыя самыя, што ў красавіку.
Барацьба з замаразкам дымам.
Апрысківаньне яблынь, ігруш перад красаваньнем.

**Працы ў агародзе.**

Полюць і разрыхліваюць грунт.
Наглядаюць за парнікамі.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 2 г. 45 м. | 8 г. 02 м. | 17 г. 08 м. |
| 11 | 2 » 46 » | 8 » 13 » | 17 » 27 » |
| 21 | 2 » 44 » | 8 » 18 » | 17 » 34 » |
| 30 | 2 » 49 » | 8 » 17 » | 17 » 28 » |

**Перамены месяца**

- —сход. . . 2-га чысла
- —маладзік. 10-га „
- —поўня. . 17-га „
- —ветах. . 24-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | 2 | **9** | 16 | 23 | 30 |
| АЎТОРАК . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| СЕРАДА . . . . | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ПЯТНІЦА . . . . | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| СУБОТА . . . . | 7 | 14 | 21 | 28 | |

Непрацоўныя дні: { 8, 9—Сёмуха.
1, 8, 15, 22, 29 —нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**6 чэрвеня 1799 году.** Радзіўся выдатнейшы расійскі поэта Аляксандар Пушкін (125-ці-годзьдзе ад дня нараджэньня).

**16 чэрвеня 1671 году.** Кара Сьцяпа Разіна, падняўшага батрацкасялянскае паўстаньне проці маскоўскага цара і памешчыцкай шляхты.

**17 чэрвеня 1921 году**—Адчыненьне III Конгрэсу (зьезду) Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

---

Руйнуецца старая лыганіна. Усё ясьней, усё яскравей, усё неадхільней устае перад мільёнамі і мільёнамі думаючых аб прычынах учарайшай вайны ды аб надыходзячай заўтрашняй вайне людзей суровая праўда: нельга вырвацца з гэтага імпэрыялістычнага пекла іначай, як толькі, праз бальшавіцкую вайну й бальшавіцкую рэволюцыю.

*Ленін.*

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў чэрвені.

**Працы па гаспадарцы.**

Заканчваюць сяўбу ўсёй ярыны і грэчкі.
Звозяць гной і разьбіваюць.
Баранують і акучваюць бульбу.
Полюць лён, пшаніцу і рэшту.
Чысьцяць канавы.
Косяць дзятліну, заліўныя і балотныя сенажаці.
Загатаўляюць торф для подсьцілак, паляпшэньня грунту й апалу.
Папраўляюць дахі й будоўлі.
Хварбуюць інвэнтар.
Паляпшаюць грунт штучнымі тукамі.

**Працы ў садзе.**

Апрысківаюць посьле красаваньня „парыскай зеленьню“.
Глядзяць за градкамі з насеньнем яблынь і груш.
У выпадку сухмені паліваюць сад.
Абкапваюць маладыя дрэвы.
Абрываюць краскі з іх.
Паляпшэньне ягад жыжай.

**Працы ў агародзе.**

Заканчваюць усю сяўбу і рассады.
Акучваюць капусту.
Ставяць падпоркі да гароху, фасолі і інш.
Полюць і матычаць наогул усю агародзіну.
У суніц (чырвонай ягады) абрываюць вусы.




| Усход і захад сонца | | | | Перамены месяца |
|---|---|---|---|---|
| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню | |
| 1 | 2 г. 49 м. | 8 г. 17 м. | 17 г. 28 м. | —сход. . 2-га чысла. |
| 11 | 3 » 00 » | 8 » 09 » | 17 » 09 » | —маладзік. 9-га „ |
| 21 | 3 » 14 » | 7 » 56 » | 16 » 42 » | —поўня. . 16-га „ |
| 31 | 3 » 32 » | 7 » 39 » | 16 » 07 » | —ветах. . 23-га „ |
| | | | | —сход. . 31-га „ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **6** | **13** | **20** | **27** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| АЎТОРАК . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СЕРАДА . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ПЯТНІЦА . . . . | 4 | **11** | 18 | 25 | |
| СУБОТА . . . . | 5 | 12 | 19 | 26 | |

Непрацоўныя дні: 6—Дзень зацьверджаньня канстытуцыі С. С. С. Р. 11—Дзень вызваленьня Менску з-пад белапольскай окупацыі. 6, 13, 20, 27—нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

8 ліпеня 1882 году. Радзіўся беларускі поэта Янка Купала (Іван Луцэвіч).

10 ліпеня 1923 году. Зацьверджана констытуцыя Саюзу Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік.

11 ліпеня 1920 году. Вызваленьне сталіцы Савецкай Беларусі Менску ад белапанскіх польскіх войск.

16 ліпеня 1918 году. Расстрэл Мікалая II ў Екацярынбурзе.

24 ліпеня 1922 году. Памёр грамадзкі й палітычны беларускі змагар-комуністы Сьцяпан Булат.

28 ліпеня 1920 году. Памёр беларускі поэта Алесь Гарун.

---

Чытаньне кніжак—гэта размова з самымі лепшымі людзьмі, і ў дадатку гэткая размова, калі яны выкладаюць вам толькі лепшыя свае думкі.

*Дэкарт.*

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў ліпені.

Працы па гаспадарцы. Закончыць звоз гною і разьбіўку яго. Заканчваюць касьбу балотных сенажацяў і дзятліны. Касьба мурожных сенажацяў. Акучваюць бульбу. Полюць лён і іншую ярыну. Раеньне пшчол. Пачатак жніва. Выбіраньне мёду з рамкавых вульёў.

Працы ў садзе. Акуліроўка дзічкоў. Апрысківаць дрэвы. Зьбіраць маліну, раньнія гатункі вішань, чарэшні. Падпоркі да яблынь і груш. Павялічаньне колькасьці ягадных кустоў шляхам адводкі. Паляпшэньне грунту пад ягадамі жыжай.

Працы ў агародзе. Матычыць бульбу, памідоры. Пасынкаваць кукурузу. Нагляданьне за суніцай (чырвонай ягадай). Полива. Выкапваць бульбу. Зьбіраць раньнія агародвіны. Паліваць агароды.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыслы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 3 г. 34 м. | 7 г. 37 м. | 16 г. 03 м. |
| 11 | 3 » 52 » | 7 » 16 » | 15 » 24 » |
| 21 | 4 » 12 » | 6 « 53 » | 14 » 41 » |
| 31 | 4 » 31 » | 6 » 28 » | 13 » 57 » |

**Перамены месяца**

| | | |
|---|---|---|
| ☾—маладзік. . | 8-га | чысла |
| ●—поўня . . | 14-га | » |
| ☽—ветах. . . | 22-га | » |
| ●—сход. . . | 30-га | » |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **3** | **10** | **17** | **24** | **31** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| АЎТОРАК . . . . | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| СЕРАДА . . . . | | **6** | 13 | 20 | 27 | |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| ПЯТНІЦА . . . . | 1 | 8 | **15** | 22 | 29 | |
| СУБОТА . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

Непрацоўныя дні: 6—Праабражэньне. 15—Усьпеньне.
3, 10, 17, 24, 31—нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**6 жніўня 1517 году.** Вышла з друку ў Празе Чэскай першая беларуская кніга (Псалтыр), напісаная беларускім вучоным Франціскам Скарынаю.

**10 жніўня 1920 году.** Вышаў у сьвет першы нумар газэты „Савецкая Беларусь“.

**30 жніўня 1918 году.** Па загаду партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў Каплан страляла ў т. Леніна.

**Францыск Скарына.** Першы беларускі друкар і вучоны доктар мэдыцыны Францыск Скарына нарадзіўся блізка 1490 году ў Полацку. Пачаткаў граматы ён навучыўся ў хаце; трынаццаці год з роду ён апынуўся ў Вільні, а калі яму было 14-15 гадоў нейкія беларускія магнаты адправілі яго вучыцца ў унівэрсытэт у Кракаў. Скончыўшы унівэрсітэт, Скарына паехаў у Італію, дзе ізноў вучыўся й дастаў вучоную ступень доктара мэдыцыны. Пазьней Скарына падарожнічаў па Нямеччыне. Прыехаўшы ў горад Прагу, ён з 1517 году пачаў там друкаваць кнігі на беларускай мове. Яшчэ пазьней (1525 г.), забраўшы з Прагі літары й усе друкарскія прылады, Скарына прыехаў на бацькаўчшыну, у Вільню, дзе залажыў першую на Беларусі друкарню.

Усяго Скарына надрукаваў 22 кнігі. Першая з іх вышла з друку 6 жніўня 1517 году, ад якога дню й лічыцца пачатак беларускага друку.

У 1917 годзе беларусы сьвяткавалі 400-годзьдзе свайго друку.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў жнівені.

**Працы па гаспадарцы.**

Жніво жыта.

Малацьба жыта на насеньне.

Сяўба жыта.

Паляпшэньне грунту пад жыта мінэральнымі тукамі і салітрай пасьля ўсходу жыта.

Стрыгуць маладых авечак.

Убіраюць дзятліну на насеньне.

Убіраюць ярыну.

Паляпшэньне грунту пад дзятліну томасфосфатам посьле першай касьбы.

Выбіраюць мёд з рамкавых вульлёў.

Убіраюць лён, малоцяць і сьцелюць.

**Працы ў садзе.**

Паляпшэньне саду мінэральнымі тукамі.

Окуліроўка дзічкоў.

Іншыя працы—тыя самыя, што ў ліпені.

Засаджваюць новыя градкі трускаўкай і суніцамі.

**Працы ў агародзе.**

Зьбіраюць раньнюю агародніну і раньнюю бульбу.

Засаджваюць суніцы.




**Усход і захад сонца**

| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
|---|---|---|---|
| 1 | 4 г. 33 м. | 6 г. 25 м. | 13 г. 52 м. |
| 11 | 4 » 52 » | 5 » 59 » | 13 » 07 » |
| 21 | 5 » 12 » | 5 » 33 » | 12 » 21 » |
| 30 | 5 » 29 » | 5 » 09 » | 11 » 40 » |

**Перамены месяца**

- ☾—маладзік. 6-га чысла
- ●—поўня. 13-га „
- ☽—ветах. 21-га „
- ●—сход . 28-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| НЯДЗЕЛЯ. . . . . | | | | | |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| АЎТОРАК. . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СЕРАДА . . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| ЧАЦЬВЕР. . . . . | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ПЯТНІЦА . , . . | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| СУБОТА . . . . . | 6 | 13 | 20 | 27 | |

Непрацоўныя дні: 7, 14, 21, 28—нядзелі.

# Рэвалюцыйна-грамадзянскі каляндар.

1 верасьня 1906 году. Вышаў у Вільні першы нумар першай легальнай (дазволенай) беларускай газэты „Наша Доля".

3 верасьня 1866 году. Першы Конгрэс (зьезд) І-га Інтэрнацыяналу ў Жэнэве (Швэйцарыя).

15 верасьня 1921 году. Адчыненьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску.

17 верасьня 1921 году. Адчыненьне Беларускага Дзяржаўнага Акадэмічнага Тэатру ў Менску.

**Беларуская газэта.** Друкаванае слова, кніга й газэта маюць вялізарнае значэньне ў жыцьці кожнага народу, бо яны, як ліхтар, асьвятляюць шлях да лепшай культуры й лепшага дабрабыту.

Беларускі народ, якога да часу кастрычнікавай рэвалюцыі (1917 г.) заміналі іншыя культурна й эканамічна сільнейшыя народы, у ранейшыя часы быў пазбаўлены свайго роднага друкаванага слова, сваіх кніг і газэт. Пачынаючы ад 1918 году ды асабліва пасьля заснаваньня Беларускай Савецкай Рэспублікі пачалася шырокая праца па друкаваньню беларускіх кніг, часопісаў і газэт.

Першыя беларускія газэты друкаваліся патаемна і конфіскаваліся царскай уладай. Першая патаемная беларуская газэта друкавалася рэвалюцыянэрам Каліноўскім у Беластоку ў 1863 годзе й называлася „Мужыцкая Праўда".

Першая легальная (дазволеная ўладай) газэта выйшла з друку ў Вільне ў 1906 годзе пад назваю „Наша Доля".

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў верасьні.

**Працы па гаспадарцы.**

Заканчваюць малацьбу лёну і засеў жыта. Убіраюць ярыну і насенную дзятліну. Капаюць бульбу. Убіраюць лён. Заворваюць на зіму. Возяць гной пад вясеньні засеў. Косяць атаву. Малоцяць жыта. Падрэзваюць мёд у калодах. Выкапваюць барозды дзеля спуску вады па пасеянаму жыту.

**Працы ў садзе.**

Зьбіраюць яблыкі, ігрушы, сьліўкі і інш. Капаюць ямы для новых пасадак. Даглядаюць за дзічкамі.

**Працы ў агародзе.**

Зьбіраюць агародніну і бульбу. Чысьцяць парнікі. Падгатоўка градак для азімай сяўбы. Загатоўка розных грунтоў (зямлі), праца з кампостамі.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 5 г. 31 м. | 5 г. 06 м. | 11 г. 35 м. |
| 11 | 5 » 51 » | 4 » 41 » | 10 » 50 » |
| 21 | 6 » 12 » | 4 » 16 » | 10 » 04 » |
| 31 | 6 » 33 » | 3 » 53 » | 9 » 20 » |

**Перамены месяца**

- —маладзік. . 5-га чысла
- —поўня. . . 12-га „
- —ветах. . . 21-га „
- —сход. . . 28-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . | | **5** | **12** | **19** | **26** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| АЎТОРАК . . . . | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СЕРАДА . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ЧАЦЬВЕР . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ПЯТНІЦА . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| СУБОТА . . . . . | 4 | 11 | 18 | 25 | |

Непрацоўныя дні: **5, 12, 19, 26**—нядзелі.

# Рэвалюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**12 кастрычніка 1492 году.** Адкрыцьцё Калумбам Амэрыкі.

**13 кастрычніка 1905 году.** Арганізацыя першага Савету Рабочых Дэпутатаў у Пецярбурзе.

**29 кастрычніка 1981 году.** Адчыненьне І-га Конгрэсу (зьезду) Саюзу Моладзі ў Маскве.

**30 кастрычніка 1921 году**—Адчыніўся Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску.

**Комуністычны Саюз Моладзі (Комсамол).** Працоўная моладзь ад дзіцячых гадоў жыве ў цяжкіх варунках барацьбы за кавалак хлеба, жыве пазбаўленая радасьцяў. Працоўная моладзь належыць да пролетарскай клясы, а дзеля таго, што моц клясы залежыць ад яе арганізаванасьці, то й працоўная моладзь арганізуецца ў свой саюз. У аснову гэтага саюзу паложан комунізм і самачыннасьць.

У саюзе працоўная моладзь праходзіць школу рэволюцыйнай барацьбы, каб з часам уліцца ў перадавы атрад пролетарыяту—у комуністычную партыю.

У Савецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы Комуніст. Саюз Моладзі арганізаваўся ў 1917 годзе, а першы Зьезд Саюзу Моладзі быў у кастрычніку (29-га) 1918 году.

Комсамол усіх савецкіх рэспублік налічвае каля 500.000 чалавек і ўваходзіць у Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў кастрычніку.

**Працы па гаспадарцы.**

Заканчваюць капаньне бульбы. Заворваюць на зіму. Зьбіраюць лён, каноплі. Нагляданьне за сенажацямі: чысьцяць ад кустоў, ад каменьняў, зрэзваюць кочкі, барануюць (скародзяць) ад моху. Паляпшаюць сенажаці мінэральнымі тукамі. Зьбіраюць жалуды. Звозяць сена. Падкармліваюць скаціну, асабліва дойных кароў. Прадаюць лішнюю скаціну. Гадуюць сьвіней.

**Працы ў садзе.**

Садзяць дрэвы. Прыкапваюць дрэвы й кусты, якія будуць саджацца вясной.—Капаюць ямы дзеля вясеньняй пасадкі. Беляць вапнай, счышчаюць мох. Абараняюць маладыя дрэвы ад шаракоў і мышэй. Чысьцяць сад.

**Працы ў агародзе.**

Заканчваюць зьбіраньне агародзіны. Паляпшэньне й заворваньне агароду. Загатоўка новых парнікоў. Азімая сяўба морквы, цыкорыю і інш. Зьбіраюць насеньне і чысьцяць яго.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыс-лы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 6 г. 35 м. | 3 г. 51 м. | 9 г. 16 м. |
| 11 | 5 » 56 » | 3 » 31 » | 8 » 35 » |
| 21 | 7 » 16 » | 3 » 14 » | 7 » 58 » |
| 30 | 7 » 33 » | 3 » 04 » | 7 » 31 » |

**Перамены месяца**

- ☾—маладзік, 4-га чысла
- ◉—поўня. . 11-га „
- ☽—ветах. . 19-га „
- ●—сход. . 26-га „

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| АЎТОРАК . . . . | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| СЕРАДА . . . . . | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ЧАЦЬВЕР. . . . . | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| ПЯТНІЦА. . . . | | **7** | 14 | 21 | 28 | |
| СУБОТА . . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

Непрацоўныя дні:
- 7 лістапада—Дзень Пролетарскай Рэволюцыі.
- 2, 9, 16, 23, 30—нядзелі.

## Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

5 лістапада 1887 году. Радзіўся беларускі пісьменьнік і поэта Цішка Гартны (Зьміцер Жылуновіч).

7 лістапада 1917 году. Пачатак пролетарскай рэволюцыі.

20 лістапада 1896 году. Радзіўся беларускі поэта М. Чарот (Міхась Кудзелька).

20 лістапада 1884 году. Радзіўся беларускі пісьменьнік Язэп Лёсік.

Кастрычнікавая рэволюцыя. 7-га лістапада (па старому стылю гэта прыпадае на 25 *кастрычніка*),—гэта дзень, у які ў 1917 годзе пролетарыят скінуў буржуазны Часовы Ўрад і перадаў уладу ў рукі Саветаў (радаў). Гэты дзень ёсьць самае вялікае сьвята ў Савецкіх рэспубліках, бо ў гэты дзень усе працоўныя масы сьвяткуюць самую вялікую сваю перамогу над векавым ворагам—панамі-капіталістымі, сьвяткуюць сваю вялікую ўдачу—захопленьне ўлады ў свае рукі.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў лістападзе.

### Працы па гаспадарцы.

Заканчваюць усе працы на полі.
Даглядаюць за сенажацямі (як у кастрычніку).
Звозяць сена, дровы.
Дагляданьне за хлевам, каб скаціне было цёпла і суха.
Рэпаруюць дахі, будынкі, платы, масты.
Малоцяць жыта, пшаніцу, авёс і г. д.
Наглядаюць за складамі бульбы, за сьвіранамі.
Гадуюць сьвіньней і скаціну.
Прадаюць лішнюю жывёліну.

### Працы ў садзе.

Тыя самыя, што ў кастрычніку.

### Працы ў агародзе.

Заканчваюць усе працы і наглядаюць за кампостамі.
Чысьцяць насеньне.




| Усход і захад сонца | | | |
|---|---|---|---|
| Чыслы | Усход | Захад | Даўжыня дню |
| 1 | 7 г. 35 м. | 3 г. 03 м. | 7 г. 28 м. |
| 11 | 7 » 49 » | 2 » 57 » | 7 » 08 » |
| 21 | 7 » 58 » | 2 » 58 » | 7 » 00 » |
| 31 | 8 » 00 » | 3 » 06 » | 7 » 06 » |

**Перамены месяца**

- —маладзік. 3-га чысла.
- —поўня. . 11-га „
- —ветах. . 19-га „
- —сход. . 26-га „

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| НЯДЗЕЛЯ . . . . | | **7** | **14** | **21** | **28** |
| ПАНЯДЗЕЛАК . . . . | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| АЎТОРАК . . . . | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СЕРАДА . . . . | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ЧАЦЬВЕР . . . . | 4 | 11 | 18 | **25** | |
| ПЯТНІЦА . . . . | 5 | 12 | 19 | **26** | |
| СУБОТА . . . . | 6 | 13 | 20 | 27 | |

Непрацоўныя дні:
- 25, 26—Коляды.
- 7, 14, 21, 28—нядзелі.

# Рэволюцыйна-грамадзянскі каляндар.

**16 сьнежня 1905 году.** Царская ўлада арыштавала першы Савет Рабочых Дэпутатаў у Пецярбурзе.

**26 сьнежня 1825 году.** Паўстаньне „дзекабрыстаў“ проці царскай улады.

**30 сьнежня 1922 году.** Утварэньне Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік.** Саюз гэты (скарочана яго азначаюць СССР) ёсьць саюзная дзяржава, злучаючая савецкія рэспублікі: Расійскую, Украінскую, Беларускую й Закаўказкую. Аб'яднаньне гэтых рэспублік адбылося 30 сьнежня 1922 году на першым зьездзе Саюзу савецкіх рэспублік, на якім дэлегацыямі гэных рэспублік была падпісана ўмова аб аб'яднаньні. Саюз зьяўляецца дабравольным і кожная рэспубліка мае права выхаду з Саюзу. Уступаць у Саюз могуць як усе істнуючыя савецкія соцыялістычныя рэспублікі, гэтак і ўсе, якія маюць быць створанымі ў будучыне.

---

## Сельска-гаспадарчыя працы ў сьнежні.

**Працы па гаспадарцы.**

Звозяць дровы, сена, матар'ял для будоўлі, торф для паляпшэньня грунту, для подсьцілкі і апалу. Малоцяць. Кормяць і б'юць сьвіньней. Наглядаюць за складамі бульбы і агародніны. Аглядаюць будынкі, каб не задувала; аглядаюць хлеў, каб скаціне было цёпла і суха.

**Працы ў садзе.**

Чысьцяць дрэвы ад сушняку, моху і г. д. Убіваюць сьнег. Перасаджваюць вялікія дрэвы ў загатоўленыя ямы. Вырэзваюць колікі, падпоркі. Рэпаруюць інструмэнты.

**Працы ў агародзе.**

Рэпаруюць інструмэнты і парніковыя рамы. Вяжуць маты. Звозяць торп дзеля паляпшэньня грунту.

---

# Комуністычная партыя.

Капіталісты, фабрыканты, паны-абшарнікі ды наогул багатыя людзі здаўна вядуць упартую й акрутную барацьбу за тое, каб ім адным належалі ўсе прывілеі і ўсё багацьце. Яны дзе хітрасьцю й маной, дзе сілаю й гвалтам, а дзе рэлігіяй і навукай захапілі ў свае рукі гандаль, прамысловасьць, землі й лясы, золата й банкі, захапілі ўладу й войска. Маючы ўсё гэта, капіталісты бязупынна змагаюцца, каб утрымаць і надалей усё здабытае, каб і надалей самім не працаваць, а толькі весела, сыта й спакойна жыць з чужое працы, з працы рабочых і сялян.

Людзі гэтыя, якія самі не працуюць, а жывуць коштам чужой працы, жывуць на капітал, здабыты рукамі працоўных людзей,—складаюць *клясу капіталістаў*.

А людзі, якія заўсёды працуюць і з гэтай працы ледзь толькі маюць на пракорм сябе й сям'і—гэтыя людзі складаюць *клясу пролетараў*. Да гэтае клясы належаць рабочыя, незаможныя сяляне, дробныя рамесьнікі.

Кляса капіталістаў і кляса пролетараў вядуць паміж сабой барацьбу. Барацьба гэтая завецца клясавай або *політычнай барацьбой*.

Як у вайсковай барацьбе ёсьць з кожнага ваюючага боку свае камандуючыя і штабы, гэтак сама і ў політычнай барацьбе ёсьць на кожным баку свае кіруючыя і свае штабы.

Кожнай політычнай барацьбой кіруюць *політычныя партыі*. Кляса капіталістаў мае свае партыі, а кляса пролетараў—свае.

Партыя, як паказвае самая назова ад лацінскага слова „парс"—што азначае „частка"—гэта ёсьць частка клясы, тая частка, якая зложана з найболей здольных, найболей адважных і разумных прадстаўнікоў клясы.

У быўшай царскай Расіі была політычная барацьба паміж царскім урадам, памешчыкамі, капіталістамі—з аднаго боку і рабочымі і сялянамі—з другога. З боку першых былі партыі монархістаў (ад слова „монарх"—знача „цар"), констытуцыйных дэмократаў (карацей іх называюць „кадэтамі") і яшчэ „партыя 17 акцябра" ці „акцябрыстаў". Гэтыя партыі стаялі на абароне царскай улады, на абароне капіталу і прыватнай уласнасьці. Яны нізашто не хапелі згадзіцца, каб дапусьціць да ўлады прадстаўнікоў з пролетарыяту.

За пролетарыят стаялі партыі: соцыял-дэмократы (эсдэкі) і соцыялісты-рэволюцыянэры. Але з ходам політычных падзей і загостраньнем політычнай барацьбы, абедзьве гэтыя партыі здрадзілі пролетарыяту. І вось з нетраў соцыял-дэмократычнай партыі выйшлі людзі, якія не захацелі здрадзіць, якія адмовіліся пакінуць працоўныя масы ў цяжкай

барацьбе і стварылі сваю асобную запраўдна-пролетарскую партыю—*партыю комуністычную.*

Першым арганізатарам і правадыром гэтай партыі быў Ленін (Ульянаў), які разам з сваімі аднадумцамі стварыў новы плян барацьбы за вызваленьне работніцкіх мас.

Які-ж гэты плян, *да чаго-ж імкнецца* створаная т. Леніным *комуністычная партыя?*

Комуністычная партыя хоча даканца разбурыць на ўсёй *зямлі панаваньне капіталістаў і паноў, хоча адабраць ад іх усе фабрыкі, заводы, землі й іншыя багацьці ды аддаць усё гэта на карыстаньне працоўным людзям.*

*Комуністычная партыя імкнецца назаўсёды скасаваць панаваньне й гвалт адных людзей над другімі ды гэтак пабудаваць людзкае жыцьцё, каб панавала на ўсім сьвеце вольная праца на карысьць і шчасьце працоўных людзей.*

*Комуністычная партыя змагаецца супроць ганебнага прыгнечаньня аднаго народу другім народам і хоча роўнасьці ўсіх народаў, незалежна ад іх рэлігій і колеру іх скуры.*

Як і кожная партыя, комуністычная партыя злажылася не ў адзін дзень, але на працягу шмат гадоў. І хаця фактычна яна створана была ў 1903 годзе, але карані яе йдуць у далёкую мінуўшчыну, у тыя часы, калі толькі яшчэ пачынаўся першы праўдзіва-работніцкі, пролетарскі рух. Партыя пачала забіраць сілу й канчаткова а рымала перавагу над іншымі работніцкімі партыямі, калі на чале яе стаў тав. Ленін. Ён на працягу шмат гадоў дасьледваў пролетарскі рух і палітычную барацьбу сярод розных народаў і ў розныя часы. Ён глыбака пераканаўся, што у пролетарыяту ёсьць адзіна толькі верны шлях да лепшае будучыны—гэта аружнай сілай забраць ад буржуазіі ўладу ды пролетарскімі рукамі будаваць новае жыцьцё. Ня згода з капіталістамі, а самая вострая й акрутная барацьба з імі—гэтак вучыў т. Ленін і гэтак павінен думаць і рабіць кожын чэсны пролетар.

Рабочыя й сяляне павінны ня ласкі прасіць у капіталістаў, але сілаю адабраць ад іх уладу ды самі кіраваць дзяржавай.

Гэткі покліч зрабіла расійская комуністычная партыя ў кастрычніку 1917 году. Усе гарадзкія й вясковыя працоўныя масы, пачуўшы гэты прызыў, дружна ўзяліся за зброю й скінулі ўладу капіталістаў і паноў-абшарнікаў.

Дзякуючы таму, што барацьбой кіравала комуністычная партыя, дзякуючы таму, што яна здолела аб'яднаць рабочых і сялян і падтрымаць іх ваяўнічы, змагарны дух,—работніцка-сялянская армія перамагла сваіх ворагаў. Яна перамагла ня толькі сваіх расійскіх ворагаў, але і ўсіх іх памоцнікаў заграні́чных, якія давалі грошы й войска, каб задушыць маладую пролетарскую ўладу і яе кіраўніка—расійскую комуністычную партыю.

Цяпер ужо па прыкладу расійскай комуністычнай партыі створаны комуністычныя партыі ва ўсіх народаў, і там гэтыя партыі гуртуюць рабочых і сялян да аружнага паўстаньня супроць іхняе буржуазіі.

Комуністычныя партыі ўсяго сьвету маюць адну мэту, адно заданьне—стварыць сусьветную пролетарскую рэспубліку, у якой вышэйшым законам для ўсіх будзе закон Працы.

---

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## Што рабіць у часе адлігі.

У часе адлігі, калі поле выглядае плямаватым, бо сьнег ужо часткамі зьнікае і выступае чорная зямля, добры гаспадар павінен сваё поле, засеенае азімінай, абыйсьці ды паглядзець, ці адходзіць вада з сьнегу па разорах і раўчаках. Вада гэтая не павінна зьбірацца ў лужыны на азімях, бо яны ў гэтых мясцох вымакнуць. Калі-ж сьнегавая вада застойваецца, то яе трэба спусьціць у бліжэйшую разору (мяжу). Выхады разораў (межаў паміж загонамі павінны злучацца без перашкод з канаваю (ровам) на беразе поля, каб вада сплывала свабодна.

Калі пасьля адлігі створыцца на сьнезе і на гэткіх лужынах цьвёрдая лёдавая кара, то трэба яе зламаць, раскідаць або загнаць туды коней, каб пакрышылі кару. Пад гэткай карой збожжа лёгка спрэе, асабліва жыта, і чымся буйнейшым было ўвосень, тым хутчэй згніе.

Асабліва трэба ў час адлігі даглядаць за палямі з глебай глiністай, на якіх сьнегавая вада найлягчэй творыць лужыны, а лёдавая кара тут шкодзіць найболей.

## Як падымаць навіну.

Для апрацоўкі навіны самы лепшы час—гэта восень. Навіною завецца такі грунт, які быў да гэтага часу выганам, гаеўнікам ці лесам і які цяпер перарабляецца на ворнае поле.

Сухія й дрэнныя выганы ня прыносяць ніякае карысьці; на гэткіх землях, паскольку яны ня зусім пясчаныя, можна мець болей карысьці, перарабіўшы іх на ральлю, але трэба пры гэтым ужываць штучнае ці зялёнае (лубін) угноеньне.

Перад апрацоўкай навіны трэба ўзгорачкі, мурашыныя і кратовыя кучы раскапаць і зраўняць, ялоўцы і іншыя кусты павыцінаць і выкарчаваць. Плуг павінен быць моцны, а жывёлы моцныя й спакойныя—найлепей валы або старыя, аднак сільныя, коні. Ворыва ў стане вялікіх скіб пакі-

даепца на зіму, каб зямля пакрышылася, а дзірван згніў. Толькі ўвесну пачынаецца добрая апрацоўка баронамі пад сяўбу аўсу ці грэчкі.

*Навіны лясныя* рыхтуюцца праз цэлы год, у вольны час, зьнішчаючы пянькі й корані. Больш грубыя пянькі часта прыходзіцца пакідаць, каб гнілі на месцы, хаця й перашкаджаюць яны добрай апрацоўцы. Пад першую сяўбу, калі ня ўсе пянькі выкінуты, зямля апрацоўваецца ручной рыдлёўкай.

Каб зьнішчыць вялікія пні, робяць у іх дзіркі ў самым нізе, набіваюць іх порахам і запаляюць. Гэту работу трэба рабіць асьцярожна. Яшчэ ляпей, калі нішчыць пні зараз па сьпілаваньні дрэва. У дзірку, зробленую зьверху пянька, набіваюць салітры і затыкаюць драўляным коркам. Салітра рассасецца (разойдзецца) па ўсяму кораню, і калі зрабіць гэта ўзімку, то вясной пянькі можна падпаліць і яны выгараць без астатку.

Лясная навіна, увосень узараная, а ўвесну добра разьбітая баронамі, можа быць засявана просам, аўсом, грэчкаю ці жытам яравым; таксама можна садзіць картоплю ці моркву.

Першыя пару гадоў лясныя навіны звычайна даюць добрыя ўраджаі.

## Як засяваць авёс.

У нашай сялянскай гаспадарцы звычайна меней усяго зьвяртаюць увагі на апрацоўку поля пад авёс і на засеў аўсу. Сеюць яго на найгоршых і высмактаных глебах, на полі, якое мінулаю восеньню было стаптана быдлам. Зямлю блага апрацоўваюць, а насеньне для засеву бяруць абы якое, бо шмат гаспадароў буйнейшае й ляпей ачышчанае зярнё прадаюць. Таму то і ўраджаі ў сялянскіх гаспадарках надта дрэнныя. Авёс лічыцца гэткай апошняй расьлінай, якой пакідаюць выцягаць рэшткі ўраджайнасьці глебы.

Гэтак мала зьвяртаць увагі на авёс нельга, бо пры добрай апрацоўцы, замест 5 корцаў (18 пудоў) аўсу, з моргу можна атрымаць 25 корцаў (90 пудоў). У лепшых гаспадарках гэткі збор зусім ня рэдкасьць. Слушна кажуць спрактыкаваныя гаспадары, што „перад добрым аўсом і пшаніца шапку здымае“.

Добры ўраджай аўсу можна атрымаць у кожнай гаспадарцы; ня трэба для гэтага аніякай надзвычайнай умеласьці, толькі крыху стараннасьці, крыху адпаведнай апрацоўкі, чымся звычайна робіцца. Удаецца на ўсякай глебе, як на пяску, так і на гліне; зразумела, што найляпей на сярэдняцягучай, лёгкай гліне. Нават ральлі занядбалыя, рэдка ўгнойваныя, квасныя могуць даваць добрыя ўраджаі, таму што авёс мае вельмі доўгія й разгалінёныя карані, якія глыбака разрастаюцца ў зямлі; загэтым авёс можа вырасьці, нават, на такой зямлі, дзе іншыя расьліны растуць дрэнна.

Авёс можна сеяць пасьля ўсякіх расьлін,—але калі залішне часта авёс прыпадае пасьля аўсу, то ўраджай дае благі, бо зашмат высмоктвае зямлю. Таксама кепска сеяць авёс пасьля ячменю. Найлепей удаецца авёс пасьля буракоў, бульбы і на глебах лёгкіх, на зялёным угноеньні, завораным увосень.

Гатункаў аўсу ёсьць шмат. Галоўных гатункаў—два: 1) *авёс вэнгэрскі або грывак*, які мае вузкі колас, сабраны ў купу і павернуты ў адзін бок, як у проса; 2) *авёс звычайны*.

Авёс вэнгэрскі мае грубую, цьвёрдую салому, вялікія зернавыя плеўкі, зерне доўгае і тонкае, позна пасьпявае. Гэты гатунак добры тым, што ня так лёгка палягае, як звычайны авёс.

Авёс звычайны дае зерне буйнейшае, але крыху меней саломы. Ёсьць шмат адмен гэтага аўсу: адны пасьпяваюць раней, другія—пазьней.

Абрабляць зямлю пад авёс трэба ўвосень, каб увесну з сяўбой аўсу не спазьніцца. Авёс, пасеяны пры веснавой апрацоўцы, дае зерне благое, салома расьце буйна і лёгка палягае, пры васеннай—зерне вялікшае, але салома крыху карацейшая.

Авёс патрабуе сяўбы раньняй, лепей пасеяць яго раней, чым пазьней. Нават калі трапяцца доўгія прымаразкі, то засеянаму зерню яны нікаліва не пашкодзяць, абы яно было добра прыкрыта зямлёй. Ляжыць зярнё мёртвым у зямлі, пакуль глеба не пацяплее, і пасьля добра расьце. Значыцца, з сяўбой аўсу трэба сьпяшацца. Як толькі магчыма ўжо выехаць з баронамі, трэба зараз-жа прыймацца баранаваць вострымі й важкімі баронамі поле, якое перад тым увосень было глыбака ўзорана. Пасеяўшы авёс, трэба пакрыць яго зямлёй, дзеля чаго бароную́ць глебу даволі глыбака.

На вельмі цяжкіх глебах трэба перад сяўбой ральлю зрабіць пухлай; пасеяўшы, пакрыць зёрны зямлёй, дзеля чаго баранують важкімі баронамі двуразовай валочкаю. На лёгкіх, пяшчаных глебах, пасеяўшы і пакрыўшы зямлёй, трэба яе яшчэ крыху прыціснуць круглым вальцом.

На ўсіх хутка высыхаючых глебах найлепшы й самы пэўны ўраджай будзе пры сяўбе радкамі, бо тады авёс не палягае, хоць і буйна расьце. Перад сяўбой радкамі ральля павінна быць добра апрацована баранаваньнем, а пасьля сяўбы прыціснута вальцамі.

На глебе, якая па дажджу мягчэе й пасьля карэе, ва[illegible]аваць шкодна, бо новыя дажджы твораць на глебе кару, перашкаджаючую прарocту аўсу.

Пры ручной сяўбе высяваецца на 1 дзесяцціну 6 пудоў, а на мала ўраджайнай глебе нават да 10 пудоў 6 пудоў аўсу. Пры сяўбе радкамі даволі ад 5 да 6 пудоў.

## Як засяваць лубін.

Лубін ужываецца на пашу і на зялёны гной. На пашу й заворваньне можна засяваць яго й пазьней, нават у ліпені, пасьля іншых расьлін, пасьля жыта і г. пад. Калі-ж хочуць скарыстаць яго на насеньне, то трэба яго пасеяць ужо ў красавіку. На глебах пяшчаных сеюць *жоўты лубін*, на глiністых—*нябескі лубін*, які бывае двух гатункаў: з белым ці шэрым круглым зернем і з кветкамі нябескімі ці белаватымі.

Апрацоўка ральлі робіцца ўвосень ці толькі вясной, г. ё. адно ворыва, пасьля якога трэба вельмі добра вычысьціць поле ад зельля.

Засяваць лубін можна на грубую скібу. Заворваць ня трэба, бо лубін ня зносіць глыбокага пакрыцьця.

Нябескага лубіну высяваецца на морг: калі сеяць на насеньне і радкамі, то 6—7 пудоў, а калі раскідаць, то на 1-2 пуды болей; сеючы на пашу ці на зялёнае ўгноеньне, трэба ўзяць на морг 9 пудоў.

Жоўтага лубіну выходзіць на $^1/_2$—1 пуд меней.

Перад ужываньнем зярна лубіну для корму, трэба яго пазбавіць ад горкавасьці, каб яго магла есьці жывёла. Для гэтага лубін гатуецца ў працягу аднэй гадзіны, а пасьля вымачваецца ў дзьвюх зьменах вады. Яшчэ ляпей, калі звараны лубін насыпаць у мяшок ці кош і палажыць у бягучую ваду (крыніцу, рэчку), якая адмые ўсю горкавасьць.

Для пашы лубін можна сеяць крыху пазьней, да канца мая (травеня), абы толькі можна было яго добра высушыць пры канцы лета, таму што пазьней ён кепска сохне. На пяшчаных палёх сеецца жоўты лубін на зялёнае ўгноеньне дзеля заворваньня пад азімае жыта. Сяўбу трэба рабіць як мага раней, у красавіку, каб вырасшы лубін можна было ў ліпені заворваць; пад бульбу служыць лубін пасеяны ў ліпені.

## Збор стручковых расьлін.

*Гарох* зьбіраюць тады, калі частка ніжніх стручкоў пачне бялець і жоўкнуць; чакаць, пакуль зусім дасьпеюць, нельга, бо гарох перастаіцца ды самае буйнейшае зерне высыплецца.

Калі гарох ня вельмі пераблытаны, то сьцінаць гарох трэба сярпом ці касой. Пасьля высыханьня, у часе добрай пагоды, звозіць з поля можна бывае ўжо на другі дзень.

Чысты гарох, бяз зельля сохне хутка; калі ён з зельлем, то чакаюць, пакуль зельле прасохне, каб гарох, зложаны ў гумно, не сагрэўся й не сплясьнеў.

У выпадку няпэўнай пагоды найляпей гарох адразу разьвесіць на козлы, на якіх гарох сохне добра й хутка. Каб абараніць яго ад дажджу, зьверху робяцца капялюшы з доўгай саломы.

З аднаго моргу збор гароху бывае сярэдне ад 6 да 10 корцаў (36—60 пудоў). Пры добрай апрацоўцы поля збор гароху даходзіць да 90 пудоў і болей.

*Лубін на насеньне* зьбіраць трудней, бо стручкі дасьпяваюць не адначасова: ніжнія на галоўнай галінцы раней, на бочных галінках значна пазьней.

Добрага насеннага лубіну можна сабраць, зрываючы стручкі рукамі ў меру іх дасьпеву. Працу гэтую добра робяць дзеці, і яна йдзе хутчэй і лягчэй, калі лубін засеян радкамі.

Сабраныя стручкі трэба рассыпаць тонкім пластом у месцы, дзе праявае паветрам—на страсе ці на падлозе—і даць ім добра прасохнуць.

Прасохшыя стручкі можна малаціць.

Зёрны лубіну доўгі час трымаюць вільгаць, лёгка саграюцца й плясьнеюць, калі іх ссыпаць у купу. Дзеля гэтага лепей трымаць зёрны як мага даўжэй у стручкох у сухім месцы.

Рэшту лубіну, які быў пакінуты на полі, з повьнімі і горшымі стручкамі сьцінаюць сярпамі, зьвязваюць у малыя снапочкі й дасушваюць у суслонах, пакрытых ад дажджу саламянымі капялюшамі.

Калі за бракам рабочых рук зрываць стручкі ў меру іх дасьпеву нельга, то са зборам лубіну чакаюць, пакуль большая частка ніжніх стручкоў дасьпее. Пасьля жнуць яго, пакідаюць на 2—3 дні на полі прасохнуць, вяжуць у снапочкі і складаюць у суслоны, каб гэтак дасьпеў і высах.

*Віку на насеньне* зьбіраюць, падобна да гароху, у той час, калі большая частка стручкоў пажоўкне або сьцямнее. Дасушку робяць на козлах. Ураджай звычайна бывае ад 6 да 8 корцаў (34—48 пудоў) з морга, а пры вельмі добрых варунках даходзіць да 15 корцаў (90 пудоў).

## Як ачысьціць гарох ад жучкоў.

У гаросе часта сядзяць маленькія чарнаваценькія жучкі. Яны сядзяць у гарошынках ад восені да вясны, калі пасьля сяўбы гароху вылазяць і кладуць яечкі ў зялёныя гарошынкі ў стручкох, па аднаму ў кожнае зерне. З гэтых яечак вырастэюць рабакі, якія выгрызаюць зярняткі ў сярэдзіне і сядзяць там да зімы, а ўзімку перарабляюцца ў малых жучкоў.

Пры сяўбе ня трэба ўжываць ніколі зярнят рабачлівых, бо хаця яно прарастае, але добрых расьцін ня дасьць, а шкоднікі расплодзяцца яшчэ болей. Калі нельга зьмяніць зярно, то прынамсі трэба гэтых жучкоў зьнішчыць.

Найлягчэйшы спосаб на гэта—высушыць гарох у печы, дзе пякуць хлеб. Пасьля выпечкі хлеба, ці спэцыяльна прапаліўшы печ саломаю, чакаюць, пакуль печ будзе ня надта гарачаю, але цёплаю,—сыплюць туды гарох і трымаюць гадзіну. Гароху цяпло не пашкодзіць, а жучкі паздыхаюць.

Другі спосаб. У цёплай хаце рассыпаць гарох на падлозе. Праз некалькі тыдняў пад уплывам цяпла жучкі павылазяць напаверх. Тады ссыпаць гарох у бочку ці бадзейку і, добра абкурыўшы яе сернічкамі, шчыльна пакрыць. Ад дыму сернічкаў шкоднікі паздыхаюць.

## Збор насеннай канюшыны і малацьба яе.

На насеньне пакідаюць канюшыну пасьля другога пакосу яе, ня вельмі густую й буйную, якая добра красуе. Красуючыя галоўкі пры абмацваньні іх пальцамі павінны быць цьвёрдымі, напакаванымі; мяккія галоўкі даюць мала насеньня.

Збор трэба пачынаць, калі пазьней красуючыя галоўкі ўжо налілі зерне, а раней красуючыя галоўкі маюць зерне цьвёрдае, пекна-барвістае з фіолетавым водбліскам, што магчыма ўбачыць, расьціраючы галоўкі на далоні.

Скасіўшы канюшыну, пакідаюць яе два дні на полі, асьцярожна яе перагортваюць і зноў даюць ляжаць 1—2 дні. Пасьля гэтага складаюць канюшыну ў малыя купкі і зараз-жа звозяць з поля. Калі йдуць доўгія дажджы, то, заместа перагортваньня на пакосах, ставяць канюшыну ў малыя чубы так, каб камлі стаялі ўгару, абапертыя аб зямлю галоўкамі. Кожны суслон абкручваюць зьверху аўсянай саломай і зьвязваюць, каб ляпей стаяла. Яшчэ ляпей звозіць канюшыну й раскладаць на козлы, каб яна гэтак і без перагортваньня высахла.

Малаціць канюшыну трэба ці ў сухі й гарачы час, ці ў часе моцнага марозу.

Канюшына мае насеньне, пакрытае тонкай плеўкай. Калі мароз моцны, то галоўка й плеўкі робяцца крохкімі і таму лягчэй адпадаюць пры абмалоце.

Малаціць трэба гэтак: спачатку лягчэй, а пасьля адграбаньня саломы ад галовак малаціць трэба моцна, каб зерне вылупілася з пакрываючай яго плеўкі.

У аднэй галоўцы канюшыны ёсьць ад 30 да 60 зярнят. З аднаго сажня куб. добрай насеннай канюшыны пры добрым ураджаі каля 140—240 фунтаў чыстага насеньня.

# Важнейшыя хваробы і шкоднікі расьлін у сельскай гаспадарцы.

Наша сельская гаспадарка шмат церпіць ад розных шкоднікаў. Найболей страты ад іх мае гаспадар у польнай гаспадарцы.

Вялікшая частка шкоднікаў, з якімі трэба лічыцца земляробу, гэта ёсьць розныя казюлькі, чэрві, матылі, таксама грыбкі й бактэрыі (нябачныя голым вокам дробныя стварэньні). Каб папярэдзіць расплоджаньне гэтых шкоднікаў і каб бароцца з імі, калі яны ўжо завяліся, гаспадару трэба пазнаць іх. Як толькі завядзецца які шкоднік, гаспадар павінен даведацца аб яго назове, а дзеля гэтага гаспадар павінен зьвярнуцца да спэцыялістага участковага агранома, які растлумачыць, што гэта за шкоднік, і дасьць раду, як змагацца з гэтым шкоднікам.

У гэтым артыкуле ў кароткіх словах гаворыцца аб палявых шкодніках і хваробах расьлін у Беларусі.

## Расьлінныя хваробы.

Хваробы расьлін, паміма кепскіх кліматычных (пагодных) варункаў (паляганьне, выправаньне хлебных расьлін і інш.), выклікаюцца галоўным чынам грыбкамі.

*Іржа.* Яна бывае трох гатункаў: *лінейная іржа*, якая жыве на ўсіх нашых хлебных расьлінах, *ліставая бурая іржа*, якая жыве на пшаніцы і вельмі рэдка на ячмені і аўсе, *каронкавая іржа*, якая бывае толькі на аўсе.

*Лінейная іржа.* Улетку, звычайна ў ліпені, на сьцяблі і ліставых похвах жыта (ці пшаніцы) зьяўляюцца прадаўгаватыя падушачкі, якія ляжаць роўнымі радкамі. Падушачкі—гэта ёсьць купы летняга насеньня (спор) грыбка лінейнай іржы. Калі гэтае насеньне дасьпее, то яно лёгка адпадае і вецер ці мошкі пераносяць яго на суседнія расьліны, якія таксама заражаюцца гэтай іржой. Грыбок іржы псуе зерне, якое выходзіць дробнае і лёгкае, псуе і салому, якая робіцца крохкай і пры ўборцы ломіцца.

Калі жыта пасьпявае, то летнія насенныя падушачкі іржы перарабляюцца на зімовыя і робяцца чорнымі. Летняе насеньне іржы лётае ў паветры ды пераносіць заразу на азімае жыта, якое пачынае кепска расьці.

Узімку летняе насеньне іржы гіне, а зімовае перазімоўвае і з вясной прарастае, але можа вырасьці толькі на лістох барбарысу.

*Лістовая бурая іржа* крыху раней лінейнай іржы і адрозьніваецца тым, што яе жоўта-бурыя падушачкі больш круглай формы і ня ляжаць роўнымі радкамі, а проста рассыпаны на верхняй старане жытняга ліста. Азімае жыта заражаецца бурай іржой часьцей, чым лінейнай. Зімовае насеньне гэтай іржы прарастае ўвосень і расьце толькі на лістох крывацьвету ці валовіка.

Калі бурая іржа моцна распаўсюдзіцца, то можа зрабіць вялікую шкоду, зьмяншаючы ўраджай зярна, якое выходзіць шчуплым і лёгкім.

*Каронкавая іржа* сустракаецца толькі ў аўсе; зімовае яе насеньне расьце на кустох бярозаўцу (жэснэр).

*Спосабы барацьбы з іржой.* Вядома, што розныя гатункі жыта, пшаніцы і аўсу не аднолькова хварэюць на іржу. Дзеля гэтага самым важным спосабам барацьбы зьяўляецца адбор гатункаў хлебных расьлін, болей адпорных для іржовай хваробы.

Побач з гэтым, трэба зьнішчажаць тыя расьліны (барбарыс, крывацьвет, валовік і інш.), на якіх расьце зімовае насеньне іржы.

Правіловая апрацоўка зямлі, ачыстка зярна перад сяўбой, раньняя касьба межаў—усё гэта таксама ёсьць добрыя спосабы барацьбы з іржой.

Калі-ж іржа моцна распаўсюджана, то ўжываюць пратраўку расчынаю фармаліну (0,15°/о; глядзі барацьбу з галаўнёй).

Для аўсу добра высяваць яго раней — тады ён пасьпявае добра падрасьці і ня гэтак паддаецца іржы.

*Сажа.* З сажавых грыбкоў найвялікшую шкоду робяць хлебным расьлінам: *сьцябловая* сажа жыта, *цьвёрдая* або *сьмярдзючая* сажа пшаніцы і *пыльная* сажа, якая пападае на яравую пшаніцу, ячмень і авёс.

*Сьцябловая сажа жыта.* У часе красаваньня жыта на верхніх і ніжніх міжвузлоўях, а таксама на лісьцях зьяўляюцца чорныя рыскі. Гэтыя рыскі і ёсьць збор сямян (спор) сьцябловай сажы. Семяны-споры заражаюць руньг, трапляючы ў зямлю разам з зярнятамі жыта. Жытні колас, заражаны сажай, дрэнна расьце: скручваецца, засыхае і не дае зярнят.

Сьцябловая сажа нападае толькі на асобныя расьліны. Вялікай шкоды яна ня робіць.

*Цьвёрдая ці сьмярдзючая сажа пшаніцы.* Каласкі пшаніцы, заражанай сьмярдзючай сажай, дрэнна растуць і растапырваюцца. Зерне вырастае неправіловай формы, цёмнага колеру і месьціць у сабе адваротнае сьмярдзючае чарнаватае цеста са зьліпшыхся спор. Споры бурага колеру, пры малацьбе высвабаджаюцца й прыклейваюцца к зярнятам і саломе. Пасееныя разам з зярнём, споры сажы прарастаюць, уядаючыся ў расток пшаніцы, і растуць разам з пшаніцаю. Калі пшаніца пачне каласіцца, сажа ўядаецца ў зярнё.

Споры сажы захоўваюць магчымасьць прарастаць на працягу некалькіх гадоў.

Хлеб з пшаніцы, заражанай сажай, выходзіць абрыдлівага паху, цёмнага колеру і вельмі шкодны для здароўя чалавека.

*Пыльная сажа.* Хвароба выяўляецца ў той час, як пшаніца пачынае каласіцца. Замест зярна, на аголеным сьцябле коласа вырастаюць купкі цёмна-бурых спор сажы, якія ад ветру адлятаюць. Споры, трапляючы на кветкі іншых каласоў пшаніцы, яны ўядаюцца і твораць грыбніцу. Грыбніца далей не расьце й не затрымлівае наліву зярна.

*Способы барацьбы з сажаю.* Да таго часу, пакуль хвароба, выкліканая сажамі, ня была добра вызнана, яна страшэнна пашыралася. Цяпер зной дзены зусім пэўныя спосабы барацьбы з сажай. Для зьніштажэньня сьцябловай сажы робяць пратраўку пасеўнага зярна 0,15-працантнаю расчынаю формаліну, які забівае споры (насеньне) сажы. Пратраўка робіцца гэтак: бяруць на адну частку жыжкага формаліну 300 частак вады. Гэткаю расчынаю паліваюць з лейкі праз сіта купу зярна; пры гэтым зярно перамешваюць, каб яно добра абмокла. Пасьля купу зярна пакрываюць шматамі ці мяшкамі, змочанымі гэтаю-ж расчынаю формаліну, і даюць паляжаць 2 гадзіны. Далей зярно рассыпаюць у цянёчку тонкім слоем і прасушваюць. Мяхі, у якія ссыпаюць пратраўленыя зёрны, таксама трэба вымыць 2—4-х працантнаю расчынаю формаліну. Для пратраўкі 100 пудоў зярна даволі аднаго фунта жыжкага формаліну, цаной у 60 капеек золатам.

Споры цьвёрдай або сьмярдзючай сажы забіваюцца ці 0,15-працантнаю расчынаю формаліну, зробленага, як сказана вышэй, ці 1-працантнаю расчынаю мядзянага купарвасу. Расчына яго робіцца гэтак: на вядро вады, у драўлянай судзіне, расчыняецца 20 лотаў мядзянага купарвасу. У зробленую расчыну на 5 хвілін апушчаюць кош з зярнём. Пры гэтым зярнё акуратна перамешваецца. Пасьля 5 хвілін кош выймаецца, зярнё высушваецца, а расчыну ўжываюць для пратраўкі новых зерняў.

Тут трэба адзначыць, што пратраўка зярна як формалінам, асабліва-ж мядзяным купарвасам, робіць некаторую частку зярна няўсхожымі.

*Спарыньня.* Вельмі пашыраная і прыносіць вялікую шкоду хвароба на жыце—спарыньня. Калі жыта пачынае наліваць зярнё, на каласох яго вырастаюць чырванавата-бурыя ражкі спарыньні. Увесну тыя з ражкоў, што засталіся на полі пасьля збору жыта ці тыя, якія пасеяны нанова разам з зернамі жыта, прарастаюць і даюць пладовыя галачкі. У гэтых галач-

ках творацца споры (насеньне) спарыньні, якія ветрам ці жучкамі разносяцца і трапляюць на каласы жыта і прарастаюць на іх у новыя ражкі.

Прысутнасьць спарыньні ў хлебе робіць яго вельмі шкодным для чалавека.

*Спосабы барацьбы*. Лепшым папяраджаючым спосабам барацьбы зьяўляецца акуратная ачыстка жытняга зярна. Дзеля таго, што спарыньня расьце на траве па мяжох, трэба касіць яе перад красаваньнем жыта.

*Мокрая гніль ці картапляная хвароба*. Яна зьяўляецца ў ліпені ці ў жніўні месяцы на ніжніх лісьцях націньня, творачы брудна-жоўтыя плямы, якія пасьля хутка чарнеюць. У сырую пагоду плямы абкружаюцца белым пасам, з якога абсыпаюцца споры, якія пераносяць заразу на суседняе лісьце і расьліны. Націньне гніе і сьмярдзіць. Споры, трапляючы на зямлю, пераходзяць на бульбу, якая таксама пачынае гніць (счарненьне і гніцьцё націньня сяляне прыпісваюць марозу).

*Спосабы барацьбы*. Трэба папераджаць хваробу так:

1) У часе збору бульбы, хворыя і падазрэнныя бульбы аддзяляюць і зьніштажаюць. Капаючы бульбу, трэба берагчыся, каб не парэзаць здаровую, бо парэзаная бульба лёгка заражаецца хваробай.

2) Збор бульбы трэба рабіць у сухую пагоду, бо тады насеньне гнілі хутка прападае.

3) Тыдні за два перад пасадкай бульбы яе трэба палажыць у сухую і сьветлую камору—тады хворая бульба загнівае і яе аддзяляюць ад здаровых.

4) Разводзяць найболей адпорныя к хваробе гатункі картоплі.

5) Ня ўгнойваць поле пад бульбу сьвежым гноем. Трэба ўгнойваць увосень, каб за зіму ён сапрэў.

6) Глыбока садзіць бульбу і моцна заворваць яе.

7) Калі іныя спосабы не памагаюць, то рабіць пратраўку бульбы, пакуль яна не дала расткоў: у мяшкох апускаюць бульбу ў 0,15-працантную расчыну на 2 гадзіны.

## Ворагі расьлін—вусені матылёў.

У 1922 годзе беларускія земляробы добра бачылі, якую шкоду прыносяць вусені *лугавага матыля* й матыля, які называецца *сойка-гамма*, бо ў тым годзе было зьнішчана шмат пасеваў, асабліва-ж лёну. Папсованы былі таксама пасевы вікі, гароху, бабоў, капусты, буракоў, а ў некаторых мясцох картоплі.

*Лугавы матыль* мае цёмнае цела з бурымі ці жоўтымі крыльлямі. Па краёх пярэдніх крыльляў ідуць два цёмных пасы, а паміж імі—жоўтаваценькія рыскі.

Вялічыня матыля ў маху крыльляў каля $1/2$ вяршка. Вусень гэтага матыля шэрага колеру, а па сьпіне йдзе цёмны пас, наабапал якога йдуць зьвілістыя зеленавата-жоўценькія пасачкі. Па бакох цела вусені йдуць уздоўжныя зеленаватыя пасы. Даўжыня вусені роўна $1/2$ вяршка.

У пачатку травеня зьяўляюцца матылі й кладуць ад 100 да 250 яечак на лісьце лугавых і гародных расьлін. Асабліва матылі любяць шчаўе, лебяду і бярозку. Цераз 3—4 дні з яечак вылупляюцца вусені, якія пачынаюць аб'ядаць лісьце. Вусень расьце надзвычайна хутка і цераз 2—4 тыдні робіцца дарослай, закопваецца ў зямлю, дзе перарабляецца ў ляльку. Вусені цэлымі масамі пераходзяць з аднаго месца ў другое і прыносяць гаспадарцы вялікую шкоду, паядаючы палявыя і гародныя расьліны.

*Матыль соўка-гамма* мае пярэднія крыльлі шэра-бурыя з жоўтавата-серабрыстай плямачкаю пасярэдзіне іх; заднія крыльлі больш сьветлыя з цёмнымі берагамі. Велічыня матыля ў маху крыльляў—3/4 вяршка. Лётае яна часьцей уночы, чым удзень. На верхняй старане грудзей матыля ёсьць пукі валаскоў, падобныя да чубіка. Вусень матыля мае 12 ног; яна зелена-ватага колеру з 3-мя пасамі ўздоўж сьпіны; сярэдні пас шэра-зялёны, а бочныя—цёмныя. Па бакох цела вусені йдзе жоўты пас.

Увесну, у травені месяцы, матыль зьяўляецца і кладзе на ніжнім баку ліста вядомай травы—сьвірэпкі свае яечкі. Вусені, якія выходзяць з яечак, пераходзяць у першы чарод на лён, пасьля на бабы, віку, гарох, капусту, буракі і інш. гародніну. Найбольш вусені шкодзяць лёну, чаму іх і назвалі ільнянай чарвой.

*Спосабы барацьбы* проці вусеняў лугавага матыля і ільняной чарвы аднальковыя. Лепшымі спосабамі лічацца такія, якія не даюць зьявіцца чарве на палёх. Спосабы гэткія:

1) Зьніштажэньне зельля на полі: ачышчаць перад сяўбой насеньне, асабліва лёну ад сьвірэпкі; добрая апрацоўка глебы пад яравыя; разьвядзеньне картоплі, кормных буракоў; выкашываць межы з зельлем.

2) Глыбокае асеньняе ўзорваньне поля (на 4 вяршкі), на якой былі вусені. Пры гэткім узорваньні вусені засыпаюцца глыбока ў зямлю і выйсьці ня могуць.

Паліваць і заворваць заражаныя расьліны.

4) Адганяць дымам, запальваючы гной ці серку, матылёў у момант кладзеньня яечак.

5) Абкопваць поле раўчакамі ў 1/2 аршына глыбіні, 1/2 аршына шырыні.

*Жытні трыпс.* У мінулым годзе шмат шкоды зрабіў беларускаму земляробу маленькі жучок, які называецца *жытнім трыпсам*. Найболей шкоды нарабіў гэты жучок у Чэрвеньскім (Ігуманскім) і Бабруйскім паветах. Зьявіўся ён у травені і чэрвені на азімым жыце й папсаваў вярхоўкі калосьсяў. Псота гэтая выклікаецца тым, што жучок трыпс, залязаючы ў похву верхняга лістка, робіць для дабываньня сабе пракорму пракол каласовага сьцябла раней, чым колас пасьпее вылузацца з лісьцявой похвы. Частка колаcа вышэй пракола бялее і адмірае. Калі-ж колас выйдзе з лісьцявой похвы, то жучок трыпс корміцца сокам ліста, робячы праколы на ім, ад чаго на лісьце зьяўляюцца жоўтыя й белыя плямачкі. У самай похве ліста жучок кладзе яечкі, з якіх выходзяць рабачкі. Яны таксама кормяцца со-

камі верхняга ліста, але шкоды вялікай ня робяць, бо расьліна ўжо канчае свой рост.

Жучок трыпс сустракаецца на жыце часта, але найболей ён псуе жыта, калі азімае з прычыны кепскай апрацоўкі глебы ці позьняга ўсходу азіміны ўвосень і пры халоднай вясьне—дрэнна расьце.

*Спосабы барацьбы* пакіраваны на сваячасную і добрую апрацоўку ральлі, добрае ўгноеньне і сваячасную сяўбу.

**Аграном Еўдакімаў.**

# Пчалярства.

Пчалярства ёсьць вельмі даходная справа, бо пры самай невялікай працы і з малымі грашыма, *калі добра ды ўмеючы хадзіць каля пчолаў*, можна мець вялікі прыбытак.

Займацца пчалярствам можна ўсюды, дзе жыве чалавек і дзе ёсьць *расьліны*. Зямлі для гэтага патрэбна столькі, каб паставіць вульлі, а пчолы ўжо самі знойдуць сабе пракорм і стакрацць аддадуць чалавеку за яго працу.

Пчолы даюць чалавеку каштоўныя рэчы—мёд і воск. Мёд—гэта той-жа цукар, толькі вышэйшага, лепшага гатунку. Ён мае лекавыя, сытчыя й узмацняючыя ўласьцівасьці і йдзе на страву чалавека. Воск—таксама каштоўная рэч; ён ідзе на розныя тэхнічныя патрэбы.

Мёд выробляецца такім чынам. Кожная расьліна, кожнае дрэва, кожная травінка ў полі увесну ды ўлетку даюць кветкі. У кожнае кветкі ў пэўны час маецца салодкі пахнучы сок, які завуць *„нэктарам“*. Пчала высмактвае з кветак гэты сок-нэктар і нясе яго ў мядовым валячку ў сваю хату—вулей. Тут яна складае яго ў васковыя лузачкі, з якіх складаюцца гранкі. Воск пчала вырабляе ў сваім целе з мёду, ужывае яго на будову гранак. Поўныя мёдам гранкі называюцца сотамі.

Апроч нэктару, пчолы зьбіраюць з кветак яшчэ кветачную пылку, якою кормяць сваіх дзетак—маладых пчолак—і ядуць самі.

Для таго, каб займацца пчалярствам і мець ад пчол добрую карысьць, перш за ўсё трэба пазнаць пчалу: даведацца, як пабудавана яе цела, якія яна мае звычаі, патрэбы і г. д. Бяз гэтае веды ў добрым даходным пчалярстве нельга зрабіць ніводнага кроку.

Даем кароткае апісаньне пчалы.

Цела пчалы вельмі складанае і тонка пабудаванае. У яе ёсьць амаль усе часткі цела, як і ў вялікіх жывёлаў. Яна мае пяць вачэй: два вялікіх па бакох галавы і тры маленькіх зьверху галавы. Пчала чуе, пазнае пах і рэчы, яна гаворыць з іншымі пчолкамі, датыкаючыся да іх маленькімі тонкімі, як, валаскі *вусікамі*, якія сядзяць наперадзе галавы. Калі гэтыя вусікі пчала страціць, яна памірае.

Салодкі сок з кветак пчала высмоктвае языччком. Пчала мае дзьве пары крыльляў і тры пары ножак. Заднія ногі пчалы маюць маленькія *кошыкі*, у якія яна зьбірае пылачку. На нагах у пчалы ёсьць розныя *шчоткі*,

якімі яна абчышчае ўсё сваё цела. Дыхае пчала так: па бакох грудкі й брушка ёсьць 10 пар дзірачак, праз якія пчала і дыхае. Праз дзірачкі паветра йдзе ў паветраныя мяшкі, а адтуль па трубачках па ўсяму целу.

Для абароны прырода дала пчале вострае джала, якое знаходзіцца ў яе на канцы брушка і праз якое яна ўпускае ў ранку каплю моцнай атруты. Усадзіўшы джала, пчала ня можа яго выцягнуць і таму памірае.

Пчолы жывуць *грамадой, роем*. Якасьць рою залежыць ад вагі і ад таго, як рана рой выляцеў. Чым болей важыць і чым ранейшы рой—тым ляпей.

У добрай пчалінай сям'і ёсьць да 80—100 тысяч пчолаў. Сям'я складаецца з трох гатункаў пчолаў:

1. Адна на ўсю сям'ю *матка*; уся яе праца—несьці яечкі, з якіх растуць маладыя пчолкі.

2. Штук 200 — 300 трутняў — гэта самцы; уся іх праца — запладзіць матку.

3. Уся рэшта пчолаў—гэта рабочыя пчолы: яны адны зьбіраюць мёд і пылку, робяць усю працу ў вульлі, выраблюць воск і лепяць з яго лузачкі гранак, кормяць дзяцей—маладых пчолак, пакуль яны ня вырастуць, чысьцяць вулей, выцягаючы з яго мёртвых пчолаў, розвае смяцьцё, бароняць вулей ад ворагаў і іншае.

*Матка* спарываецца з адным трутнем адзін раз на ўсё жыцьцё; дзеля гэтага яна робіць шлюбны вылет у паветра. Жыве матка да 5 гадоў. Але пладлівасьць яе на трэці год слабее, дзеля чаго нельга матку трымаць у вульлі болей за два гады.

*Трутні*—усіх іх, апрача аднаго, які заплоджвае матку, прырода творыць на ўсялякі выпадак у запас; яны жывуць толькі адно лета. Яны родзяцца, зьяўляюцца ў вульлі ўвесну і ўлетку, а пад восень пчолы іх усіх да аднаго выкідаюць з вульля, і яны гінуць. Трутні—гультаі, мёду ня зьбіраюць, ня робяць ніякіх прац, не аберагаюць вульля, бо ў іх няма джала.

*Рабочая пчала* жыве ад 2 тыдняў да 6—7 месяцаў. Пры працы ўвесну ды ўлетку, яна хутка марнее: абцярэбяцца яе крыльлечкі, ножкі, вусікі, і яна памірае. Увімку, калі працы меней або зусім няма, пчала жыве даўжэй.

Пладавітасьць маткі надзвычайная: у пару (суткі) яна кладзе 2500 і болей да 5000 яечак. Гэтак яна працуе 4—5 месяцаў.

Матка кладзе яечкі двох гатункаў: заплоджаныя й незаплоджаныя. З незаплоджаных яечак выходзяць трутні, а з заплоджаных выходзіць ці матка ці рабочая пчала. Матка кладзе заплоджаныя яечкі ў лузачкі гранак, з яечак вырастаюць рабачкі, з рабачкоў—пчолкі. Залежна ад таго, якой стравай кормяць пчолы гэтых рабачкоў, і ад таго будзе лузачка вялікая, як жалудок, альбо звычайная, вырастае матка або звычайная пчала: калі даюць самую лепшую страву, то з вялікай лузачкі выходзіць матка, а калі даюць звычайную страву і чарва ляжыць у звычайнай лузачцы—то выходзяць рабочыя пчолы.

Праз 3 дні ад таго часу, як матка паложыць у лузачку яечка, з яго вылупляецца рабачок, які хутка расьце таму, што пчолы добра яго кормяць. Рабачок расьце 6 дзён. Пры канцы шостага дню пчолы крыюць лузачку, у якой сядзіць рабачок, пакрышкаю. Пакрышачку робяць не з аднаго воску, а дадаюць да яго кветкавую пылку, каб праходзіла паветра.

У зачыненай лузачцы рабачок апранае сябе ядвабнай тканкаю. Зьлініяўшы некалькі разоў, рабачок паволі перарабляецца ў пчалу, або ў трутня, або ў матку, залежна ад варункаў, якія вышэй прыводзіліся.

На справу апрананьня ў рабочай пчалы йдзе $1^1/_2$ дні, у маткі—толькі 1 дзень, а ў трутня—3 дні. Па гэтым часе рабачок адпачывае. Рабачок рабочай пчалы адпачывае 3 дні, а рабачкі, з якіх выйдуць маткі або трутні,—$2^1/_2$ дні.

Пасьля гэтага рабачок перарабляецца ў так званую ляльку. У стане लялькі пчаліна чарва (рабочая) застаецца ў працягу $6^1/_2$ дзён, маткі—5 дзён, а труцень—$9^1/_2$ дзён. Урэшце лялька ў апошні раз ліняе, рухаецца, прагрызае пакрышку лузачкі і вылязае з яе.

Воск пчолы вырабляюць у сваім целе з мёду. *Воск*—гэта ёсьць *тлустасьць пчалы.* Ён выходзіць у рабочай пчалы на брушку вельмі маленькімі лускамі. Гэтыя лускі пчала разьмінае сківіцамі і лепіць з іх гранкі. Лузачкі гранак—гэта калыска для маладых пчолак; яны —таксама і начыньне для мёду і кветкавага пылу, які пчолы таксама зьбіраюць у запас.

Каб вырабіць 1 фунт воску, пчолы павінны зьесьці 10—12 фунтаў мёду. Калі людзі, з дапамогаю спасьцераганьняў і навукі, дакладна даведаліся аб гэтым, то падумалі: а што калі пчолам даць у вулей 1 хунт гатовых гранак? Значыць на кожным фунце такіх гранак можна зьберагчы на сваю карысьць 9—11 фунтаў мёду.

Пачаўшы меркаваць, людзі ўрэшце прыдумалі такую машыну—вальцы, якімі можна рабіць *штучныя гранкі.* Дазнаўшыся гэтага, прыдумалі спосаб, як класьці гэтыя гранкі ў вулей—пачалі рабіць *рамкі.* У рамку прыклейваецца штучная гранка і рамка ставіцца ў вулей. Але як-жа паставіць рамку ў калоду? Зрабіць гэта нельга. Прыдумалі *заместа калоды будаваць вульлі-скрынкі*, каб можна было ў гэтую скрыню ставіць колькі трэба рамак з штучнымі гранкамі. Гэткіх рамак укладаюць у вулей 12—14 штук. Ад таго часу і пачалі рабіць рамовыя вульлі, у якіх цяпер і водзяць пчолаў усе запраўдныя добрыя пчаляры.

Але гэтага мала. Людзі дадумаліся да яшчэ аднэй вельмі цікавай і важнай прылады, пры дапамозе якой можна з сотаў выцягнуць мёд, не паппсаваўшы самых гранак і зноў паставіць іх у вулей.

Машына гэтая называецца—мёдагонкаю ці цэнтрафугаю.

Як толькі людзі навучыліся рабіць штучныя гранкі, рамы, рамавы вулей і цэнтрафугу—усё пчалярства крута зьмянілася: заместа калоды, якая ў лепшы год давала 15—20 фунтаў мёду, рамавы вулей пачаў даваць добраму пчаляру 2—3 пуды мёду. Розьніца не малая! Ёсьць над чым параз-



думацца і тым пчаляром, якія разводзяць пчолаў пастарому, у калодах, і тым, хто толькі зьбіраецца заводзіць пчолаў і займацца пчалярствам.

У чым-жа справа? А вось у чым.

*Першае*. Даючы пчолам гатовыя гранкі, пчаляр робіць вялікую ашчаднасьць працы і часу пчолаў і мае мёду болей на 1—2 пуды. Возьмем для прыкладу гаспадарку. Які прыбатак мела-бы гаспадыня ад каровы, каб яна кожны раз, як вылье надоенае малако з гаршчкоў, разьбівала свае гаршчкі? А няйначай робяць усе пчаляры, якія водзяць пчолаў пастарому, у калодах: выймаючы з вульля соты ды перарабляючы мёд, яны нішчаць усе каштоўныя гранкі. Справа зусім ясная.

*Другое*. У калодзе пчаляр вядзе пчолаў у сьляпую, наўгад: ён ня бачыць ні маткі, ня ведае добра—яна кладзе ячкі ці не; ён ня бачыць, ёсьць ні не ў вульлі маладыя пчолы—чарва—і колькі яе; ня бачыць гнязда пчолаў, ня ведае колькі пчолы назьбіралі мёду і колькі можна ўзяць сабе і колькі пакінуць ім на зіму і г.д. А зьявіцца ў вульлі страшэнная хвароба—гнілец—ён і аб гэтым даведаецца толькі тады, калі сям'я за сям'ёй пачнуць адміраць. І калі ён даведаецца—ужо позна: усе вульлі прападуць.

Зусім іншая справа—рамовы вулей. Падняўшы пакрыўку, вынімаючы ды пераглядаючы рамку за рамкаю, пчаляр адразу бачыць усё гняздо, усё жыцьцё і працу сям'і: бачыць і матку, і чарву, і запас мёду. На вока пчаляр, перабіраючы ў руках рамкі, можа сказаць, колькі ёсьць мёду ў вульлі, ён можа ўбачыць, ці не завялася якая-небудзь хвароба, ці выгадна пчолам і г. д.

Апрача гэтага, у часе найбольшага мёдазбору пры рамовым вульлі пчаляр можа паставіць на вулей дадатны вулей-магазын. Магазын—гэта такая самая, як вулей, скрынка з рамкамі, толькі рамы напалову ніжэй гнёздавых рамак. У магазын пчолы складаюць толькі мёд, матка туды ня ходзіць і ячак не кладзе. Калі магазын поўны мёду, пчолы крыюць воскам соты, а пчаляр пад першы ставіць другі магазын. Робіцца гэта хутка, у пару хвілін.

Рамовыя вульлі ў нас, на Беларусі ўжываюцца, галоўным чынам, дзьвюх сыстэм: Лявіцкага і Дадан-Блатта. У першай сыстэме рамкі вузкія і высокія, у другой—шырокія і нізкія. Лепшай сыстэмай лічыцца Дадан-Блатта, бо ў ёй бывае больш мёду.

Пчала ляціць за мёдам не далей 3-х вёрст, і таму трэба глядзець, каб буйныя пчальнікі знаходзіліся адзін ад другога ня бліжэй 5-х вёрстаў.

З цьвітучых дрэваў, даючых пчале сок, першым лічыцца *ліпа;* ліповы мёд лічыцца самым лепшым. Далей ідуць яблыня і ўсе пладовыя дрэвы, рабіна, клён і г. д. Таксама ягадныя кусты—маліна, смародзіна, крушына. З траў—шмат мёдавага соку дае белая канюшына і грэчка.

Скажам яшчэ некалькі слоў аб *пчаліных хваробах*.

Самая небясьпечная хвароба ў пчолаў—гэта *гнілец*. Ён для пчолаў тое самае, што халера для людзей ці чума для быдла. *Гэта хвароба заразьлівая*.

Сама па сабе гэтая хвароба завесьціся ў вульлях ня можа. Яна прыносіцца з другіх, суседніх.

Хворая пчала, пасядзеўшы на кветцы, ці папіўшы вады, пакідае там заразу. Пасьля туды садзяцца здаровыя пчолы, заражаюцца і прыносяць заразу ў свой вулей.

Вясковыя пчаляры часам і не дагадваюцца, чаму ў некаторыя гады бывае мор на пчолаў: прападуць пчолы ва ўсіх вульлях. А прычына гэтаму —гнілец. Другая заразная хвароба ў пчолаў — гэта заразьлівае развальненьне.

У пчолаў шмат ворагаў: мядзьведзі, птахі, осі, шаршні і г. д. Але самы страшэнны вораг пчолаў—гэта такі зямец-пчаляр, які ня ведае, як хадзіць каля пчолаў. Ён прыносіць пчолам больш шкоды, чым усе іншыя ворагі разам.

Для правіловага пчалярства трэба мець галоўнейшыя пчалярскія прылады: сетку для абароны ад укусаў, раёўню, дымярню, пчалярскі нож, сонечную воскатопню, клетку для матак, прылады для карменьня пчолаў і інш.

Дагляд за пчоламі азначваецца і дыктуецца часамі году.

Узімку, калі пчолаў пакідаюць на вольным паветры, трэба вульлі добра абараніць ад сьцюжы і паставіць туды для кожнай сям'і корму—ня менш 30—35 фунтаў мёду. Добра, калі вульлі схаваць на зіму ў спэцыяльна пабудаваны склеп.

Увесну выстаўляць вульлі са склепу можна тады, калі ў цяньку будзе ня меней, як 10 градусаў цяпла.

Усе клопаты пчаляра павінны быць скіраваны на тое, каб сям'я набрала поўную сілу к галоўнаму мёдазбору. Калі пчолы не набяруцца сілы да гэтага часу—увесь год змарнаваны.

## 8 запаведзяў пчаляра.

1. Вучыся правіловаму пчалярству.

2. Трымай на пчольніку толькі добрыя, моцныя сям'і пчолаў.

3. Разводзь пчолаў у рамовых вульлях, ужываючы штучныя гранкі й цэнтрафугу.

4. Зьмяняй матак на маладых на трэці год іх жыцьця.

5. Не шкадуй пчолам пакідаць многа (да аднаго пуду) мёду на корм на зіму, а ўвесну падкармлівай, памятаючы прыслоўе: «кармі мяне да Яна —зраблю з цябе пана». Часта пчолы ўжо перазімаваўшы, адміраюць з голаду ўвесну. Толькі пры добрых варунках пчолы ўвойдуць у сілу к галоўнаму мёдазбору і дадуць многа карысьці.

6. Даглядай, каб узімку ў вульлёх ня было занадта сьцюдзёна, а ўлетку—загорача.

7. Даглядай, каб не завяліся ў пчолаў заразьлівыя хваробы (гнілец, развальненьне), а калі завядуцца—то паведамі бліжэйшую ўстанову Народнага Камісарыяту Земляробства і суседзяў; пчолаў сваіх лячы.

8. Абавязкова трэба гуртавацца ў пчалярскія таварыствы і коопэратывы. Толькі тады будзе ствараццца правіловае пчалярства, толькі тады пчаляры будуць мець вялікую ды поўную карысьць.

---

У хуткім часе Наркамзем Беларусі абвесьціць «Пастанову аб абароне пчалярства», якая будзе асноўным законам па пчалярству ў Савецкой Беларусі. Таксама рыхтуецца да друку спэцыяльная кніжка па пчалярству, якая будзе выкладзена зразумелай для сялян беларускай мовай.

За ўсякімі спраўкамі і парадамі па пчалярству трэба зьвяртацца ў Наркамзем, пададдзел пчалярства, Менск—вуліца Савецкая, № 71.

*Інструктар па пчалярству пры Наркамземе* І. Струкоўскі.




## Як судзіцца і падаваць скаргі ў суд.

Усе спрэчкі аб маёмасьці між грамадзянамі разьбіраюцца або ў Зямельных камісіях, або ў Народных судох.

*Зямельныя камісіі* разьбіраюць усе зямельныя спрэчкі: аб праве карыстаньня зямлёй, аб сямейных падзелах, аб зямлі, зданай у арэнду, аб пакосах, патравах, аб праве праезду ці праходу цераз зямельны падзел і г. д.

*Народны суд* разьбірае справы аб сямейным падзеле рухомай маёмасьці, сельска-гаспадарчых прыладаў і будынкаў, калі гэтыя справы ня зьвязаны з спрэчкамі аб зямлі. Разьбірае справы аб патравах, пакосах, гвалтоўных захопленьнях зямлі, калі права на зямлю цьвёрда ўстаноўлена і не выклікае спрэчак. Разьбірае спрэчкі аб сельска-гаспадарчых прыладах і аб узаемных разрахунках у выпадку арэнды, калі гэтыя спрэчкі ня зьвязаны з спрэчкаю аб зямлі. Таксама Народны суд разьбірае ўсе іншыя спрэчкі аб маёмасьцях між грамадзянамі, напрыклад, спрэчкі аб кватэрах, аб ссудзе ці займе і г. п.

Зямельныя камісіі ёсьць у кожнай воласьці, а Народныя суды—па аднаму на некалькі валасьцёў. Зямельная камісія данае воласьці разьбірае справы, паднятыя проці асоб, пражываючых у межах данае воласьці або калі спрэчка тычыцца зямлі ці будынкаў, знаходзячыхся ў гэтай воласьці.

Народны суд данае акругі разьбірае спрэчкі, належачые да данае акругі.

Каб падняць судовую справу, даволі падаць напісаную заяву той зямельнай камісіі ці ў Народны суд і аплаціць гэтую заяву гэрбавымі маркамі, як пакажа асоба, прыймаючая заяву.

Справу можна весьці асабіста ці праз паўнамоцнікаў, якімі могуць быць—1) абаронцы (адвакаты), 2) паўнамоцнікі прафэсыянальных саюзаў па справах сяброў саюзу, 3) таксама ўсе іншыя асобы, калі яны дапушчаны для абароны судом.

У выпадках, калі адна з спрэчных старон нездаволена прыгаворам валасной зямельнай камісіі, то яна мае права прасіць аб пераглядзе справы

ў павятовай зямельнай камісіі. Для гэтага трэба падаць заяву ў тую самую камісію, якая разглядала справу, але падаваць заяву трэба не пазьней 2-х тыдняў ад дня абвешчаньня прыгавору.

Павятовая зямельная камісія пры пераглядзе справы выклікае спрэчныя стораны і, выслухаўшы іх, ці зацьвярджае прыгавор валаснай камісіі, ці выносіць новы прыгавор.

Прыгавор павятовай зямельнай камісіі таксама можна не пазьней 2-х тыдняў абжалаваць у Вышэйшую зямельную камісію ў гор. Менску. Але гэтая камісія не разглядае істоту справы (не правярае фактаў, не выклікае спрэчныя стораны)—яна толькі глядзіць, ці правілова дастасован да гэтай справы закон, які трэба было дастасаваць. Вышэйшая зямельная камісія або зацьвярджае прыгавор павятовай камісіі або касуе яго і перадае справу на новы разгляд ужо ў другую валасную зямельную камісію.

Прыгавор Вышэйшай зямельнай камісіі нельга апратэставаць, ён апошні і канчатковы.

Прыгавор Народнага суду можна апратэставаць перад Вышэйшым Судом Рэспублікі ў гор. Менску. Тэрмін для падачы заявы пратэсту 2 тыдні ад дня абвешчаньня прыгавору Народным судом. Заява падаецца ў той самы суд, які разглядаў справу. Прыгавор Вышэйшага суду канчатковы і яго апратэставаць нельга.

Заява пратэсту на прыгавор Народнага суду ці Зямельнай камісіі трэба таксама аплаціць гэрбавымі маркамі, іначай заява разглядацца ня будзе.

## З зямельнага кодэксу.

### Закладныя палажэньні.

Пастановамі Ўсебеларускіх Зьездаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, якія выконвалі жаданьні рабочых і сялян Беларусі, права прыватнай уласнасьці на зямлю, нетры, воды і лясы на абшарах Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі скасована назаўсёды.

Усе землі ў межах Савецкай Беларусі, чымі-б яны раней ня былі, складаюць уласнасьць Рабоча-Сялянскай Дзяржавы.

Права беспасрэднага карыстаньня землямі даецца: 1) працоўным землеробам і аб'яднаньням працоўных землеробаў; 2) гарадом і мястэчкам; 3) дзяржаўным установам і прадпрыемствам. Рэшта зямель знаходзіцца ў беспасрэдным распараджэньні Народнага Камісарыяту Землеробства. З гэтых зямель дзяржава, згодна асобных пастаноў і на асобых варунках, дае зямлю і ўстановам, грамадам, суполкам і прыватным асобам,

## Аб праве на зямлю працоўнага карыстаньня.

Права на карыстаньне зямлёю, каб вясьці на ёй сельскую гаспадарку, маюць усе грамадзяне—мужчыны й кабеты бяз розьніцы веры й нацыяналь-

насьці—Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, абы толькі яны жадалі самі сваёю працаю абрабляць зямлю. Зямельны надзел можна атрымаць у карыстаньне толькі ў тым разе, калі маецца запасная зямля, назначаная для працоўнага карыстаньня.

Права на зямлю для працоўнага карыстаньня даецца бяз тэрміну і можа быць скасована толькі на падставах, паказаных у законе.

Права на працоўнае карыстаньне зямлёю вызнаецца ў формах: 1) права на зямельны надзел у адным ці ў некалькіх мясцох (на выселку, адсеку, цераспалосных надзелах); 2) права на супольнае карыстаньне зямельнымі надзеламі.

Ужываньне зямель працоўнага карыстаньня не для сельскай гаспадаркі, а пад іншыя промыслы (напр., пад фабрыку) можна рабіць толькі з дазволу павятовых зямельных устаноў.

Права на новыя надзелы зямлі працоўнага карыстаньня даецца зямельнымі ўстановамі, якія робяць надзелы з зямель запаснага фонду.

У выпадку, калі асобныя члены гаспадаркі ўходзяць на вайсковую службу, прызываюцца па мобілізацыі ці па выбарах павінны йсьці на савецкія ці грамадзкія пасады, то належачая да іх частка зямлі захоўваецца за гаспадаркаю на ўвесь час іх службы. Калі хто ўходзіць на пабочныя заработкі, то зямля таксама застаецца за гаспадаркаю і лічыцца за адышоўшым толькі на тэрмін двох пасеўных абваротаў, а калі няма ўстаноўленых севаабваротаў, то на тэрмін ня болей шасьці гадоў ад моманту адыходу на заработкі. Пры звароце-ж пасьля гэтага тэрміну зьвярнуўшамуся робіцца надзел зямлі з зямельнага запасу на агульных асновах.

Права на зямлю, дадзеную для працоўнага карыстаньня, касуецца ў выпадках: 1) дабравольнага эдцураньня ад зямлі ўсіх сяброў гаспадаркі; 2) калі двор зусім прыспыняе весьці асабістую гаспадарку; 3) калі двор зробіцца вымарачаным ці калі няма каму трымаць гаспадарку праз сьмерць усіх, хто жыў на гаспадарцы, або праз страту назаўсёды права карыстацца зямлёю па закону; 4) у выпадку перасяленьня ўсяго двара ў іншае месца з поўнага прыпынку гаспадаркі на старым месцы; 5) у выпадку страты права на карыстаньне зямлёю пастановаю суду за ўчынкі, якія караюцца законам; 6) калі зямля адыходзіць па ўстаноўленаму парадку для дзяржаўных і грамадзянскіх патрэб, як, напрыклад, пад залезныя дарогі, пад распрацоўку зямельных нетраў і г. д.

Дабравольная адмова ад праў на зямлю робіцца са згоды ўсіх сяброў двара, шляхам заявы на ймя мясцовай зямельнай установы.

Прыпынкам гаспадаркі лічыцца сапраўднае нескарыстаньне зямлі бяз важнай к таму прычыны ў працягу ня меней трох гадоў падрад; страта права на зямлю ўстанаўліваецца зямельнымі камісіямі.

Той, хто карыстаецца зямлёй на падставе закону, мае права на сваім зямельным надзеле: 1) весьці сваю гаспадарку тым спосабам, які ён лічыць

для сябе лепшым, выключаючы спосабаў, забароненых законам; 2) будавацца на сваёй зямлі і карыстацца будынкамі для кватараваньня і іншых гаспадарскіх патрэб.

Усе пабудоўкі, пасевы і расьліны і наагул усё злучанае з зямельным надзелам, якім карыстаецца гаспадар, належыць яму, як уласнасьць.

Купляць, прадаваць ці запрадаваць, даваць у спадчыну ці аддаваць, таксама закладаць зямлю забараняецца.

Кожная з пералічаных дзей лічыцца незаконнаю, нямаючай сілы, і ніхто ня мае права па гэткім дзеям судзіцца ці шукаць сабе падтрыманьня. Наадварот, гэткія асобы караюцца судом і трацяць права на зямлю, якою яны карысталіся.

## Працоўная арэнда зямлі.

Здача ў арэнду зямлі працоўнага карыстаньня дазваляецца тады, як гаспадарка на нейкі час робіцца нядужнай ці праз стыхійную бяду (неўрадлівасьць, навальніца, пажар, падзеж скаціны і г. д.), ці праз недахват гаспадарчых прыладаў, начыньня і працоўнай сілы. Дазваляецца яшчэ, калі гаспадарка ня можа добра йсьці з-за сьмерці працаўнікоў, прызыў іх па мобілізацыі, выбару іх на савецкую ці грамадзянскую пасаду, адходу з гаспадаркі на пабочныя заробкі і інш.

Зямлю можна здаваць у арэнду ўсю ці часткаю за плату грашыма, спажыўнымі рэчамі (харчы) або за іншую маетнасьць, але выконваючы ўсе патрабаваньні закону, як гаворыцца ніжэй.

Здаваць у арэнду дазваляецца ня болей як на такі час, які патрэбен для выпаўненьня на арэндаванай зямлі аднаго поўнага севаабвароту (пры трохпольлі—на 3 гады, пры чатырохпольлі—на 4 гады і г. д.); калі севаабварот не ўстаноўлены, то дазваляецца здаваць у арэнду не даўжэй, як на 3 гады.

У асобных выпадках з дазволу валаснога выканаўчага камітэту тэрмін арэнды можа быць прадоўжаны, але ня больш, як на 2 севаабвароты ці ня больш, як на 6 гадоў, калі няма ўстаноўленага севаабвароту.

Далейшае прадаўжэньне тэрміну арэнды можа быць дазволена толькі павятовымі зямельнымі ўстановамі; калі-ж гэтыя ўстановы не прадоўжаць тэрміну арэнды, то зямля залічваецца ў мясцовы запасны фонд для здавальненьня зямлёй працоўнага земляробнага жыхарства.

Закон дазваляе арэнду толькі працоўную. Гэта азначае, што ня можа атрымаць па арэндзе зямлі больш того, колькі ён можа абрабіць працаю сваёй гаспадаркі.

Умовы арэнды маюць сілу й абавязковасьць толькі тады, калі яны пасьведчаны мясцовым валасным выканаўчым камітэтам.

Умовы арэнды могуць быць напісаны на паперы ці выказаны і абгаворany на словах і ў гэтым разе іх трэба рабіць у прысутнасьці сябра валаснога выканаўчага камітэту і запісаць у асобную кнігу ўмоў.

Здача ў арэнду не дазваляецца, калі здатчык увсім прыпыняе сваю гаспадарку, перасяляючыся ў іншае месца ці пачынаючы займацца чым-небудзь іншым, але ня сельскай гаспадаркай.

Арандатар павінен весьці гаспадарку на арандаванай зямлі старанна і ня мае права перадаваць ад сябе зямлю іншым асобам. Усе падаткі і павіннасьці па арандаванай зямлі спаўняюцца арандатарам.

Арэндны дагавор можа быць скасаваны да тэрміну па трэбаваньню здатчыка або зямельных устаноў тады, калі арандатар знарок дрэнна вядзе гаспадарку, не спаўняе падаткаў і павіннасьцяў і нарушае ўмовы арэнды. Арэндны дагавор касуецца да тэрміну толькі судом.

Па сканчэньні тэрміну арэнды зямля варочаецца здатчыку са ўсімі тымі палепшаньнямі, якія зроблены былі арандатарам і якіх нельга зьняць ці сабраць, не парушаючы гаспадарскай вартасьці гэтага кавалку зямлі.

Напрыклад, пасьля канца арэнды, быўшы арандатар мае права забраць сабе будынкі, якія ён паставіў на зямлі, забраць сваю скаціну, але ня мае права разбурыць гаць ці запруду, раскідаць мост, выкопваць пасаджаныя ім дрэвы, вымаць абсушваючыя трубы і інш., бо гэта парушае вартасьць зямлі.

## Аб дапаможнай наёмнай працы ў гаспадарках.

Карыстаньне наёмнаю працаю ў гаспадарках дазваляецца тады, калі гаспадарка па недахвату працоўнай сілы або прыладаў ці начыньня ня можа ў свой час зрабіць патрэбныя сельска-гаспадарчыя работы.

Наёмная праца дазваляецца пры варунку, што гаспадарка захоўвае свой працоўны характар, гэта значыць, што ўсе годныя да працы ў самой гаспадарцы працуюць разам з нанятымі работнікамі.

Пры карыстаньні наёмнаю працаю трэба абавязкова спаўняць усе законы і пастановы аб абароне й памеркаваньні працы на сельскай гаспадарцы.

## Спадчыннае права.

1. Закон дазваляе атрымаць па закону і па тэстамэнту спадчынную маёмасьць на суму ня вышэй 10.000 залатых рублёў, за вылічэньнем усіх даўгоў памёршага.

2. Калі агульная вартасьць спадчыны перавышае 10.000 залатых рублёў, то ўсё, што звыш гэтае сумы, дзеліцца ці ліквідуецца на карысьць дзяржавы.

3. Атрымаць спадчыну па закону й тэстамэнту маюць права:
   1) Простыя спадкаберцы—дзеці, унукі й праўнукі.
   2) Жонка (ці муж) памёршай асобы.

3) Непрацаздольныя й незаможныя асобы, якія фактычна знаходзіліся на поўным утрыманьні памёршага ў часе ня меней аднаго году да яго сьмерці.

4) Спадкаберцамі могуць быць асобы, якія знаходзяцца жывымі к моманту сьмерці спадкадаўцы, а таксама дзеці, зачатыя пры яго жыцьці й радзіўшыяся пасьля яго сьмерці.

5) Калі памёршая асоба не пакінула тэстамэнту, то спадчыну *па закону* атрымоўваюць асобы, якія пералічаны пад цыфраю 3, прычым спадчынная маёмасьць дзеліцца на роўныя часткі паміж усімі спадкаберцамі.

6) Тэстамэнтам прызнаецца зроблены аднэй асобай у пісьменнай форме загад на выпадак сьмерці аб аддачы маёмасьці аднэй ці некальнім асобам з ліку паказаных пад цыфраю 3.

Тэстамэнт павінен быць падпісаны спадкадаўцаю і прадстаўлены ў нотарыяльны аддзел для ўпісаньня ў актавую кнігу. Заместа подпісу няпісьменнага спадкадаўцы, тэстамэнт падпісваецца за яго даверанай асобай—рукапрыкладчыкам.

7) Выпіс з нотарыяльнай актавай кнігі замяняе сабой тэстамэнт.

8) Тэстамэнт, пазьней напісаны, касуе папярэдні. Спадкадаўца мае права й без напісаньня новага тэстамэнту скасаваць папярэдні тэстамэнт шляхам нотарыяльнай ці судовай заявы аб гэтым. Гэтая заява запісваецца ў актавую кнігу ці судовы пратакол.

9) Выкананьне тэстамэнту ўскладаецца на вызначаных у ім спадкаберцаў. Калі-ж гэта даручаецца іншай асобе, то закон вымагае, каб на самым тэстамэнце ці на асобнай паперцы, даложанай да тэстамэнту, была гэтай асобай напісана згода выканаць даручэньне.

10) Непаразуменьні й спрэчкі, якія ўзьнікаюць па справе спадчыннай маёмасьці, разьвязваюцца судом.

11. Асобы, атрымаўшыя спадчыну па тэстамэнту ці па закону, могуць прасіць у мясцовага народнага судзьдзі аб выдачы ім пасьведчаньня, пацьвярджаючага іх права на спадчыну.

12. З маёмасьцяў, адыходзячых па закону ці па тэстамэнту, бярэцца падатак з кожнай часткі спадчыны на карысьць дзяржавы:

a) калі асобны спадкаберца атрымоўвае частку маёмасьці цаной ад 1 да 3 тысяч рублёў золатам, то падатак бярэцца ў разьмеры аднаго процанту цаны спадчыннай часткі;

b) калі цана часткі ад 3 да 6 тысяч рубл. золатам, то падатак бярэцца два процанты;

c) калі цана часткі ад 6 да 10 тысяч рублёў золатам, то падатак—чатыры процанты;

d) агульная сума спадчыннага падатку ня можа перавышаць 50 процантаў цаны спадчыны;

e) калі цана спадчыннай долі аднаго спадкаберцы ніжэй аднэй тысячы рублёў золатам, то з яго часткі падатак не бярэцца.

# Правілы аб пасьве быдла й аб іншых пабочных карыстаньнях у лясох Савецкае Беларусі.

1. У лясных дачах Беларусі дазваляецца пасьвіць рагатую скаціну, коняў, цялят і жарэбят.

2. Пасьвіць у лясох коз, авечак і сьвіней зусім забаронена; усю іншую скаціну забаронена пасьвіць у маладняках 15-ці гадовага ўзросту ці 4-х аршыннай вышыні, таксама на вырубках і палянах, якія штучна засеяны лесам, ці пакінутых пад натуральны зарост лесам.

3. Грамадзяне, узяўшыя ў арэнду пасьбішча, павінны: а) не дазваляць пасьвіць быдла ў лясох бяз білета і без дарослага адказнага пастуха; б) не дазваляць пасьвіць быдла па-за межамі свайго пасьбішча; в) ня пускаць у лес коз і сьвіней; г) не дазваляць пастуху і самім раскладаць у лесе агню.

4. У выпадку ляснога пажару па віне арандатараў—на заарандаваным надзеле ці на 100-сажонным пасе вокал надзелу—за ўсе страты ад пажару адказваюць арандатэры.

5. Каб заарандаваць кавалак лесу пад пасьбішча, грамадзяне падаюць лясьнічаму заяву праз сваіх пэўнамоцных, маючых пасьведчаньні, зацьверджаныя валасным выканаўчым камітэтам.

6. Лясьнічы адбірае ад паўнамоцных падпіскі аб выкананьні правіл і, атрымаўшы грошы за арэнду, выдае білет, у якім паказана месца і плошча пасьбішча, лік скаціны, лік заплачаных грошай і тэрмін арэнды.

7. Пасьвіць скаціну ў лесе без дазволу і бяз білета сурова забаронена. Парушаючыя гэтую забарону адказваюць па суду.

8. У лясох Беларусі дазваляецца:

1) зьбіраць грыбы й ягады,
2) » арэхі й дубовыя жалуды,
3) » траву плавун і мох,
4) капаць гліну й пясок,
5) браць каменьне.

9. Бязумоўна забараняецца: а) зьбіраць грыбы й ягады на лесасеках, штучна засеяных лесам ці пакінутых пад зарост лесам да часу дасягненьня маладнякамі 10-ці гадовага ўзросту, б) капаньне гліны, пяску й каменьня сярод пасадак.

Зьбіраць дубовыя жалуды дазваляецца толькі пры адсутнасьці патрэбы на іх з боку лясной управы.

---




## Зьвяртайцеся за парадаю да доктара, а не да цёмнай бабкі ці шаптуна-знахара.

Хворы чалавек павінен памятаць, што хвароба набываецца хутка, праз хвіліну, а выходзіць марудна, бывае што й цэлымі гадамі. Каб хутчэй выздаравець, каб хутчэй выгнаць з цела хваробу, трэба лячыцца. Але лячыцца трэба добра ды не марнаваць часу, бо чым раней пачата лячэньне, тым хутчэй можна выгнаць хваробу, якая за кароткі час не пасьпела аслабіць цела.

Але перш за ўсё—трэба лячыцца *правілова*. Для гэтага кожны хворы павінен зьвяртацца за дапамогаю й парадаю к спэцыяльна абучаным людзям, майстрам лячэбнай справы, гэта значыць—да лекараў, *да дактароў*.

Каб зрапараваць гадзіньнік, кожны разумны чалавек панясе яго да спэцыяльнага майстра, які шмат гадоў вучыўся рапараваць гадзіньнікі. Гэты майстар дасканала ведае будову гадзіньніка, усе яго трубачкі, колачкі, спружыны ды ведае, як працуе ўся машына. Таму ён адразу ўгледзіць, што ў гадзіньніку сапсавана, ведае, як паправіць і ўрэгуляваць машыну. Хіба толькі вар'ят ці зусім дурны аддасьць паправіць свой гадзіньнік абы каму, каб той длубаўся ў далікатнай машыне й дарэшты папсаваў яе.

Або яшчэ такі прыклад. Каб пашыць ці зрапараваць боты, кожны чалавек ідзе да спэцыяльнага майстра, да шаўца. Бо ведама, што шавец, які спэцыяльна вучыўся, як рабіць і рапараваць боты, напэўна зробіць ляпей і мацней, чым той, хто ніколі й шыла ў руцэ ня трымаў.

А от-жа з хваробамі ды лячэньнем іх у нас па вёсках часта здараецца гэтак.

Занядужае чалавек, дык, заместа таго, каб павезьці яго да спэцыялістага па лячэньню хвароб, да доктара, то вязуць хворага да бабкі-шаптухі ці да знахара. А ведаць дасканала розныя хваробы, як і ад чаго кожная хвароба бывае, чым і як хворага трэба лячыць—гэта-ж, кожны ведае, многа трудней, чым навучыцца рапараваць гадзіньнікі ці шыць боты. Каб толькі зрабіцца доктарам, каб атрымаць права лячыць людзей, трэба вучыць роз-

ныя навукі 15—20 год, а каб зрабіцца добрым, спраўным доктарам трэба шмат яшчэ вучыцца ды практыкавацца. Выходзіць, што лячэньне хворых ёсьць справа трудная і спэцыяльная.

Добра было-б, каб у нас сяляне гэта добра ведалі й разумелі; тады хворыя зьвярталіся-б за дапамогаю толькі да дактароў. На бяду, у нас аб гэтым яшчэ шмат хто ня ведае, а думае, што лячыць хваробы можа кожны. Бяда пагоршваецца яшчэ тым, што ў нас амаль кожны лічыць сябе разумеючым ва ўсіх хваробах, хаця-б ён ня толькі не адукаваўся на доктара, але нават зусім і чытаць ня ўмеў. Дзеля гэтага ў нас вельмі многа ёсьць людзей, якія бяруцца даваць направа й налева свае парады хворым, як і чым трэба лячыцца.

Спробуйце падыйсьці на вуліцы к першаму напаткаўшамуся чалавеку ды запытайцеся ў яго парады, як трэба зрапараваць гадзіньнік ці пашыць боты. То-ж ён вам адразу скажа: «Ідзеце да гадзіньнікавага майстра ці да шаўца, а я гэтаму ня вучыўся й за гэта не бяруся». Але спытайцеся ў гэтага-жа чалавека парады, што рабіць ад якой-небудзь хваробы,—ён тут-жа насыпле вам цэлы дзесятак розных парадаў аб тэй ці іншай хваробе, хоць ён і ня доктар і зусім ня вучыўся на доктара.

Кожны з нас любіць і лічыць сваім правам раіць іншым, як лячыцца, а некаторыя дык нават сьмела бяруцца за самую адказную справу—за лячэньне. Іншы займаецца гэтым так сабе, бяз жаднае карысьці для сябе, але шмат ёсьць і гэткіх, якія займаюцца «лячэньнем», каб зарабляць грошы.

Гэткія самазваныя дактары лечаць хто-чым хоча: адны—травіцамі ды карэньнямі, другія—нейкімі, бытцам сакрэтнымі, жыжкамі, трэйція—выпускаюць кроў і г. далей, адным словам, як хто сабе ўздумае. Да сяго часу наш цёмны народ верыць, нібы хваробы бываюць ад таго, што злы чалавек паглядзеў ці наваражыў, і што вылечыцца можна толькі варожбаю, шаптаньнем і знахарскімі загаворамі ды модламі. Амаль у кожнай вёсцы ёсьць гэткія знахары і шаптухі, якія «лечаць» ад усіх хваробаў і жывуць з гэтага.

Ад знахарскага „лячэньня“ ня можа быць ніякае палёгкі хвораму. Хвароба пагаршаецца, хворы слабне і часта памірае не ад самай хваробы, але ад неправіловага лячэньня.

Кожны разумны й сьвядомы чалавек павінен у часе хваробы йсьці за парадай і лячэньнем да вучонага доктара, а не да цёмнай няпісьменнай бабкі-шаптухі.

Час ужо кінуць веру ў шкодныя дзікунскія забабоны!

## Першая дапамога ў няшчасных выпадках.

*Крыватон з носу.* Каб спыніць крываток, трэба: 1) галаву трымаць уверх, крыху адхіліўшы яе назад, 2) рашпіліць каўнер, каб нішто ня сьціскала шыі, 3) сьціснуць нос пальцамі ці, яшчэ лепей, заткаць ноздру ватай або кавалачкам чыстага шматочка, 4) на пераносьсе і на лоб прыкладаць халодны компрэс.

Ні ў якім разе ня трэба нахіляць галаву ўніз і даваць крыві вольна выцякаць. Таксама нельга ўцягаць у нос халодную ваду і не прачышчаць носа бо гэта толькі памагае крыватоку, але ня спыняе яго.

*Апёкі.* Пры апёках, калі загарыцца адзежа, трэба патушыць агонь (а гэта можна зрабіць, накінуўшы якую-небудзь тканіну, коўдру), абліваць халоднай вадой, каб змокла ўся адзежа, а пасьля асьцярожна, ня зьдзіраючы скуры з апаленых мейсц, скідаюць абгарэлую адзежу пры дапамозе нажніцаў.

Апаленыя месцы густа пасыпаць картаплянай мукой ці содай або абкручваюць чыстымі шматамі, намочанымі ў льняным масьле, або насмараваць мылам.

Калі чалавек абварыцца варам, то робяць так сама: добра абліваюць адзежу сьцюдзёнай вадой, асьцярожна нажніцамі абцінаюць адзежу і пасьля ці прыкладаюць прамасьленыя шматкі ці густа абсыпаюць содай, картаплянай мукой.

Зрабіўшы гэту першую дапамогу, калі апёкі моцныя і вялікія, трэба як найхутчэй зьвярнуцца да доктара.

*Чад.* Зачадзеўшага трэба вынесьці на сьвежае паветра, рашпіліць каўнер, палажыць на галаву сьнег, лёд (улетку—рушнік, намочаны ў сьцюдзёнай вадзе), даваць нюхаць нашатырны сьпірытус: націраць гэтым сьпірытусам лоб і за вушамі; сьпіну, падэшвы і далоні расьціраць шчоткай ці суконкай.

*Адмарожаньне.* Адмарожаныя часткі цела трэба моцна церці сьнегам, ня ўводзячы ў хату (ляпей усяго ў халодных сенцах). Пасьля гэтыя часткі цела смаруюць якой-небудзь тлустасьцю: сьвіным ці гусіным салам або кароўім маслам. Калі на скуры зрабіліся пузыры, то, пасьля асмароўкі салам, абвярнуць чыстай прасьцінай. Абмарожаныя часткі цела праз усю зіму трэба добра хаваць ад сьцюжы.

*Зьмяіны ўкус.* Не чакаючы ні хвіліны, туга перацягнуць нагу (ці руку) вышэй пакусанага месца паясом ці вяроўкай на ½ гадзіны. Ранку, зробленую зьмяіным зубам, зараз-жа прыпаліць запаленай цыгаркай ці серняччам.

Калі пакусанае месца робіцца чырвоным, прыпухае, зьявіцца ванітаваньне й слабасьць—хутчэй пасланць па доктара.

*Укус шалёнай сабакі* можна вылячыць толькі спэцыяльнымі прышчэпкамі, якія робяцца ў вялікіх гарадох—Менску, Маскве і інш. Пасьля ўкусу, не чакаючы ані дня, пакусанага трэба везьці на прышчэпкі. Чымся раней іх пачаць, тым болей надзеі на папраўку.

*Атручаньне гарэлкай* (самагонам). Рашпіліць каўнер і грудзі, вынесьці на сьвежае паветра; класьці на галаву рушнік, змочаны ў халоднай вадзе, а ногі ды рукі саграваць і церці.

## Запаведзі здароўя.

*Дбайце аб чыстаце ў хаце і ў дварэ,* бо ад бруду ды сьмецьця бывае шмат усякіх хвароб. Са сьмецьцем і пылам падыймаецца ў паветра зараза

сухотаў; у брудзе заводзіцца й плодзіцца розная і іншая зараза (тыфус, крываўка, халера). Клапы, вошы, блохі ня толькі дакучаюць чалавеку, але пераносяць заразу ад хворага чалавека на здаровага.

*Наглядайце за чыстатой свайго цела і адзежы*, бо да іх можа прычапіцца зараза. Не бярыце яды непамытымі рукамі, асабліва, калі вы былі на кірмашы, на сходзе ці наогул там, дзе зьбіраецца шмат людзей. Не хадзіць на хаўтуры й на памінкі ў тую хату, дзе хто-небудзь памёр ад заразьлівай хваробы, таксама дзяцей сваіх туды ня пушчайце. Ня сьпіце на адным ложку й ня ежце з аднае місы, бо гэтак найхутчэй перадаецца зараза.

*Будуйце ў вёсках лазьні*, каб была магчымасьць кожнаму вымыць сваё цела хоць раз у месяц. Ад бруду на целе заводзяцца вошы, блохі і ўсякія скураныя хваробы: чухачка, кароста, пранцы й іншыя балячкі. Да нячыстага цела й адзежы лягчэй прыстае ўсякая зараза і плодзіцца на іх.

## Брушны тыфус.

Гэтая хвароба творыцца ад асобнага нявідомага голым вокам маленечкага жыўца, які называецца тыфуснай бактэрыяй. Бактэрыя трапляе ў нашае цела з ядой ці з вадой. Бактэрыі пашыраюцца праз розныя бруды ад хворых, калі іх выліваюць каля калодзежаў або ў рэчкі, таксама бактэрыі пераносяцца мухамі. Мухі, якія пасядзяць на брудах, пасьля пералётваюць на яду і пераносяць заразу. Хвароба выяўляецца павышэньнем тэмпэратуры (гарачкай) і разьвальненьнем. Цягнецца хвароба каля 4-х тыдняў. Бактэрыі, якія выклікаюць хваробу, плодзяцца ў кішках, дзе робяцца язвы. Гэтыя язвы часам даюць крываток і разрыў кішкі. Заразьлівы сьліна, мача й кал хворых.

Каб зьберагчыся ад хваробы, трэба:

1) Хворага аддзяліць ад здаровых; 2) бялізну, адзежу і пакой трэба абязшкодзіць ад заразы (бялізну—выпарваць, адзежу вывешваць на сонцы ці ўзімку на мароз, пакой—мыць, асьвяжаць паветрам); 3) усе бруды ад хворага не выкідаць абы дзе, але ўперад залiваць карболем і выкідаць у адно месца, якое таксама час ад часу залiваць карболем; 4) аберагаць калодзежы ад забруджэньня; 5) наглядаць за чыстасьцю рук, нельга есьці нямытымі рукамі; 6) трэба ніпчыць мух.

*Вада—галоўны пераносчык брушнога тыфусу.*

*Ня пеце сырой вады!*

## Воспа.

Воспа вельмі цяжкая й заразьлівая хвароба. Зараза знаходзіцца ў крыві, носавай сьлізі і сьліне хворых, а таксама ў воспавых балячках. Хвароба можа перадавацца праз паветра (пры гутарцы, кашлі й датыку да рэчаў) і яшчэ праз укусы вошаў і блох. Хвароба выяўляецца гарачкай,

больлю ў паясьніцы, агульным зьнемажэньнем. Праз 3—4 дні гарачка крыху зьмяншаецца і аднначасна з гэтым на целе зьяўляюцца мядзяна-чырвоныя пупышкі, высыпка. Далей пупышкі павялічваюцца ды наліваюцца празрыстаю, а пасьля густою гнаёваю жыжкаю. Гнаёвыя пупышкі з часам засыхаюць. Часта хвароба пагоршваецца й канчаецца сьмерцю. Калі чалавек і выздаравее, то на скуры застаюцца рабінкі. Шмат людзей ад воспы сьлепне. Воспа—небясьпечная і цяжкая хвароба, і таму то хворага зараз-жа трэба адвозіць у больніцу.

Найлепшы спосаб зьберагчы сябе ад воспы—гэта рабіць прышчэпку воспы.

## Дзесяць запаведзей для мацярок.

1. Не спавівай дзіцяці моцна, бо гэта для яго нязДорава. Ад моцнага спавіваньня дзіцяці горача; цела ў яго заходзіць, у зморшчках (у пахах) прэе, і праз гэта дзіця крычыць і кепска сьпіць. Гэта бабскія забабоны, што калі не спавіваць дзіцяці, то яно будзе крывое ці гарбатае. Дзеці калечацца й робяцца гарбатымі праз недагляд і ад кепскага паветра.

2. Да паўгоду кармі дзіця толькі грудзямі; пасьля шасьці месяцаў можна даваць каровіна малако, напалову з вадой; але як малако так і ваду, якая дадаецца да малака, трэба абавязкова праварыць; малако, ваду й начыньне для іх (гаршчкі, бутэлькі) трэба трымаць у чыстаце.

3. Не кармі дзіця кожны раз, як толькі заплача, але наперад агледзь яго добра і даведайся, ад чаго яно плача: можа яму мокра, можа замоцна спавіта, можа дзе сапрэла, можа што муляе, можа кусае і т. п. Да 2-х месяцаў кармі дзіця праз кожныя дзьве гадзіны, пасьля 2-х месяцаў кармі праз кожныя тры гадзіны. Калі будзеш часьцей карміць, то дзіця будзе хварэць на жывот.

4. Белы хлеб, кашу, бульбу можна па крысе даваць дзіцяці толькі тады калі зьявяцца зубачкі.

5. Ніколі не давай дзіцяці пустой сыскі або жвачкі з хлеба, з кашы і іншага. Памятай, што жвачка—страшэнны вораг дзіцяці. У ёй хвароба й зараза. У ёй—сьмерць дзіцяці!

6. Да пяці месяцаў мый дзіця штодня, пасьля пяці месяцаў — праз дзень. Будзеш часьцей мыць—здаравей і мацней будзе дзіця.

7. Мый галоўку кожны раз, як купаеш дзіця; не заводзь бруду й каросты на галоўцы; гэта бабскія шкодныя забабоны, нібы галоўку ня трэба мыць. Прамывай чысьценька таксама й вачаняты, каб не закісалі.

8. Не калыш дзіця, бо гэта шкодзіць яму на галаву.

9. Не пакідай дзіця на маленькую недарослую няньку, бо шмат ад гэтага бывае дзіцячых хвароб і калецтваў.

10. Як захварэе дзіця, то не марнуй часу і нясі яго да доктара, а ня шукай парады ў баб, шаптух і знахароў.

# ВЕТЭРЫНАРНЫЯ ВЕДЫ

## Прыметы галоўных заразьлівых хвароба́ў хатняе жывёлы.

*Сап*—нявылечная, вельмі заразная хвароба *коней*, ад якіх могуць захварэць і людзі. Іншы раз сап зацягваецца на шмат гадоў у гаспадарцы або насяленьні, калі сваечасова ня будуць прыняты належныя крокі для яго зьнішчэньня.

Калі толькі ў каня зьявяцца вось гэткія прыметы сапу, дык гаспадар павінен зараз-жа заявіць аб гэтым вэтэрынарнаму доктару. 1) калі пад папашчэнкам апухнуць грусалы на велічыню з лясны гарох і больш, будуць цьвёрдыя і не баляць; 2) калі з аднэй або дзьвюх ноздраў пачынае цячы зялёна-жоўтая сьлізь або 3) калі на целе ў каня зьяўляюцца жалвакі велічынёй з арэх і больш, якія не баляць пры абмацваньні; спачатку яны цьвёрдыя, потым мякчэюць; калі-ж гэтыя жалвакі прарываюцца, дык з іх цячэ матэрыя.

Асабліва трэба сьцерагчыся сапу, калі вышэйадзначаныя прыметы зьявіліся ў каня, якога нядаўна купілі на рынку ў гандляра, або на кірмашы, або з гаспадаркі, дзе ўжо на конях былі гэткія прыметы.

Дзеля гэтага кожнага купленага каня трэба ня менш тыдню пратрымаць у асобным памяшканьні, а потым ужо ставіць яго з другімі коньмі і пускаць на агульны выган.

*Шаленства*—таксама нявылечная хвароба, якая бывае ў кожнае хатняе жывёлы (больш усяго ў сабак), а гэтак-жа і ў дзікіх—ваўкоў, лісіц і г. д. Перадаецца шаленства ад аднае жывёлы да другой больш усяго праз укусы. Ад жывёлы заражаюцца й людзі—таксама праз укусы (сабак, катоў, ваўкоў і інш.) або праз расцарапаныя, зьбітыя й г. д. месцы—пры лячэньні хворае жывёлы. Гэтая хвароба бывае ў выглядзе спакойнага й неспакойнага шаленства. Пры неспакойным шаленстве жывёла становіцца невясёлай, пужлівай, неспакойнай; потым у яе зьяўляюцца прыпадкі, у часе якіх са злосьцю яна кідаецца на людзей і іншую жывёлу, каб укусіць; у прыпадку шаленства сабакі хапаюць і глытаюць кавалкі дрэва, салому, гной, зямлю, шэрсьць, каменьне й інш. няпрыгодныя для ежы рэчы. Брахаць сабакі па-

чынаюць сіплым, вьючым голасам; рагатая жывёла моцна раве й пускае з роту пену. Гэтыя прыпадкі могуць на некаторы час пераходзіць у больш спакойныя. Потым у жывёлы патроху пачынае слабець зад (ад паляршу), і яна здыхае на 3—6 дзень пасьля пачатку хваробы.

Пры спакойным шаленстве хвароба пачынаецца й канчаецца таксама, як і пры неспакойным, але прыпадкаў ярасьці ня бывае, жывёла ня гэткую ахвоту мае кусацца, паляруш прыходзіць хутчэй, чымся пры неспакойным; у сабак адвісае ніжні пашчэнак; здыхае гэтая жывёла на 3—4 дзень.

Што шалёныя жывёлы баяцца вады—няпраўда. Яны п'юць ваду, пакуль у іх ня стане паляруш глытаньня, і могуць, нават, пераплываць рэчкі.

Усе пакусаныя шалёнай жывёлай сабакі й каты павінны быць заразжа зьніштожаны; іншая жывёла не павінна пускацца на агульны выган; як толькі заўважыцца сярод жывёлы шаленства, трэба зараз-жа паведаміць вэтэрынара. Людзі, пакусаныя шалёнай жывёлай, павінны зараж-жа зьвярнуцца ў бліжэйшую больніцу або да вэтэрынара, каб яны маглі накіраваць іх у горад, дзе будуць ім зроблены прывіўкі супроць шаленства.

*Сыбірская язва*—вельмі заразьлівая; яна нападае на ўсю хатнюю жывёлу; больш усяго спатыкаецца на конях і буйнай рагатай жывёле, іншы раз і на авечках. Гэтая хвароба можа перадавацца ад аднае жывёлы да другой, а таксама і на чалавека праз абдзёртыя, зьбітыя й г. д. месцы— пры лячэньні хворай жывёлы, або пры закапваньні іх трупаў, пры вырабе на заводзе шэрсьці, валасоў, скуры ад хворае жывёлы й г. д.; заражэньне можа адбыцца і пры ўжываньні ў ежу мяса хворае жывёлы й г. д. У глебе (у дварох, на выганах, на могільніках), калі на яе пападуць сокі, якія выцякаюць з хворае жывёлы і асабліва з трупа, зараза можа трымацца вельмі доўга, па некалькі гадоў і пагражаць дабрабыту гаспадаркі.

Гаспадар можа прымеціць сыбірскую язву і павінен давесьці да ведама вэтэрынара, калі хвароба без асаблівых прымет скончылася вельмі хутка сьмерцю жывёлы, або калі ў жывёлы зьявіўся вопух небалючы або мала балючы, хутка павялічваючыся, які зьмяшчаецца галоўным чынам на родавых органах або на грудзёх, радзей пад пашчэнкам або на шыі, а яшчэ радзей у іншых мясцох цела. Асабліва трэба берагчыся сыбірскай язвы, калі яна з вышэйадзначанымі прыметамі выявілася ў летні час на конях або на буйнай рагатай жывёле.

*Пошаснае запаленьне лёгкіх*—заразьлівая хвароба рагатае жывёлы, якая цягнецца тыднямі й месяцамі, прыносячы вялікую шкоду гаспадарцы. Спачатку заўважваецца сухі кашаль толькі зраньня, потым кашаль становіцца больш частым, глухім, з больлю; дыханьне павялічваецца й становіцца цяжэй; нападае трасца; прападае малако, ахвота есьці і жаваць. Асабліва трэба сьцерагчыся, калі адзначаныя прыметы хваробы зьяўляюцца ў нядаўна купленай жывёлы. Калі зьявяцца гэткія прыметы, трэба заявіць вэтэрынару.

*Чума рагатае жывёлы*—таксама вельмі заразьлівая хвароба, пошасная й амаль што ваўсёды сьмяртэльная. Дзень, два жывёла зьлёгка хварэе—невясёлая, ня есьць; зьмяншае малако; бялкі вачэй чырванеюць, язык і дзясны таксама чырванеюць і становяцца больш гарачымі, чымся ў здаровае жывёлы. Потым у роце, на дзяснах і на губах зьяўляецца сып у выглядзе дробных шэра-зялёных кропелек, якія потым зьліваюцца й даюць налёт; налёт лопаецца, сходзіць і пад ім выяўляюцца чырвоныя болькі; з вачэй і з носу цячэ; спачатку зьяўляецца запор, а дні праз 2—3 ад пачатку хваробы—вялікі панос, сьмярдзючы, іншы раз з крывёю.

*Яшчур* больш усяго бывае ў рагатае жывёлы, авечак, у сьвіней і можа перадавацца дзецям праз малако ад хворае жывёлы. У захварэўшае жывёлы пачынае цячы сьліна і цягнецца ніткамі, у роце (на языку. дзяснах і губах) зьяўляюцца пухіры, якія лопаюцца і сходзяць, пакідаючы чырвоныя месцы. Жывёла ня можа есьці, худзее, зьмяншае малако. Над капытамі і між капытамі зьяўляецца сып у выглядзе пухіроў: пухіры гэтыя лопаюцца і, замест іх, застаюцца балючыя месцы; жывёла кульгае або, нават, зусім ня можа хадзіць. Каб аберагчы гаспадарку ад гэтай вельмі заразьлівай хваробы, трэба як найхутчэй даць знаць вэтэрынару, каб ён прыняў належныя крокі. Малако ад яшчурных кароў можна есьці толькі пераварыўшы.

*Ніколі нельга здымаць скуры з жывёлы, якая здохла ад заразьлівае хваробы.* Закопваць у зямлю здохшую жывёлу трэба на знарочыта адведзеных для гэтага мясцох і на глыбіню ня менш 2½ арш.

II.

# Як ахоўваць здароўе хатняе жывёлы (гігіена).

Гігіена—гэта навука аб здароўі.

Гігіена хатняе жывёлы—гэта навука аб тым, як жывёлу гадаваць, як хадзіць каля яе, карміць, паіць, як ёю карыстацца і працаваць, каб яна не хварэла, каб яна на доўгі час магла захаваць свае сілы й каштоўнасьць Памяшканьне для жывёлы павінна быць сьветлае, сухое, чыстае, прасторнае —на кожную галаву 2 з пал. арш. шырыні і каля 5 арш. даўжыні; вокны, хоць і невялічкія, павінны знаходзіцца ззаду або збоку ад галавы жывёлы з шыбамі, каб ня дзьмухала. Сьцены павінны быць бяз шчылін, на моху; на бальках суцэльная столь з насіткамі. Наогул, хлявы, стайні й сьвінарнікі павінны быць цёплыя, каб у часе вялікіх марозаў вада ў іх не замярзала. Чым халадней у хлеве, тым больш харчу трэба зьесьці жывёле, што нясе для гаспадара вялікую страту.

*Як хадзіць каля каня.* Раніцай каня трэба карміць сенам; тую частку, якая прызначана на дзень, не закідваць адразу, а падзяліць яе на 4-5 частак і даваць у азначаныя гадзіны дню; апошнюю частку пакінуць на-

нач. Пасьля вадапою, праз $1/2$ гадзіны—авёс; даваць адразу больш, чым гарнец, ня варта. Днём і вечарам гэты-ж самы парадак: сена, вада, авёс. Пасьля працы можна паіць не раней, як праз $2^1/_2$—3 гадзіны; даваць авёс не раней, як праз 2 гадзіны (інакш—апой, раматус, запаленьне капытоў, прастуда). Са спацеўшага каня ня здымаць адразу хамут, сядло або сядзёлку; лепш $1/2$ гадзіны павадзіць яго. Чысьціць каня шчоткай кожны дзень і ні ў якім разе ня менш 2 разоў на тыдзень; капыты абчышчаць ад балота вадой і правяраць коўку. Адсаджваць сысуноў ад маткі на 6-м месяцы. Авёс даваць адсаджаным жарабятам у першыя 3-4 дні па $1/4$ гар. у суткі, закрываючы яго сенам; вада павінна быць чыстая, ня надта халодная і даецца ў першыя 6—8 дзён большай часткай у памяшканьні.

*Як хадзіць каля каровы.* Карову трэба карміць, прымаючы пад увагу яе жывую вагу і лік атрыманага ад яе малака (па нормах). Карміць карову трэба 3 разы, калі харч ня сытны (грубы) і можна 2 разы, калі вельмі сытны. Нясытнага харчу ня трэба выдаваць у суткі менш 15 фунтаў, а сытнага—менш 2 фунтаў. Паіць карову 2 разы ў суткі і абавязкова перад ядой. Калі даецца пойла цёплае, а не халоднае, дык карова дае малака больш.

Цялят лепш усяго паіць „з пальца“, пасьля чаго яны самі ўжо прывыкаюць піць малако. Калі цяля каштоўнае, дык малако даецца 4—8 тыдняў. У суткі трэба выдаваць цяляці малака ў ліку $1/6$ яго жывое вагі. З 8—12 тыдню малако патроху заменьваецца зьнятым, сыроваткай і вадой, куды прымешваецца $3/4$—1 фунт аўсянай мукі або макухі, вотрубяў.

Кароў і цялят трэба чысьціць шчоткамі, а летам—абмываць.

Жвачка ў кароў пачынаецца праз 1—$1^1/_2$ гадзіны пасьля яды; калі жвачкі няма, дык можна думаць, што жывёла захварэла. Трыбух (рубец) у здаровай каровы рухаецца каля 2 разоў у мінуту. Калі націснуць рукой з левага боку цела (у гэтак званай «галоднай ямцы») і пачакаць 1—2 мінюты, дык можна заўважыць і палічыць рухі трыбуха; калі-ж трыбух ня рухаецца, дык гэта значыць, што жывёла захварэла.

*Як хадзіць каля авечкі.* З пасьпехам разводзяцца авечкі толькі ў сухіх мясцох. На сырой і балотлівай глебе хварэюць яны малакроўем; апрача таго, на печані ў іх зьяўляюцца рабакі. Звычайны харч авечкі—сена ($1/25$ частка жывое вагі авечкі ў суткі); частку сена ($2/3$) можна заменьваць саломай: пры 3-х пудох жывое вагі, авечцы можна даваць 5 фунтаў харчу і ў ім $1^1/_2$—3 фунты саломы. Паіць трэба з рэчкі, крыніцы, возера (але не з балота і лужын) адзін раз у пору (суткі), у 7—8 гадзін раніцай. Авечцы даюць соль для ліваньня. Выдаваць харч трэба ў гэткім парадку: а 5—6 гадзіне раніцай выдаецца частка аднаго сена (можна зьмяшаць яго з саломай), а 10—11 гадз.—гэты-ж самы харч, 2—3 гадз.—сена, салома або мякіна і а 5—6 гадзіне зноў яравая салома.

*Як хадзіць каля казы.* Казу неправілова называюць «каровай бедных». Французы называюць яе «каровай слабых і хворых»—і гэта зусім правілова. Як малочная жывёла, каза, у параўнаньні з сваім весам, дае

малака куды больш, чымсі карова, пры гэтым малако яе лепшае (больш тлустае) і лягчэй пeратраўляецца. Усё гэта робіць казу самай здаровай і самай таннай карміцелькай дзяцей. Апрача гэтага, малако казы зьяўляецца лекамі ад хваробы лёгкіх і старчаскай немачы. Заўважана, што сьмяротнасьць грудных дзяцей менш там, дзе больш коз, і ў Нямеччыне, з пашырэньнем казаводзтва, у шмат разоў (да 50 проц.) зьменшылася сьмяротнасьць грудных дзяцей.

Карміць трэба казу вось як: раніцай даецца сена, салома або лісьце з дрэва, пасьля чаго яе дояць (1 раз), потым чысьцяць і даюць цёплае пойла з аўсянага, ячнага або жытняга молатага зярна з варанай бульбай (сырой бульбы козам даваць нельга, асабліва вясной); пасьля гэтага падкідаюць трошкі сена або саломы; упоўдзень даюць вялікую жменю аўсу або варанай бульбы й сена і зноў дояць (2-гі раз); увечары кормяць таксама, як і раніцай, і зноў дояць (3-ці раз). Даіць і карміць казу трэба ў азначаны час. У часе пашы каза зьядае ў дзень сярэднім лікам 3 фунты сена, 3 ф. вотрубяў, 10 ф. зялёнага харчу; зімой-жа—6 ф. гародніны, 2 ф. сена, 3 ф. вотрубяў і 0,5 ф. мукі. Каза ня п'е шмат вады, дзеля чаго молатае зярнё і вотрубі лепш даваць трошкі змочанымі. Для пойла добра трымаць заўсёды чыстую ваду, каб каза магла напаіцца, калі захоча.

Добрая (пародзістая) каза дае каля 6 кварт малака ў дзень і зьмяншае малако з 5 месяца.

Найбольш вялікая цечка ў казы бывае на 10—14 дзень пасьля акоту, пры гэтым каза мала есьць і ўвесь час бляе. Цечка цягнецца 24—36 гадзін. Носіць каза 150 дзён.

Памяшканьне павінна быць ня сырое і досыць цёплае (11—12° R).

*Як хадзіць каля сьвіней.* Чым лепшыя пароды сьвіней, тым больш трэба клапаціцца аб іх памяшканьні і падсьцілцы. Памяшканьне павінна быць чыстае, сухое, прасторнае й досыць цёплае. Харч ня надта дробна змолаты або сечаны. З ім зьмешваецца й мука. Для большай карысьці бульбу трэба варыць або парыць. Яду лепш усяго прыгатаўляць перад тым, як даваць, каб яна ня скісала. Харч даваць 3—4 разы ў дзень. Картаплянікам карміць ня варта, бо ён зусім мала дае карысьці і, апрача таго, калі цьвіце, дык бывае шкодным: выклікае рвоту і сутаргі. Самым лепшым харчам з зярна зьяўляецца ячмень. Рассол ад мяса й селядцоў трэба даваць асьцярожна, бо сьвіньні могуць атруціцца сольлю.

На парасят і падсьвінкаў трэба зьвяртаць шмат увагі. На 3-ім тыдні парасяты пачынаюць гуляць каля маткі й прынюхвацца да розных рэчаў, дзеля чаго карысна палажыць у памяшканьні некалькі рыдлёвак зямлі, пяску. На 4-м тыдні ў гэтую зямлю кладуць жменю сухога ячменю, які парасяты хутка знаходзяць і прывучваюцца, гэткім чынам, самі здабываць для сябе. На 5-м тыдні парасят з маткай выпускаюць на сьвежае паветра на 0,5—1 гадз. У сьвінарніку ў першыя тыдні павінна быць цёпла, ня ніжэй 10° R.

# Каляндар цяжарнасьці

| Дзень злучкі. | Прыблізны канец цяжарнасьці. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кабылы | Каровы | Авечкі і казы | Сьвіньні | Сабакі | Коткі |
| СТУДЗЕНЬ . . 1 | сьнеж. 2 | каст. 12 | чэрв. 3 | крас. 25 | сак. 4 | люты 25 |
| » 5 | 6 | 16 | 7 | 29 | 8 | сак. 1 |
| » 10 | 11 | 21 | 12 | трав. 4 | 13 | 6 |
| » 15 | 16 | 26 | 17 | 9 | 18 | 11 |
| » 20 | 21 | 31 | 22 | 14 | 23 | 16 |
| » 25 | 26 | ліст. 5 | 27 | 19 | 28 | 21 |
| » 30 | 30 | 10 | ліп. 2 | 24 | крас. 2 | 26 |
| ЛЮТЫ . . 1 | студз. 2 | 12 | 4 | 26 | 4 | 28 |
| » 5 | 6 | 16 | 8 | 30 | 8 | крас. 1 |
| » 10 | 11 | 21 | 13 | чэрв. 4 | 13 | 6 |
| » 15 | 16 | 26 | 18 | 9 | 18 | 11 |
| » 20 | 21 | сьнеж. 1 | 23 | 14 | 23 | 16 |
| » 25 | 26 | 6 | 28 | 19 | 28 | 21 |
| САКАВІК . 1 | 31 | 10 | жнів. 1 | 23 | трав. 2 | 25 |
| » 5 | люты 3 | 14 | 5 | 27 | 6 | 29 |
| » 10 | 8 | 19 | 10 | ліп. 2 | 11 | трав. 4 |
| » 15 | 13 | 24 | 15 | 7 | 16 | 9 |
| » 20 | 18 | 29 | 20 | 12 | 21 | 14 |
| » 25 | 23 | студз. 3 | 25 | 17 | 26 | 19 |
| » 30 | 28 | 8 | 30 | 22 | 31 | 24 |
| КРАСАВІК . . 1 | сакав. 2 | 10 | верас. 1 | 24 | чэрв. 2 | 26 |
| » 5 | 6 | 14 | 5 | 28 | 6 | 30 |
| » 10 | 11 | 19 | 10 | жнів. 2 | 11 | чэрв. 4 |
| » 15 | 16 | 24 | 15 | 7 | 16 | 9 |
| » 20 | 21 | 29 | 20 | 12 | 21 | 14 |
| » 25 | 26 | люты 3 | 25 | 17 | 26 | 19 |
| » 30 | 31 | 8 | 30 | 22 | ліп. 1 | 24 |
| ТРАВЕНЬ . 1 | крас. 1 | 9 | кастр. 1 | 23 | 2 | 25 |
| » 5 | 5 | 13 | 5 | 27 | 6 | 29 |
| » 10 | 10 | 18 | 10 | верас. 1 | 11 | ліп. 4 |
| » 15 | 15 | 23 | 15 | 6 | 16 | 9 |
| » 20 | 20 | 28 | 20 | 11 | 21 | 14 |
| » 25 | 25 | сак. 5 | 25 | 16 | 26 | 19 |
| » 30 | 30 | 10 | 30 | 21 | 31 | 24 |
| ЧЭРВЕНЬ . 1 | трав. 2 | 12 | ліст. 1 | 23 | жнів. 2 | 26 |
| » 5 | 6 | 16 | 5 | 27 | 6 | 30 |
| » 10 | 11 | 21 | 10 | кастр. 2 | 11 | жнів. 4 |
| » 15 | 16 | 26 | 15 | 7 | 16 | 9 |
| » 20 | 21 | 31 | 20 | 12 | 21 | 14 |
| » 25 | 26 | крас. 5 | 25 | 17 | 26 | 19 |
| » 30 | 31 | 10 | 30 | 22 | 31 | 24 |

хатняе жывёлы.

| Дзень злучкі. | Прыблізны канец цяжарнасьці. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кабылы | Каровы | Авечкі і казы | Сьвіньні | Сабакі | Коткі |
| ЛІПЕНЬ . 1 | чэрв. 1 | крас. 11 | сьнеж. 1 | кастр. 23 | верас. 1 | жнів. 26 |
| » 5 | 5 | 15 | 5 | 27 | 5 | 29 |
| » 10 | 10 | 20 | 10 | ліст. 1 | 10 | верас. 3 |
| » 15 | 15 | 25 | 15 | 6 | 15 | 8 |
| » 20 | 20 | 30 | 20 | 11 | 20 | 13 |
| » 25 | 25 | трав. 5 | 25 | 16 | 25 | 18 |
| » 30 | 30 | 10 | 30 | 21 | 30 | 23 |
| ЖНІВЕНЬ . 1 | ліп. 5 | 12 | студз. 1 | 23 | кастр. 2 | 25 |
| » 5 | 7 | 16 | 5 | 27 | 6 | 29 |
| » 10 | 11 | 21 | 10 | сьнеж. 2 | 11 | кастр. 4 |
| » 15 | 16 | 26 | 15 | 7 | 16 | 9 |
| » 20 | 21 | 31 | 20 | 12 | 21 | 14 |
| » 25 | 26 | чэрв. 5 | 25 | 17 | 26 | 19 |
| » 30 | 31 | 10 | 30 | 22 | 31 | 24 |
| ВЕРАСЕНЬ . 1 | жнів. 2 | 12 | люты 1 | 24 | ліст. 2 | 26 |
| » 5 | 6 | 16 | 5 | 28 | 6 | 30 |
| » 10 | 11 | 21 | 10 | студз. 2 | 11 | ліст. 4 |
| » 15 | 16 | 26 | 15 | 7 | 16 | 9 |
| » 20 | 21 | ліп. 1 | 20 | 12 | 21 | 14 |
| » 25 | 26 | 6 | 25 | 17 | 26 | 19 |
| » 30 | 31 | 11 | сак. 2 | 22 | сьнеж. 1 | 24 |
| КАСТРЫЧНІК . 1 | верас. 1 | 12 | 3 | 23 | 2 | 25 |
| » 5 | 5 | 16 | 7 | 27 | 6 | 29 |
| » 10 | 10 | 21 | 12 | люты 1 | 11 | сьнеж. 4 |
| » 15 | 15 | 26 | 17 | 6 | 16 | 9 |
| » 20 | 20 | 31 | 22 | 11 | 21 | 14 |
| » 25 | 25 | жнів. 5 | 27 | 16 | 26 | 19 |
| » 30 | 30 | 10 | крас. 1 | 21 | 31 | 24 |
| ЛІСТАПАД . 1 | кастр. 2 | 12 | 3 | 23 | студз. 2 | 26 |
| » 5 | 6 | 16 | 7 | 27 | 6 | 30 |
| » 10 | 11 | 21 | 12 | сак. 4 | 11 | студз. 4 |
| » 15 | 16 | 26 | 17 | 9 | 16 | 9 |
| » 20 | 21 | 31 | 22 | 14 | 21 | 14 |
| » 25 | 26 | верас. 5 | 27 | 19 | 26 | 19 |
| » 30 | 31 | 10 | трав. 2 | 24 | 31 | 24 |
| СЬНЕЖАНЬ . 1 | ліст. 1 | 11 | 3 | 25 | люты 1 | 25 |
| » 5 | 5 | 15 | 7 | 29 | 5 | 29 |
| » 10 | 10 | 20 | 12 | крас 3 | 10 | люты 3 |
| » 15 | 15 | 25 | 17 | 8 | 15 | 8 |
| » 20 | 20 | 30 | 22 | 13 | 20 | 13 |
| » 25 | 25 | кастр. 5 | 27 | 18 | 25 | 18 |
| » 30 | 30 | 10 | чэрв. 1 | 23 | сак. 2 | 23 |

Адсаджаныя парасяты трэба карміць сьвежым або добра скіснуўшым малаком, бо ад малака, якое толькі пачынае кіснуць, бывае панос. У памяшканьні адсаджаных парасят павінны знаходзіцца кавалкі мелу й вугольле; карыта абавязкова трэба чысьціць кожны дзень. Толькі з 4-га мес. парасят пачынаюць карміць больш танным харчам.

Вялікую шкоду прыносяць нашаму сьвінаводзтву пошасныя хваробы сьвіней, дзякуючы чаму шмат іх гіне. Дзеля гэтага трэба асьцерагацца ўсяго, што можа занесьці ў сьвінарнік заразу.

*Як можна даведацца аб цяжарнасьці кароў і кабыл.* У першыя 3—4 месяцы цяжарная жывёла трымае сябе спакойна й добра есьць; цечкі ўжо няма. На 5 і 6 месяцы плод можна бывае прашчупаць праз заднюю (простую) кішку. На 7, 8 і 9 мес. у каровы й на 10—11 мес. у кабылы пачынае наліваецца вымя і значна павялічвацца жывот (асабліва з аднаго боку); западае крыж і галодная ямка, зьяўляецца малодзіва; задні праход і родавая (палавая) похва ўцягваюцца ў глыбіню; бруха, вымя й ногі ацякаюць. Каб роды прайшлі лёгка й ня было ацёкаў, трэба да самых апошніх дзён даваць жывёле магчымасьць рухацца.

*Прыметы надыходзячых радоў.* Дні за два да радоў родавая похва й вымя набухаюць, вымя наліваецца, жывот апускаецца, крыж западае і з родавае похвы пачынае цячы сьлізь.

Натугі пачынаюцца за некалькі гадзін да радоў, рэдка калі за некалькі дзён. Калі выйдзе водны пузыр, пачынаюцца самыя рады.

Рады цягнуцца: у кабылы ў сярэднім 1/2 гадз., іншы раз 5—10 мінют; у каровы, казы і авечкі ад 1/2 гадз. да 6 гадзін; у сьвіньні першае парася выходзіць праз 2—6 гадзін, рэшта-ж парасят раджаецца лёгка, праз 2—10 мінют.

Ачышчаецца (выхад пасьледу) кабыла ў часе радоў або зараз-жа пасьля іх; карова—праз 3—8 гадзін пасьля радоў; авечка й каза—трохі раней, чым карова; сьвіньня—больш усяго ў часе радоў.

Калі пасьля радоў жывёла ня можа ачысьціцца праз 1 суткі, а карова праз 2—3 сутак, дык абавязкова трэба зьвярнуцца за дапамогай к вэтэрынару.

## III.

# Першы паратунак рантоўна захварэўшай жывёлы.

Уздуцьце трыбуха (тымпаніт) бывае, калі карміць рагатую жывёлу сапсутым харчам, зьмёрзлай або гнілой бульбай, зацьвіўшым сенам і г. д. Пры гэтай хваробе хутка павялічваецца жывот, асабліва з левага боку; галодная ямка ажно выпучваецца. Дыхаць жывёла пачынае часта, ногі ў яе слабеюць і яна валіцца на зямлю. Прэз паўгадзіны яна можа здохнуць.

*Лячэньне*: 1) Калі жывот уздула трошкі або ён павялічваецца памаленьку, трэба пробаваць націраньне жывата з левага боку, прычым жывёлу паставіць перадам вышэй. Час ад часу левы бок абліваюць халоднай вадой і зноў націраюць; гэтак робіцца некалькі разоў. У глотку ўліваюць 2—3 бутэлькі добра намыленай вады або дзёгцю, або газы па аднэй шклянцы (малако й мяса ад гэтага псуецца дні на 4—5) і ставяць халодныя клізмы з мыльнай вады. 2) Калі-ж жывот павялічваецца вельмі хутка і можа скончыцца сьмерцю жывёлы, дык трэба зараз-жа пракалоць трыбух трааkарам або, калі яго няма пад рукамі, шырокім нажом звычайнага цызорыка; можна гэтак сама ўвесьці ў трыбух праз рот «харчаводны зонд». Калоць трэба з левага боку, па сярэдзіне галоднай ямкі. Пасьля таго, як з жывата выйдзе паветра, жывёле няможна даваць шмат есьці ў працягу 4—5 дзён; добра, калі даваць ёй 3 разы ўдзень па 1—2 чайных лыжкі саляной кіслаты на бутэльку вады.

**Запаленьне вымя** бывае тады, калі напухае частка або ўсё вымя. Вопух пьвёрды, гарачы і баліць. Малако становіцца рэдкае й стварожваецца, іншы раз з крывёй або матэрыяй. Гарачыня ўсяго цела павялічваецца. Жывёла пачынае кульгаць і мала есьці. Прычына—зараза, якая знаходзіцца ў гразкіх памяшканьнях і выклікае запаленьне вымя.

*Лячэньне*: Трэба часта (праз 1—3 гадз.) выдаіваць; у сярэдзіну даецца 1—2 ф. гляўбэрскай солі. Зьвярнуцца да вэтэрынара.

**Выкідак**: 1) незаразьлівы, калі жывёла ўдарана або павалілася і 2) заразьлівы, калі зараза перададзена быком, падсьцілкай або людзьмі, якія ходзяць каля быдла. Выкідак больш усяго здараецца на 5—7 месяцы цяжарнасьці.

*Прадасьцярога.* У хляве трэба зрабіць дэзынфэкцыю (ачыстку). Усю цельную жывёлу перавесьці ў чыстае памяшканьне. Трэба парадзіцца з вэтэрынарам.

**Вывыхі** бываюць, калі косьці сходзяць з свайго месца. Тады суставы становяцца гарачымі, жывёла кульгае.

*Лячэньне*: Вывіхнутыя косьці ўпраўляюць на месца і кладуць на іх халодныя кампрэсы; жывёле даюць поўны спакой. Тут патрэбна дапамога спэцыялістага.

**Адсутнасьць жвачкі** бывае, калі жывёла хварэе запорам, мытам (паносам), катарам і інш.

*Лячэньне:* Калі бывае запор—даецца на вольнасьць; калі мыт—вяжучае лякарства й г. д. Харч жывёле выдаецца ня поўнасьцю.

**Затканьне страваходу** большай часткай бывае, калі карміць карову цэлай бульбай. Жывёла глытае цэлую бульбу, якая, як корак, затыкае горла. Ад гэтага іншы раз бывае ўздуцьце трыбуха й прападае жвачка; карова становіцца неспакойнай.

*Лячэньне:* Уліваюць у глотку шклянку алівы, потым бяруць тонкі кіёк або дубец, абкручваюць адзін канец анучкай (прывязаць моцна) і прапі-

хаюць бульбу ў трыбух. Калі бульбіна засела блізка і прашчупваецца, дык, уліўшы ў глотку алівы, зваротнымі рухамі абедзьвюх рук пробуюць выпхнуць яе назад, у рот.

**Запор** бывае, калі жывёла гноіць рэдка і цьвёрдым; жара трохі падымаецца, рухі трыбуха слабыя й рэдкія; есьць жывёла мала, жвачка ў яе прападае.

*Лячэньне:* Даецца на вольнасьць 1—2 разы ўдзень гляўбэрская соль або алей па 1—2 ф. кожны раз. Ставіцца клізма з цёплай мыльнай вады, а жывот расьціраецца саламяным скруткам.

**Залежваньне да радоў** бывае часта ад недаяданьня, цяжкога плоду й г. д.

*Лячэньне:* Калі карова залягла за 1—2 тыдні, дык асаблівай небясьпекі няма: трэба толькі глядзець за тым, каб яна не залежвалася на адным баку. Дзеля гэтага трэба кожны дзень памагаць ёй пераварачвацца з аднаго боку на другі. Калі-ж можна будзе, дык дапамагчы ёй падняцца на ногі, каб яна трошкі пастаяла. У гэты-ж час расьціраць бакі камфорным сьпіртам або шпігінарам. Даваць добры, сытны харч.

**Залежваньне пасьля радоў** бывае іншы раз пасьля цяжкіх радоў.

*Лячэньне:* Трэба расьціраць паясьніцу шпігінарам, камфорным сьпіртам або проста скруткам саломы. Кожны дзень падымаць сілай, каб жывёла трошкі пастаяла. Калі карова ў працягу 10 дзён не ўстае, дык надзея на тое, што яна паправіцца, малая.

**Затрыманьне пасьледу** бывае ў тым выпадку, калі карова не ачышчаецца ў працягу 6 гадзін пасьля ацяленьня. На 3-ці дзень пасьлед лачынае гніць; іншы раз пад 6—7 дзень ён сам сабой выходзіць. Але бывае, што ў даным выпадку ён выходзіць ня ўвесь і застаўшая частка гніе далей. Дзякуючы гэтаму, карова есьць дрэнна, патроху худзее; скура робіцца цьвёрдай, малако зьмяншаецца, жара трошкі падымаецца, а з родавай похвы цячэ мутная сьмярдзючая сьлізь. Аднак і ў гэткіх выпадках бываюць досыць часта выздараўленьні.

*Лячыць* трэба прамываньнем маткі цеплаватым 1/2—1/3 проц. растворам крэаліну або лізолю, 2 разы ў дзень. Зьвярнуцца да спэцыялістага. Цягнуць пасьлед самым апасна.

**Мыт.** Гноіць жывёла рэдкім і часта; рухі трыбуха павялічаны.

*Лячэньне:* Даюць на вольнасьць 1—2 фунты гляўбэрскай солі альбо столькі-ж алею. На другі дзень, калі жывот прачысьціцца, даюць 2—3 разы ў дзень моцны адвар дубовай кары (100,0 на 5 бут. вады) па 2—3 шклянкі кожны раз і ставяць цеплаватыя клізмы з слабейшага адвару (60,0—70,0 на вядро вады, 1—2 разы ў дзень). Часта мыт ніяк не праходзіць, тагды лепш зьвярнуцца за радай да спэцыялістага.

**Раны на целе** бываюць ад udaраў рагамі, вострымі рэчамі і інш.

*Лячэньне:* Трэба ня пусьціць, каб выцякала кроў, дзеля чаго ўжываюць лёд або закладаюць у рану вату, змачыўшы яе ў гарачай вадзе; апрачъ таго, жылу, з якой цячэ кроў, туга перавязваюць (прыціскаюць) вышэй раны, а самую рану прамываюць 1—2 проц. растворам карбоўкі, каб змыць гразь (зямлю, валасы, запечаную кроў і г. д.). Калі-ж пад рукамі ніякіх лякарстваў няма, дык прамываюць рану чыстай пераваранай вадой. Пасьля гэтага, як рана падсохне, завязваюць яе чыстай анучкай або бінтом, каб не пападала гразь. Далей трэба лячыць, парадзіўшыся з спэцыялістым.

**Цельны паляруш** здараецца хутка пасьля ацяленьня: карова ляжыць і ня рухаецца, галава яе закінута на грудзі, язык вісіць, карова дыхае з хрыпам і стогнам. глытаць ня можа. Жара спачатку падымаецца, а потым паступова зьмяншаецца да 35⁰ Ц. і ніжэй. Гэткае становішча цягнецца іншы раз дні 2 пасьля чаго бывае раптоўны паварот да лепшага, калі карова падымаецца й пачынае есьці, або наадварот—становіцца горш і карова здыхае.

Сутнасьць хваробы знаходзіцца ў вострым малакроўі мазгоў.

*Лячэньне:* Самы праўдзівы спосаб—гэта ўдуваць у вымя паветра. Дзеля гэтага істнуюць спэцыяльныя прылады, але, калі іх няма, можна карыстацца вэлісапэднай помпай або звычайнай спрынцоўкай.

У сярэдзіну ніякіх лякарстваў даваць нельга, бо карова глытаць ня можа, дзякуючы чаму лякарства можа папасьці ў лёгкія.

**Удары.** Месцы ўдараў звычайна гарачыя й баляць; вельмі часта бывае й вопух.

*Лячэньне:* Прыкладваецца што-небудзь халоднае (лёд, сьнег, гліна). Калі вопух доўга не праходзіць, уціраюць мазі й інш., каб разьмякчыць, або накладаюць саграваючыя кампрэсы.

**Прыпаркі.** Прыпаркі на капыта робяцца з жытніх высевак; робіцца з вадою густаватае цеста і абкладв ецца на 2—3 пальцы цэлае капыта і зьверху абвіваецца анучкаю; раніцаю і ўвечары абліваецца пакрыху вадою.

**Халодныя кампрэсы.** Самым простым халодным кампрэсам зьяўляецца гліна, якая разводзіцца ў вадзе. Дзеля гэтага бяруць вядро, кладуць у яго да палавіны чыст й, без каменчыкаў, гліны і заліваюць на яе столькі халоднай вады, каб выйшла ня зусім густое цеста; кладуць сюды вялікі кавалак лёду або, калі ёсьць, дабаўляюць сьвінцовы воцат (1 сталовая лыжка гэтага воцату на 10—12 шклянак вады) і намазваюць апухшае месца; можна проста намазаць глінай анучку, прылажыць яе да хворага месца й завязаць, а потым, ня здымаючы, час ад часу (разоў з 10—12 у дзень) палівацъ халоднай вадой.

*Даваць лякарствы* праз рот трэба асьцярожна, каб яны не папалі ў дыхальнае горла й ня выклікалі запаленьня лёгкіх. Дзеля гэтага: 1) ня трэба адразу выліваць усяго з бутэлкі, а даць выпіць за 3—4 разы; 2) калі жывёла пачала кашляць, спыніць даваньне лякарства; 3) ня трэба прытрымліваць рукой язык; 4) нельга прывязваць аброці для падняцьця галавы; 5) замест таго, каб гладзіць глотку, калі жывёла ня п'е, лепш ударыць далоняй 1—2 разы па крупу; 6) не даваць лякарстваў праз нос. Усе жывёлы, апрача сьвіньні, досыць лёгка прымаюць рэдкія лякарствы; свіньні-ж лепш даваць лякарства ў выглядзе кашы з мукой, яшчэ лепш з мёдам. У даным выпадку рот сьвіньні расчыняецца палкай і лякарства намазваецца, як мага глыбей, на карэнь языка. Лепш усяго лякарства для сьвіньні зьмешваць разам з ядой.

---




## Па сьвеце.

### Колькі жыве людзей на зямлі.

| | |
|---|---|
| У Эўропе . . . . . . . . | 463.000.000. |
| » Амэрыцы . . . . . . | 212.000.000. |
| » Азіі . . . . . . . . . | 900.000.000. |
| » Афрыцы . . . . . . | 140.000.000. |
| » Аўстраліі й Акіяніі . . . | 60.000.000. |
| Усяго на зямлі . . | 1.775.000.000. |

### Лічба жыхароў у галоўных дзяржавах Эўропы.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Саюз Савецкіх Рэспублік. | 112.000.000. |
| 2. | Нямеччына . . . . . | 61.000.000. |
| 3. | Англія з Ірляндыяй . . | 46.300.000. |
| 4. | Францыя . . . . . . | 39.100.000. |
| 5. | Італія . . . . . . . | 38.835.000. |
| 6. | Польшча . . . . . . | 23.800.000. |
| 7. | Гішпанія . . . . . . | 21.347.000. |
| 8. | Румынія . . . . . . | 17.393.000. |
| 9. | Чэха-Славакія . . . . | 13.596.000. |
| 10. | Юга-Славія . . . . . | 11.971.000. |
| 11. | Вэнгрыя . . . . . . | 7.964.000. |
| 12. | Бэльгія. . . . . . . | 7.459.000. |
| 13. | Голяндыя . . . . . . | 6.841.000. |
| 14. | Аўстрыя . . . . . . | 6.420.000. |
| 15. | Португалія. . . . . . | 6.399.000. |
| 16. | Швэцыя . . . . . . | 5.904.000. |
| 17. | Баўгарыя . . . . . . | 4.861.000. |
| 18. | Швэйцарыя . . . . . | 3.862.000. |
| 19. | Фінляндыя . . . . . | 3.332.000. |
| 20. | Данія . . . . . . . | 3.289.000. |
| 21. | Нарвэгія . . . . . . | 2.646.000. |

## Лічба жыхароў у найвялікшых гарадох Эўропы.

| | |
|---|---|
| Лёндан | 4.477.000. |
| Парыж | 2.906.000. |
| Бэрлін | 1.902.000. |
| Вена | 1.842.000. |
| Масква | 1.028.000. |
| Гамбург | 986.000. |
| Варшава | 980.000. |
| Будапэшт | 925.000. |
| Петраград | 740.000. |
| Рым | 630.000. |

## Лік мобілізаваных у часе імпэрыялістычнай вайны 1914—1918 г. г. па дзяржавам:

| | |
|---|---|
| Расія | 19.000.000. |
| Нямеччына | 11.000.000. |
| Аўстро-Вэнгрыя | 9.000.000. |
| Францыя з каленіямі | 8.000.000. |
| Англія » » | 8.000.000. |
| Італія | 5.000.000. |
| Злучаныя Штаты Амэрыкі | 3.600.000. |
| Турэччына | 3.000.000. |
| Сэрбія | 757.000. |
| Румынія | 700.000. |
| Баўгарыя | 600.000. |
| Бэльгія | 800.000. |
| Грэцыя | 300.000. |
| Японія | 200.000. |
| Португалія | 90.000. |
| Усяго | 69.447.000. |

## Колькі людзей было забіта ў часе вайны 1914—1917 г.г.

| | |
|---|---|
| Нямеччына | 2.000.000. |
| Аўстро-Вэнгрыя | 1.500.000. |
| Англія й Ірляндыя | 800.000. |
| Францыя | 1.400.000. |
| Італія | 600.000. |
| Бэльгія | 115.000. |
| Баўгарыя | 65.000. |
| Румынія | 159.000. |
| Сэрбія | 690.000. |
| Расія | 2.500.000. |
| Усяго | 9.829.00. |

У гэты лік не ўвайшлі забітыя дзяржаў—Амэрыкі, Японіі, Грэцыі, Турцыі й Португаліі.

Калі-ж узяць страту насельніцтва ў часе вайны ад памяншэньня нараджэньняў, ад хвароб, ад голаду і забітых на полі бітваў, то агулам *на ўсім сьвеце ад вайны загінула каля 40 мільёнаў людзей, у тым ліку 12 мільёнаў былі забіты на полі бітвы.*

## Па Савецкай Фэдэрацыі.

У склад Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік уваходзяць:

1. Расійская Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка (48 губэрняў).
2. Украінская » » » (12 губэрняў).
3. Беларуская » » » ( 6 паветаў).
4. Закаўказкая » Фэдэратыўная Савецкая Рэспубліка, якая складзена з трох асобных Соцыял. Савецкіх Рэспублік: а) Азэрбэйджанскай, Ь) Грузінскай і с) Армянскай.
5. Кіргізкая Аўтономная Соцыяліст. Савецкая Рэспубліка (7 губ.).
6. Туркестанская » » » »(6 вобласьцяў).
7. Башкірская » » » » (5 паветаў і 10 кантонаў).
8. Горская » » » » (5 вокругаў).
9. Дагестанская » » » » (12 вокругаў).
10. Крымская » » » » (7 вокругаў).
11. Татарская » » » » (11 кантонаў).
12. Якуцкая » » » »
13. Воцкая Аўтономная вобласьць (5 паветаў).
14. Комі (зыранская) » » (4 паветы).
15. Кабардзінская » » (4 вокругі).
16. Калмыцкая » » (8 аймакоў).
17. Карачаева-Чэркеская » » (4 вокругаў).
18. Марыйская » » (3 кантоны).
19. Мангольска-Бурацкая » » (5 аймакоў).
20. Чуваская » » (4 паветы).
21. Карэльская Працоўная Камуна (3 паветы)
22. Нямецкая » »
23. Опрацкая Аўтономная Вобласьць.

## Па этнографічнай Беларусі.

Беларусь этнографічная—гэта ёсьць абшар, на якім беларусы пераважваюць сваёй лічбаю іншыя нацыі (расійцаў, палякоў і інш.).

Гэты абшар, заселены пераважна беларусамі, складаецца з губэрняў:

1. Менская (цяпер—Савецкая Беларуская Рэспубліка),
2. Магілёўская (цяпер—Гомельшчына),
3. Вітабская,

4. Віленская } 
5. Горадзенская } цяпер яны пад Польшчай.

Апроч таго, беларусы вялікімі масамі жывуць у губэрнях:

| | |
|---|---|
| Чарнігаўскай . . . . . . . . | 700.000 |
| Цьвярской . . . . . . . . . . | 125.000 |
| Ковенскай (цяпер Літва) . . | 60.000 |
| Пскоўскай . . . . . . . . . | 42.000 |
| Калужскай . . . . . . . . . | 41.000 |
| Арлоўскай . . . . . . . . . | 38.000 |
| б. Сувальскай . . . . . . . | 22.000 |
| б. Курляндзкай (цяпер Латвія) | 20.000 |

## Па Савецкай Беларускай Рэспубліцы.

Савецкая Беларусь займае абшар у 45653 квадр. вярсты, мае 6 гарадоў, 6 паветаў, 115 воласьцяў, 10700 населеных пунктаў і 1.605.768 жыхароў.

## Насельнасьць Савецкай Беларусі 1921—1922 г.г. была:

| Гарады | Лік жыхар. | Паветы | Лік жыхароў |
|---|---|---|---|
| Менск . . . . . . . | 104.115 | Менскі . . . . . . | 166.209 |
| Бабруйск . . . . . . | 32.132 | Бабруйскі . . . . | 318.840 |
| Барысаў . . . . . . | 17.912 | Барысаўскі . . . . | 267.362 |
| Чэрвень (Ігуман) . . | 5.236 | Ігуманскі . . . . . | 272.271 |
| Мазыр . . . . . . . | 8.496 | Мазырскі . . . . | 195.836 |
| Слуцак . . . . . . . | 12.068 | Слуцкі . . . . . . | 205.291 |

## Лічба школ (ад пачатковых да 7-х-годак) па гарадох:

| | |
|---|---|
| Менск . . . . . . | 34 |
| Бабруйск . . . . | 23 |
| Барысаў . . . . . | 10 |
| Чэрвень (б. Ігуман) | 4 |
| Мазыр . . . . . | 8 |
| Слуцак . . . . . | 7 |

## Лічба школ (ад пачатковых да 7-х-годак) у паветах:

| | |
|---|---|
| Менскі . . . . . | 180 |
| Бабруйскі . . . | 182 |
| Барысаўскі . . . | 194 |
| Чэрвенскі . . . | 202 |
| Мазырскі . . . . | 168 |
| Слуцкі . . . . . | 153 |

Усяго такіх школ—1.165, усяго вучыцялёў—2538 і вучняў у іх —107.825.

На 1.323 жыхароў прыходзіцца адна школа.

На 60,8 жыхароў прыпадае адзін вучань.

На 39 квадр. вёрстаў прыпадае адна школа.

Апроч гэтых школ, у Савецкай Беларусі ёсьць:

| | |
|---|---|
| Профэсіянальна-тэхнічных школ . . . . | 17 |
| Сельска-Гаспадарчы Інстытут . . . . . | 1 |
| Дзяржаўны Ўнівэрсітэт . . . . . . . . | 1 |




## Цэнтральныя дзяржаўныя ўстановы.

### У Менску.

1. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт —пляц свабоды, дом № 17.
2. Савет Народных Камісараў — » » » »
3. Народны Камісарыят Земляробства —Савецкая в., № 71 і 80.
4. „ „ Унутраных Спраў —Чырвонаармейск. в., № 1.
5. „ „ Асьветы —Савецкая в., № 97.
6. „ „ Фінансаў —Карла Маркса в., № 14.
7. „ „ Працы —пляцСвабоды,Дом Працы.
8. „ „ Аховы Здароўя —Інтэрнацыянальная,№14.
9. „ „ Соцыяльнай Забясьпекі—Савецкая, № 44.
10. „ „ Юстыцыі —Карла Маркса в., № 5.
11. „ „ Харчаваньня
12. „ „ па Вайсковых Справах
13. „ „ Замежных Спраў —пляц Свабоды, № 17.
14. „ „ Рабоча-Сялян. Інспэкцыі—Савецкая, № 97/8.
15. Савет Народнай Гаспадаркі
16. Упраўленьне Паўнамоцнага Народнага Камісарыяту па Замежнаму Гандлю—пляц Свабоды, № 7.
17. Дзяржаўнае Палітычнае Ўпраўленьне —Савецкая, № 49.
18. Упраўленьне Дзяржаўнага Страхаваньня—Карла Маркса, № 14.
19. Дзяржаўны Банк —Савецкая, № 59.
20. Цэнтральнае Статыстычнае Бюро —рог Комуністычнай і Энгельса № 11/16.

## Павятовыя дзяржаўныя ўстановы.

### Выканаўчыя Камітэты.

Менск —пляц Свабоды.
Барысаў—Менская в., д. б. Наркевіча.
Бабруйск—Інтэрнацыянальная в., № 29.

Мазыр —Кіеўская в., № 30.
Ігуман (Чэрвенъ)—пляц Свабоды.
Слуцак —Садовая в., № 7.

## Цэнтральныя грамадзянскія й профэсыянальныя ўстановы.

У Менску.

Цэнтральнае Бюро Комуністычнай Партыі Беларусі—вул., Энгельса, № 30.
Цэнтральны Камітэт Комуністычн. Саюзу Моладзі—Камсамольск., № 25.
Савет Профэсыянальных Саюзаў Беларусі—пляц Свабоды, Дом Працы.
Цэнтральны Саюз Спажывецкіх таварыств—вул. Энгельса, № 50.
Саюз рабочай коопэрацыі Беларусі—рог Лэнінскай і Унівэрсітэцкай 29/31.
Цэнтральны Саюз сельска-гаспадарскіх і прамысловых таварыств Беларусі—Савецкая вул., № 71.
Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжу—Падгорны завулак, № 3.

## Цэнтральныя культурна-асьветныя ўстановы.

Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсітэт—рог Унівэрсітэцкай і Чырвонаармейскай.
Беларускі Сельска Гаспадарчы Інстытут—Інстытуцкі завулак.
Дзяржаўная бібліятэка—Савецкая вул., б. Юбілейны будынак.
Дзяржаўны Музэй—Савецкая вул., б. Юбілейны будынак.
Дзяржаўны Архіў—рог Комуністычнай і вуліцы Энгельса.

## Больніцы, амбуляторыі й аптэкі.

| | | |
|---|---|---|
| У Менску. | 1-я гарадзкая савецкая лячэбніца<br>2-я » » »<br>3-я » » » | *Лячэньне:* апэрацыі, унутран. хвароб, вуха, горла й носа, вачэй, жаночых хвароб, вэнэрычных і скураных хвароб; заразьлівых (3-я лячэбніца). |

Дзіцячая лячэбніца—па ўсіх дзіцячых хваробах.
Лячэбніца для сухотных хворых.
Калёнія для душэўна-хворых.
1-ы і 2-гі прытулак для рожаніц.
Чатыры амбуляторыі—па ўсіх хваробах.
Сем аптэк.

**Менскі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках:*
Заслаў (аптэка)
Койданава
Астраш-гарадок (аптэка)
Самахвалавічы
фольв. Буцэвічы

**У гор. Барысаве.** 1-ая гарадзк. савецк. лячэбніца, 3-яя » » » — *Лячэньне:* апэрацыі, унутраныя хваробы, жаночыя хваробы.
2-ая » » » для заразьлів. хвароб.
Адна амбуляторыя—па ўсіх хваробах
Дзьве аптэкі

**Барысаўскі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках:*
Лошыцы
Мсьціж
Лагойск (аптэка)
Смалявічы »
Халопенічы (аптэка)
Зэмбін »
Плешчаніцы »

**У г. Бабруйску.** 1-ая Савецкая лячэбніца— *Лячэньне:* апэрацыі, унутраныя хваробы, жаночыя хваробы, вуха, горла і носа.
2-ая » » —для заразьлівых хвароб.
Адна цэнтральн. рабоч. амбуляторыя—па усіх хваробах
Дзьве аптэкі.

**Бабруйскі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках:*
Парычы (аптэка)
Асіповічы »
Бацэвічы
Старыя Дарогі (аптэка)
Глуск »
Азарычы (аптэка)
Гарадок
Любонічы
Шчадрын (аптэка)
Сьвіслач »

*Лячэбніцы ёсьць у сёлах:*

Туркі
Бортнікі
Брожа
Горкі
Рудабелка
Качэрычы
Ляскавічы
фольв. Крынкі
Гарбацэвічы
Чэрнін
Асавец

**У гор. Чэрвені (Ігумане).** Гарадзкая лячэбніца—па ўсіх хваробах
» амбуляторыя—па ўсіх хваробах
Адна аптэка.

**Чэрвенскі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках і сёлах:*

| | |
|---|---|
| Бярэзіна (аптэка) | Лапічы (аптэка) |
| Сьмілавічы » | Якшыцы |
| Узда » | Холы (аптэка) |
| Пухавічы » | Узьляны » |
| Шацк » | |

**У гор. Слуцку.** Гарадзкая Савецкая лячэбніца—па ўсіх хваробах
» амбуляторыя—па ўсіх хваробах
Дзьве аптэкі.

**Слуцкі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках:*

| | |
|---|---|
| Грэск (аптэка) | Леніна (аптэка) |
| Вызна » | Любань » |
| Старобіна » | Пагост » |
| Капыль » | Грозава » |
| Цімкавічы » | Пясочнае » |

**У гор. Мазыры.** 1-ая Савецк. лячэбніца—па апэрац. і ўнутр. хваробах
Лячэбніца для заразьлівых хвароб.
» » дзяцей.
Прытулак для рожаніц.
Цэнтральная амбуляторыя —па ўсіх хваробах
2-ая „ —„ „ „
Адна аптэка.

**Мазырскі павет.** *Лячэбніцы ёсьць у мястэчках:*

| | |
|---|---|
| Ельск (аптэка) | Петрыкаў (аптэка) |
| Скрыгалава | Жытковічы » |
| Капаткевічы (аптэка) | Лельчыцы |
| Тураў » | |

# Почта й тэлеграф.

*Тэлеграмы* прыймаюцца ў тэлеграфных установах штадзённа (у нядзелі й сьвяты таксама) у назначаныя гадзіны. У буйных тэлеграфных установах (у гарадох) тэлеграмы прыймаюцца ў любы момант удзень і ўночы.

Тэлеграмы можна пасылаць звычайныя й сьпешныя. Сьпешныя перадаюцца хутчэй і без чаргі, але за іх бярэцца плата ў тры разы больш, чым за звычайныя.

За перадачу тэлеграмы бярэцца плата ў залежнасьці ад ліку слоў тэлеграмы і па пэўнай таксе (расцэнцы).

Можна пасылаць тэлеграмы з аплачаным адказам, з некалькімі адрасамі (калі адпраўца ня ведае пэўнага адрасу), з почтай, з дастаўкай пасланцом, але за ўсё гэта бярэцца даплата.

Тэлеграмы заграніцу каштуюць даражэй унутраных.

*Пісьмы* бываюць закрытыя й адкрытыя (пачтоўкі). За перасылку й дастаўку пісьма бярэцца плата па таксе ў пачтовых марках, якія паклейваюцца на канвэрт ці пачтоўку. Пісьма бяз марак па адрасу прыватных асоб залічаюцца, як даплатныя, адсылаюцца гэтым асобам і з іх бярэцца аплата, як за заказную корэспондэнцыю.

Пісьмы бяз марак па адрасу дзяржаўных устаноў почта зусім не перасылае.

*Бандэрольлю* можна перасылаць розныя друкі, дакумэнты, рукапісы і ўзоры тавараў, але ў гэтых паперах не павінна быць прыватнай перапіскі (пісем, пачтовак, запісак). Бандэролі перасылаюцца па танейшай таксе. Бандэролі ня прыймаюцца вагою вышэй:

а) з дакумэнтамі і друкамі . . . як 2 кілёграмы

б) з узорамі тавараў . . . . як 250 грам.

Бандэролі павінны быць зачынены так, каб на почце лёгка можна было праверыць уложанае.

## Заказныя пісьмы, пачтоўкі й бандэролі.

Каб мець поўнасьць і гарантыю, што пасланае пісьмо ці бандэроль абавязкова дойдуць, куды трэба, можна іх перасылаць заказным парадкам. За заказ на почце бяруць асобную даплату і выдаюць квіток.

Калі адпраўленае заказным прападзе, то па гэтаму квітку можна з почты атрымаць поўную суму грошы.

У заказных пісьмах забараняецца перасылаць грошы.

*Пісьмы з абвешчанай каштоўнасьцю* бываюць зачыненыя й адчыненыя: першыя здаюцца на почту запячатанымі (заклеенымі), а другія—адчыненымі, каб на почце можна было прагляд зець, што ў іх уложана. К каштоўнаму пісьму трэба дакладаць сьпіс у 2-х экзэмплярах з пералічэньнем пасланага ў пісьме і паказаць каштоўнасьць яго.

За гэткія пісьмы почта бярэ сьпэцыяльны страхавы падатак: за пісьмы з уложанымі грашыма—3 проценты з абвешчанай каштоўнасьці, а за безграшоўнае пісьмо—2 проценты з абвешчанай каштоўнасьці.

*Перавод грошаў* можна рабіць па почце й па тэлеграфу, прычым па тэлеграфу можна зрабіць сьпешны перавод.

Перасылаць грошы па тэлеграфу можна адрасаваць і ў такія месцы, дзе няма тэлеграфу. У гэтым выпадку грашовыя пераводы перадаюцца тэлеграфна да бліжэйшых тэлеграфных месц, а далей ідуць почтай.

За перавод грошаў почтаю бярэцца 1 процант ад перасылаемай сумы; за перавод грошаў тэлеграфам даплачваецца яшчэ, як за тэлеграму ў 20—25 слоў.

Лік перасылаемых грошаў неабмежаваны.

Блянкі для грашовых пераводаў прадаюцца ў пачтова-тэлеграфных канторах.

*Пасылкі* могуць быць цэнныя й без цаны.

Цэнныя пасылкі, па жаданьню адпраўцы, можна здаваць на почту адчыненымі, з пералічэньнем у сьпісу ўсяго перасылаемага, які правяраецца прыёмшчыкам пасылак.

Найбольшая, якая дазваляецца, вага пасылкі—2 пуды.

Найвялікшая цэннасьць —750.000 р.

Плата за пасылку бярэцца па адлегласьці з фунта.

Страхавы падатак ад сумы абвешчанай цэннасьці пасылкі бярэцца 3 працэнты.

За пасылкі, якія йдуць апроч жалезнай дарогі, яшчэ па пачтовых дарогах, бярэцца дадатковая плата.

Пасылкі можна пасылаць сьпешна, але з даплатаю.

Вага сьпешных пасылак ня можа быць болей як 10 фунтаў.

Прыняўшы пасылку, почта выдае адпраўцу квіток.

*Накладною платаю* можна адпраўляць адкрытыя й закрытыя пісьмы, заказныя пасылкі й бандэролі. Перасылка накладною платаю робіцца ў тым выпадку, калі адпраўца жадае, каб грошы за перасылаемую рэч почта ўзяла ад атрымаўшага і пераслала адпраўцу ці тэй асобе, якую ён пакажа.

За перасыл з накладной платаю почта бярэ 2 процанты з сумы накладной платы.

Рэчы, перасылаемыя з накладною платаю, нельга кідаць у пачтовыя скрынкі, але абавязкова здаваць на почце на рукі пад расьпіску прыёмшчыка.

## Тэлеграмы, пісьмы, пасылкі й перавод грошай заграніцу.

Пісьмы закрытыя й адкрытыя заказныя пісьмы й пасылкі, пісьмы й пасылкі з абвешчанай цэннасьцю, тэлеграмы можна пасылаць ва ўсе дзяржавы Эўропы, Амэрыкі, Аўстраліі і Азіі.

Адрасы на пісьмах і пасылках заграніцу трэба пісаць на дзьвёх мовах: на беларускай і на мове тае дзяржавы, куды пісьмо пасылаецца.

Перавод грошы заграніцу можна рабіць праз банкі.




## Будзь сьмелым!..

Будзь сьмелым! Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх вядучы!

Будзь сьмелым!.. Ня вер у людзкую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!

Будзь сьмелым, хоць путалі-б злыдні ўвакруг—
Адважным ваякам ня страшны ланцуг!

Будзь сьмелым, як вецер, як воля сама!
Знай, сьмелых ня чэпіць ні крыўда, ні цьма!

Будзь сьмелым, як бура, што крышыць дубы,
А будзе твой верх, тваё права ўсягды!

Янка Купала.

## Наперад!

Перад намі гарацр
Залатыя агні
Жыцьця вольнага й долі яскравай,
А за намі ляжаць
Перажытыя дні
Ліхалецьця прыгону й нядолі крывавай.
Гэй, сумненьне—ад нас атыдзі,
Прага волі—нас уперад вядзі!
Мы паўсталі на бой
За жыцьцё, за правы,
Мы паўсталі да творчае працы;
І пайшлі грамадой,
Як пярун грамавы,
Нішчыць троны цароў, іх палацы.

Разьвівайся наш сьцяг, чырваней,
І пуглівасьць сумленных расьсей!
Злосны ворaг наўкруг
Стварыў гібель прашкод—
Захаваць стары сьвет хоча далей,
Але рабства ланцуг
Ня ўстрымае наш ход
Да Свабоды—нястрыманай хваляй.
Ў нашых сэрцах адвага гарыць—
І нікому яе не згасіць.
Наш канчаецца шлях
Там, дзе згладзее сьлед
Векавога прымусу й стагнаньня.
Мы чырвоны свой сьцяг
Распрастром на ўвесь сьвет
І Камуны ўвядзём панаваньне.
Мы—ваякі за волю людзей.
Хто хоча свабоды—хай з намі ідзе!

Цішка Гартны.

## Бунтар.

Я—шумлівы чарот, я—мяцежны бунтар,
Я балота буджу гучным шумам,
У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,
Але змоўкнуць ня дам сваім струнам.

Уздыму дух людзей, прабуджу іх ад сну,
Славу, будучнасьць я ім прарочу...
Я—мяцежны бунтар, клічу жыцьця вясну,
Клічу к працы свабоднай і творчай.

Як ня счуюць мяне, я мацней загуду,
Дам гучнейшы акорд песьні новай...
А каб змыць з зямлі бруд, скалыхну я ваду
Што дажджом налілася сьвінцовым.

Чаму-ж вы, песьняры, што будзілі людзей,
Чуць ня хочаце песьні чарота?
Нашы песьні—наш кліч, бо адных мы грудзей,
Край адзін наш—то наша балота.

Дык шумі, як шумеў, вялікан-ясакар,
Шапаці сьпелы колас у полі...
А я песьню сваю буду пець—я бунтар!
Буду клікаць народ свой да Волі.

М. Чарот.

## На балоце.

*(З нядаўнага мінулага).*

— Няхай спухну, калі гэта мана, няхай спухну!—хрыплым, надломаным голасам гаварыў засопшыся хлапчук бяз шапкі, з скалмачанымі, успацеўшымі валасамі. Хлапчук біў закэрузлым цёмна-бураковым кулачком па парванай сьвітцы ў худыя грудзі свае, хлёпаў босымі, парэзанымі нагамі па гразі і ўсё паўтараў «няхай спухну».

— У чым рэч? Што такое?—закідвалі яго пытаньнямі старыя людзі: —гавары хутчэй!

— Няхай спухну, калі няпраўда!

У вачох хлопчыка зьяла асабістая радасьць выпаўненага сакрэтнага абавязку. Ён глытаў словы і, здавалася, нібы шчыра жадаў спухнуць раней, каб лягчэй было потым апавядаць нешта асабліва цікавае і бязьмерна жудаснае.

Яго акружыла цэлая грамада старых сялян, кабет і дзяцей, і кожны з нецярплівасьцю глядзеў хлопчыку ў рот і чакаў, што ён тут раскажа.

Хлопчык пазіраў на ўсе бакі лесу і балотных абшарынаў, угледаўся падазрона ў цёмныя кусты і моцна сапеў.

— Кажы скарэй, спухні, каб цябе чэрці, і кажы!—злосна крыкнуў адзін стары дзед, высокі і худы, са зморшчаным тварам, з жоўта-сівенькай бародкай. Дзед пры гэтым моцна ўеўся мазалістымі, скручанымі пальцамі ў плечы хлопчыка і пачаў яго тармасіць ва ўсе бакі, нібы галінку кволага кусьціка.

Хлапчук нібы гэтага толькі чакаў. Ён адразу перастаў сапсьці і загаварыў:

— Лігянеры даведаліся, дзе мы хаваемся. Ім сказаў зладзюк Бавэлчык.

— А, падліза панскі!—заскрыпеў дзед зубамі ад злосьці і моцна вылаяўся.—Болей што даведаўся?

— Лігянеры сюды зараз прыдуць і забяруць нашых коняў і кароў. Бавэлчык іх сюды вядзе зімнікам.

— Вось шэльма, вось гад! Хіба выберацца ён адгэтуль разам з панскімі псамі, а то дадзімо яму ў рукі яго шальмецкую галаву—хай цацкаецца з ёю, як з гнілым гарбузом!

На балоце пачалася трывога. Мужчыны, кабеты і дзеці заёрзаліся, разыйшліся ва ўсе бакі зьбіраць сваіх коняў і кароў.

— У барок трэба ехаць праз Ціменку! Туды, сукіны дзеці, не прабяруцца. І ня гуртам ідзіце, а ў адзіночку,—закамандаваў дзед,—і галасу вялікага не падыймаць!

Быў вясёлы летні поўдзень. Балотная паляна, акружаная з усіх бакоў цёмнай высокай сьцяною лесу, млела ад гарачыні. Высокая па пояс зялёная шчотка травы была скалмачана людзьмі і жывёлінамі. Дзе-ні-дзе спаміж травы ірдзелася мутна-меднага колеру балотная рудаўка, якая пазірала

ўверх, нібы аграмадные, мёртвае вока. Дзе-ні-дзе тырчэлі сухія, леташнія сьцяжарні.

Ценкі паплёт тырчэў уверх нібы вялізарныя, сукаватыя пальцы падзямельных страшыдлаў і сьцяжарні паказвалі ворагу, дзе хаваюць сяляне сваё апошняе багацьце—коняў і кароў.

Клопатна кружыліся нізка над травою балотныя птушкі. Яны займаліся сваёй звычайнай, штадзённай працай: лавілі мух, мушак, глыталі рабачкоў у рудаўках і гучна сьпявалі на розныя лады. Дзе-ні-дзе горда і спакойна спацыравалі буслы.

На ўстрывожаных людзей зварачвалі ўвагу толькі коні і каровы, якіх адарвалі ад яды. Людзі ў адзіночку і ціха вялі коняў і гналі кароў да рэчкі на самым канцы балотнай вялікай паляны. Шастала трава зьмяіным затаёным шастам:

— Ш ш-ш .. с-с с...

Хлюпала балота і гойдалася пад нагамі, як чартоўская зыбка:

— Хлю-ю-п, хлю-ю-п, хлю-ю-п!

Во праваліцца балота... во людзі і жывёлы праб'юць яго пухкі, верхні слой, абросшы высокай драцяной травой; праб'юць, як стары кажух, і праваляцца наскрозь, ажно слаку ад іх не застанецца... Узьдзівяцца маўклівыя буслы, зашастаюць моцнымі веярамі-скрыдламі, падымуцца над балотам і, купаючыся пад небам ясным у растопленым золаце гарачага сонца, панясуць у празрыстыя летнія далі нямую казку аб тым, як балота глынула людзей і жывёлін...

Людзі ціха цягнуліся да рэчкі балотнай жывым ланцугом, у брод перапраўляліся праз рэчку і таялі разам з сваімі жывёлінамі ў блізкай ля рэчкі пушчы. Апошнім прабраўся праз рэчку сівы, высокі дзед.

Здалёку чулася кулямётная страляніна: «тра-та-та, тра-та-та». Нібы хтосьці рассыпаў боб па сухім гліняным таку.

— Гэта нашыя паўстанцы б'юцца з палякамі,—падумаў дзед, і ўсьмешка ўзьявілася на яго худым твары. Ён прыпомніў, як калісьці і ён з туркам біўся, але тады нейк войны былі інакшыя і ўсё жыцьцё было інакшае. Тады гвалтам цар гнаў людзей на бітву з невядомым ворагам, а цяпер людзі самі йдуць. Усе маладыя хлопцы з ваколічных вёсак пашлі на пана, ды ня толькі маладыя, а барадатыя мужыкі пайшлі, з віламі, з тапарамі Як ня пойдзеш, калі шляхтуны катуюць мужыкоў, зьневажаюць баб, да сьмерці замучываюць дзяўчат, паляць вёскі. Тут мусіш пайсьці... Эх, каб я быў маладзейшы!..

Дзед глыбока ўздыхнуў.

— Але што-ж! Калі ня я, дык двое маіх сыноў б'юцца цяпер з ворагам. З мяне досыць.

Дзед апошнім схаваўся ў пушчы. Там ён далучыўся да ўсёй грамады, якая трох асьмялела і гойкала ў лесе на жывёлін.

Праз густыя галіны высокіх дрэваў сонца рэдка дзе пранікала. У пушчы стаяла вечная палуцьма, якая расьцілалася па шурпацістых пнёх, па карчох і вываратнях, як вільготны, сьветла-шэры вэлем.

Пад кожным пнём, ля кожнага чорнага карча тупіліся старадаўныя казкі аб лясунох і русалках. У лесе яны здаваліся праўдзівымі. Нібы во-во яны тут былі, толькі з прыходам сюды няпрошаных гасьцёў-людзей і жывёлін яны схаваліся па далёкіх кутках гушчарынаў, перакінуліся ў птушак, у віламатыя пнішчы... Во-во па вільготным папаратніку адціснуты іх затаёныя сьляды. Вось нядаўна яны разгульвалі ў хмельна-пахкім багуне, качаліся ў пухкіх коўдрах моху, пробавалі на смак сыраежак, масьлянак і пераспеўшых чарніц.

Аб гэтым думаў толькі дзед. Уся грамада людзей была занята. Кожны пільна глядзеў за тым, каб жывёлы не заблукаліся ў лесе.

Людзі прабраліся і праз гэты лес дайшлі да Ціменкі—балоцісты луг, які доўгай і вузкай паласою цягнуўся паміж хвайняком, сьціснуты дрэвамі з абодвых бакоў. Праз Ціменку яны дабраліся да сухога барку, які стаяў на невялікім узгорку цьвёрдай, аграмаднай барадой вялікана.

Барок гэты быў акружаны балотамі і пушчамі на некалькі вёрст вакол, і бела-польскаму войску прабрацца туды было немагчыма. Грукат страляніны даходзіў да барка глухімі, далёкімі водгаласкамі, якія мала трывожылі людзей. Сваіх і хатніх спажыткаў яны адракліся ўжо колькі дзён таму назад, калі паны пусьцілі вёску чырвоным пеўнем, а паўстанцы дадуць сабе раду—яны маюць шмат кулямётаў і стрэльбаў, і, пэўна, да іх ужо і бальшавікі надыйшлі.

Сонца тымчасам апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Надыйшоў вечар, і людзі, адарваныя ад свайго звычайнага ладу жыцьця, ад усяго сьвету, як-бы зусім пераіначыліся. Гора застыгла ў грудзёх камяністых палючым комам, рукі і ногі былі змучаны і, як чужыя, рабілі сваю работу. Твары былі загарэлыя і брудныя. Губы запякліся ад смагі, а ў вачох няспынна гарэла вялікая злосьць.

Сталыя людзі былі падобны адзін да аднаго. Кожны сабе нешта бурчэў пад нос. Толькі дзеці не сумавалі. Ім уся гэта штука была надзвычайна цікава; нічога лепшага ня трэба, як хавацца па лясох днямі і начамі.

Тут-бы пастаянна жыць, ды й годзе...—думалі дзеці.—Адно кепска, што вялікія не дазваляюць ім шуму рабіць. Вось гэта ня зусім добра. Гэтыя вялікія—народ дзіўны: пачалі добрую справу з вандроўкай па лясох і не давялі да канца—не даюць галёкаць па лесе, не дазваляюць сьвістаць, сьмяяцца, глядзі на матак і маўчы няведама дзеля чаго.

Колькі дзіцячых вачэй блішчэла ў грамадзе, столькі застыўшых пытаньняў відаць было ў іх. Дзеці ніякіх тлумачэньняў ведаць не хацелі, як тыя нявінныя жывёлы, што вакол іх шчыпалі траву.

Грамада людзей сабралася ў адну кучу. Дзед падазваў падростка, які прынёс ім раней вестку аб тым, што польскія салдаты даведаліся ад Бавэлчыка, дзе яны хаваюцца.

— Сьцяпанка, ведаеш што, трэба было-б зноў падбегчы паглядзець, што там у вёсцы робіцца. Толькі асьцярожна, каб цябе ня прыкмецілі!

— Няхай спухну, калі мяне прыкмецяць!—горача сказаў узрадаваны хлапчук.

— Ідзі і не марудзь там, варочайся адразу назад. Толькі не заблудзіся па дарозе.

Хлапчук шуснуў у лес і зьнік.

Кабеты пачалі даіць каровы ў вялікія жбаны, старыя сяляне курылі люлькі, нічога не гаворачы між сабою, а дзеці ціханька, крадучыся забаўляліся між дрэваў.

Зрокі пачалі надыходзіць цёмна-шэрымі хвалямі. У барку пачало цямнець. Над галовамі людзей пачалі кружыцца камары і не давалі ім супакою—злосна кусаліся. Людзі згуртаваліся ў адну кучу і елі вячэру—хлеб з малаком. Толькі некалькі мужчын асталіся вартаваць стада, якое таксама стаяла або ляжала цесным гуртом.

Вогнішча не разлажылі, баючыся, каб іх ня прыкмецілі. Бабы ўкуталі дзяцей у сьвіткі і кажухі і палажылі іх спаць. Дарослым ня спалася.

Жудасна і няпрытульна было ў лесе бяз вогнішча. Вільгаць падымалася з зямлі і пранікала ў косьці.

Прайшло паўгадзіны, гадзіна. На блакітна-шкляным небе плаваў яркі, двухрогі месяц, а соткі зорак былі рассыпаны па нябёснаму абшару вакол, як залаты гарох.

Дзесьці блізка плакала заліваючыся сава, маладыя ваўчаняты кволажаласьліва вылі.

— І накруціла мяне пасдаць зноў падшывальца,—казаў высокі дзед,—яшчэ заблудзіцца ў лесе.

— Міхась не заблудзіцца,—казалі бабы,—ён ведае лес і балота, як свае пяць пальцаў на руцэ.

У барку дзесьці шорхала і шастала. Людзі востра прыслухоўваліся. Нарэшце, зблізку затрышчэла пад дрэвамі і пачуўся людзкі гоман.

Усе паўскочылі з сваіх месц і пачалі пільна ўглядацца. Ішло да іх некалькі чалавек, якіх вёў сюды хлапчук.

— Няўжо-ж легіянеры!!—устрывожыліся людзі: у легіянерскіх шынэлях, з бліскучымі брылямі на шапках...

— Вось дзе канец нашым конікам і кароўкам...

Легіянеры падыйшлі блізка. З імі разам ішоў моўчкі сусед-здраднік Бавэлчык, які пафрантоўску трымаў рукі заложанымі назад мабыць з вялікай гордасьці.

Пры гэтым хлапчук круціўся між легіянераў, як ўюн, і весела хіхікаў.

Няўжо-ж ён іх наўмысьне сюды прывёў?—падумаў дзед. І лаянка, ядраная і моцная, сарвалася з яго вуснаў.

— Добры вечар, браткі!—сказалі легіянеры.

— Гэта-ж нашыя хлопцы!—закрычала весела грамада людзей,—нашыя хлопцы прышлі!

— Палякаў мы ўжо выгналі адгэтуль,—казалі паўстанцы,—у нас чырвоныя, нашыя. Палякі, уцякаючы пакінулі свой абоз, дык вось мы трохі прыбраліся ў іхнія вопраткі. А вось гасьця Бавэлчыка мы вам сюды прывялі. Хутчэй разлажэце вогнішча і гляньце на суседа нашага, на панскага-ж!

У адзін момант сабралі кучу сухіх сукоў і хутка разгарэлася вялікае вогнішча. Шыбаў агонь уверх пышна-чырвонымі языкамі, шыпеў і трышчэў на розныя лады.

Маладыя паўстанцы ў польскіх вопратках са стрэльбамі ў руках падвялі Бавэлчыка бліжэй да вогнішча. Рукі ў яго былі зьвязаны за плячыма. Гэта быў мужык гадоў пад пяцьдзесят, кароткі, прысадзісты і шырокаплечы. На круглым твары цаглянога колеру тырчэлі сівакатыя, тоўстыя вусы. Маленькія, чорныя вочкі скосу пазіралі на людзей, пазіралі злосна і пудліва, як у паймынага ваўка.

Бавэлчык жыў палясоўшчыкам у блізкага пана Бараноўскага, дзеля чаго і самога сябе напалавіну панам лічыў і служыў у легіянераў, як шпік, падказваў, дзе сяляне коняў хаваюць, хто з сялян багаты, каб яго аграбіць і дзе знаходзяцца паўстанцы.

— Чаму, Бавэлчык, прышоў да нас без палякаў?—запытаўся дзед.

Бавэлчык апусьціў галаву.

— Чаму ня ўцёк з палякамі?

Бавэлчык маўчаў.

— Кажы!—злосна закрычаў дзед і тарганув Бавэлчыка за зьвязаныя рукі.

— Мы яго захапілі пры польскім абозе, калі ён капаўся ў вопратках салдацкіх,—сказаў адзін з паўстанцаў.

— Шэльма ты! Зладзюга!!—злаваўся дзед. Глыбока зірнуў ён на Бавэлчыка і моцна плюнуў яму ў твар.

Бавэлчык уздрыгануў з ног да галавы і заскрыгатаў зубамі.

— Досыць!—сказаў адзін з паўстанцаў,—вы тут да раніцы начуйце пры агні, а мы з Бавэлчыкам пойдзем на гулянку. Марш, Бавэлчык!

Бавэлчык задрыжэў, як асінавы ліст, зубы ў яго забарабанілі, і ён задушаным голасам замармытаў:

— Зьлітуйцеся, браткі...

— Ідзі, сукін сын, калі прыказваюць!

Бавэлчык не хацеў ісьці, але прыклады паўстанцаў падалі ахвоты.

Ніхто з грамады людзей Бавэлчыка не бараніў. Усе маўчалі.

Паўстанцы разам з Бавэлчыкам зьніклі паміж дрэў. Вогнішча весела гарэла. Прабудзіліся дзеці і пачалі забаўляцца пры вагні. Ніхто з дзяцей ужо больш не баяўся шумець і забаўляцца: старшыя ім не забаранялі.

Праз колькі хвіль увесь барок уздрыгануўся ад грымотнага стрэлу.

Поiшчакi насiлiся з усiх бакоў працягла i жудасна. Людзi ўсе падскочылi на сваiх мясцох. Дзецi спалохалiся i некаторыя з iх пачалi плакаць.

— Бывэлчык застаў паводлуг заслугаў,—глуха прагаварыў дзед i спакойна задымiў люльку.

З. Бядуля.

# Кiрмаш.

*(Апавяданьне).*

У мiнулыя гады дзень «сьвятога Макавея» вёска Лiпнёўка сьветкавала вельмi шчыра i ўрачыста.

Гэта быў кiрмашны дзень.

З усходам сонца лiпнёўцы былi на нагах. Чыста прыбраныя бабы i мужыкi хадзiлi адны да другiх частавацца.

Моладзь-жа, хлопцы й дзяўчаты, iшлi за пяць вёрст у царкву на абедню, а пасьля абеднi бралi абразы, крыж, пратэсы i несьлi ў сваю вёску.

Бацюшка з дзякам прыяжджаў крыху пазьней, i пачыналася хаджэньне з вобразам па вёсцы.

— «Сьвяты угоднiча, Макавею, малi бога за нас»,—цягнуў хрыплым, але досыць гучным голасам айцец Парфiры. Дзячок тэнарком спрытна паўтараў...

— «Слава айцу i сыну i сьвятому духу»,—яшчэ гучней гукаў бацюшка.

— «I ныне i прысна i ва векi вякоў»,—падхватваў дзяк i цягнуў так доўга, каб можна было дайсьцi да суседняга двара.

I гэтак з двара ў двор, ад аднэй хаты да другой iшла працэсiя, а за ёю вялiкая грамада людзей, амаль усе лiпнёўцы ды яшчэ прыехаўшыя на кiрмаш з суседнiх вёсак.

Бацюшка, узышоўшы на двор, адчытваў спачатку малiтвы, палажыўшы эвангэльле на дзяжы, засланай чыстым абрусом i пакрыўшы эпiтрахiльлю галавы гаспадара i гаспадынi, пасьля йшоў пасьвянцаць сьвятою вадой хату, хлявы i iншыя будынкi.

У гэты час стараста забiраў са стала, якi таксама павiнен стаяць на двары, булку хлеба, рэшата альбо шаспасiку жыта цi ячменю, кусок сала, некалькi яец i нёс на вазы, якiя ехалi ўсьлед за вобразам.

Дзяк-жа, як толькi канчалася цэрамонiя, хутчэй за ўсiх хватаў са стала дзесятку альбо грыўню, каб яна не папала каму iншаму ў кiшэню, ведаючы, што грошы кладуцца спэцыяльна для яго.

Як канчалi абыходзiць усе хаты, у канцы вёскi прыладжвалi высока на жэрдках вобраз «божай мацеры» i праганялi ўсю жывёлiну з поля. Поп-жа стаяў з боку i крапiдлам крапiў, шэпчучы сабе пад нос некiя малiтвы...

Гэтым канчалася адна частка кiрмашу.

Другая частка—гэта было пагалоўнае п'янства, бойка, гульнi i iнш.

Бацюшка, звычайна „папрацаваўшы“ цяжка, заходзіў ці да старасты, ці па чарзе да аднаго з багацейшых сялян вёскі і там гэтак напіваўся, што яго клалі з мяшкамі жыта і везьлі да хаты, а там на руках здымалі і аддавалі «матушцы», якая даўно прырыхтавалася спаткаць яго не цьверазейшым.

Бывала, пападалі добрыя праважатыя бацюшку, то яны, напаіўшы, як сьлед, царкоўнага старасту, які павінен быў сачыць за ўсім сабраным скарбам, не праміналі некалькі мяшкоў скінуць па дарозе ў авёс, а назад едучы, забраць іх ды прапіць.

А дзяк, то той гэтак напіваўся, што заставаўся заўсёды начаваць дзе небудзь у садку альбо ў агародзе, і яму вобчаства назаўтра давала фурманку...

Ліпнёўцы-ж гэтак напіваліся к вечару, што кірмаш заўсёды канчаўся бойкаю, а чаго добрага і пажарам...

— Ліпнякі гуляюць,—казалі суседнія вёскі, калі раптам уночы Ліпнёўка асьвечвалася чырвонымі языкамі агню...

А назаўтра часалі „ліпнякі“ патыліцу, чухалі ды гутарылі адзін да другога:

— Кажуць, калі на Макавея дождж ідзе, то пажару ня будзе, а тут— на табе і дождж прайшоў і на таго-ж самага Макавея, бадай на яго ліха, гэткае няшчасьце...

— А ўсё гарэлка нарабіла!..

— Так, яна,—паўтаралі, як адзін, сяляне і пазіралі на абгарэлыя бярвеньні спаленых будынкаў...

Гэтак было даўней...

Але пачалася вайна, пасьля рэволюцыя, зноў пайшлі войны ня з тым, дык з тым, і Ліпнёўка забылася пра кірмашы. Моладзь на вайне, старыя заняты працаю, а галоўнае—няма гарэлкі: усё неяк не выпадала зрабіць кірмашу...

— Хіба жыцьцё крыху наладзіцца,—гаманілі ліпнёўцы,—тады закірмашуем...

Дык вось ня гэтак даўно нашы ліпнякі і закірмашавалі...

* * *

За некалькі дзён да Макавея старыя ліпнёўцы пачалі рыхтавацца да кірмашу...

То сям, то там пачалі паказвацца дымкі на імшарні. Гэта працавалі самагоначныя заводы.

— Ну, што за кірмаш без самагону? Няма гарэлкі пры Савецкай уладзе, то трэба хоць свайго... самагону „выцiснуць“.

Ну і пачалі «цiснуць»...

А раптам міліцыя ў лясок ды гэтак націснула, што шмат хто адчураўся і бражкі і пасуды ды задаў ла-та-ты, куды вочы глядзяць.

— Нічога,—сьмяяліся мужчыны пасьля гэткай навальніцы,—ня ўсё забралі, для кірмашу і нам пакінулі...

Назаўтра і Макавей.

— Як-жа з папом будзе,—гаварыў стары Ахрэм у грамадзе мужчын, якія сабраліся каля варот сельсавету.

— Вы ўжо самі мужчыны вырашайце гэту справу,—падхапіў старшыня сельсавету:—я—чалавек савецкі, мне нямprobably можна гэтымі «сьвятымі» справамі займацца. Бачыце, цяпер і царква і папы зусім ня то, што раней...

— Але, гэтак—загаманіў малады хлапец у чырвонаармейскай шапцы з „пікаю“,—папы нашай улады не памінаюць, затое мы іх памінаем...

— Ды якім яшчэ добрым словам,—рагатаў другі хлапец, узабраўшыся на вароты...

Мужчыны пераглянуліся.

— Бадай што і без папа і на гэты раз абыйдзецца... Ці-ж знойдзеш тую моладзь, якая даўней за вобразам хадзіла,—бубніў пад нос Рыгор Вушыла,—наша моладзь хутчэй на «шпяктаклі» некія рынецца, чым у царкву за пратэсамі...

Маладыя хлопцы і дзяўчаты ажно лопалі з рогату.

— Што, хочаце папа прывезьці паказаць?—гукалі яны, — ды яно не пашкодзіла-б глянуць на яго... даўно бачылі.

— Касіць, хлопцы, касіць, а ня кірмашы спраўляць, — казаў Мікіта Рыла,—на пагодзе стала, трэба пасьпяшацца...

Пачало ўжо цямнець. Дзе-ні-дзе ў вокнах блішчэлі агні... Усе пачалі расходзіцца...

— Шкада,—казаў, уздыхаючы, Габрусь Канцавенька, які быў у добрых адносінах з папом:—а я, як на ліха, будучы ў нядзелю ў царкве, казаў бацюшку, што будзем спраўляць кірмаш і нават гаманіў аб тым, каб як-небудзь вобраз панасіць па вёсцы... Шкада, шкада...

— Ты вось лепей пайдзі заўтра панасі сена сваё з балота, а ня вобраз,—адпаліў пятнаццацёхгадовы хлапчук-камсамолец:—а то пагіне ў балоце, дык зімою каровы падохнуць з голаду...

— Сам ты здохнеш хутчэй,—агрызнуўся злосна Габрусь.—Прэч, несьвянцоная костка, злы дух паганы... Трэба прывезьці папа ды вас, чарцей, пасьвянціць, каб нячыстую сілу з вас павыганяць...

Хлапчук адбегся на некалькі крокаў, паўглядаўся на Габруся, пакуль той чытаў „літаню“, а пасьля гукнуў на ўсю вуліцу:

— Сьвянці ты свой нос, каб даўжэйшы рос!.. Папоў парабак! Вазіў папу дровы, ага!..

Мужчыны, якія йшлі з Габрусём, моцна зарагаталі... Адзін з іх сказаў Габрусю:

— Ня лезь за жуком,а то замараешся.

* * *

Вось і кірмашны дзень.

Уся моладзь працуе ў полі, на сенажаці... А старыя і самі ня ведаюць, што рабіць—брацца за працу, ці не.

Да паўдня бадай усе сьветкавалі. Пасьля палавіна старых усьлед за моладзьдзю папхнулася ў поле. Засталіся кірмашаваць самыя набожныя, ды яшчэ той заста ся, хто пасьпеў «выціснуць» ды захаваць самагону.

Дзень удаўся пагодлівы. На небе ніводнай хмаркі.

Па дарозе, уздымаючы слуп пылу, коціць на кірмаш айцец Парфіры. Габрусь, прыбраны пасьвяточнаму, спаткаў яго першы...

— Вось добра,—кажа ён, цалуючы айцу ў руку,—не забыліся аб нас...

Айцец Парфіры саскочыў з воза, абтрос запыленае пальто і капялюш і кажа да Габруся:

— Хіба Ліпнёўка пра мяне запамятавала, а я то не... Ды ці можна вас запамятаць, асабліва ў кірмашны дзень... Ох-хо-хо!.. Было калісьці жыцьцё...

Тымчасам на двор Габруся пачалі зьбірацца сяляне, бо вестка аб тым, што прыехаў бацюшка, стала вядома ўсёй вёсцы... Бацюшка, вітаючыся са сваімі парафіянамі, ківаў галавою і гаманіў:

— Як гэта даўней было прыемна з вобразам, працэсіямі і ўсё такое, як гэта і належыць богабаязным хрысьціянам... А цяпер што?!

— Я і сёньня... думаў, бацюшка, наконта вобразу,—гамавіў, запінаючыся, Габрусь,—але то-ж то і бяда, што... баязьні перад богам ня маюць маладыя дзяцюкі і дзяўчаты... Сёньня працуюць у полі, а ўчора рагаталі, калі абазваўся, каб вобраз панасіць па вёсцы... Вось якая моладзь!

— Што моладзь!—перабіў яго айцец Парфіры:—і ў многіх старых дух збунтаваны... Так, так!

Пры гэтым пераxагнаўся і адзеў выпылены капялюш...

У гэты час па вуліцы праходзіў настаўнік ліпнёўскай школы.

Бацюшка ня меў добрага вока на настаўніка за тое, што апошні трымаў школу ў непажаданым духу для бацюшкі. Але на гэты раз бацюшка першы зьняў капялюш і кіўнуў галавою.

Настаўнік затрымаўся і, абапёршыся аб плот, запытаў:

— Што айцэц Парфіры, на кірмаш да нас... па старой знаёмасьці?..

— Куды там... Цяпер не да кірмашу. Проста лічу за свой сьвяты абавязак наведаць у гэты дзень сваіх парафіян... Ну, а як вы жывяцё, як жонка, дзеткі?.. Ці вялікі сынок!

— Дзякую,—адказаў настаўнік—нічога, так сабе... А сынок ужо ладны... Хутка ў камсамол запішацца...

— Тэк, так,—цадзіў праз зубы бацюшка, цярэбячы бараду.—Калі думаць аб зямным існаваньні, то гэта нічога, але ня трэба забываць, што ніякі камсамол ня можа даць чалавеку царства нябеснага...

Настаўнік усьміхнуўся.

Бацюшка зрабіў міну нездавальненьня, разьвітаўся і пайшоў у хату Габруся.

Там ужо за прыбранымі сталамі сядзела некалькі мужчын і кабет. Усе прыўсталі і прывіталіся з бацюшкам. На вуснах яго прабегла вясёлая хмылка, пабачыўшы на стале пірагі, парасят ды бутэлькі...

— О, часы насталі,—загаманіў бацюшка,—гэтым калісь кірмаш канчалі, а цяпер пачынаць прыходзіцца.

— Гэта найлепей,—казаў Антось Лабанок, які ўжо пасьпеў хапіць добрую чарку,—якімі-б дарогамі не хадзілі, усё роўна пры гэтым стале ўсе сойдземся.

— Ды яно гэтак,—пацьвердзіў бацюшка:—ты, Антось, заўсёды мудрыя словы кажаш... Сакрушэцца не павінны...

Пры гэтых словах бацюшка праціснуўся па застольлю і сеў на самым покуце.

Усе пачалі займаць свае мейсцы, а Габрусь нёс з каморкі бутэльку чырвонай гарэлкі.

— Гэта, айцец Парфіры, крыху падфарбаваная бутэлечка даўно вас чакала...

— Белай, то можа-б і ня піў, а чырвоную—то можна... Яна на віно царкоўнае пахожа, толькі на смак ня ведаю...

Сказаўшы гэта, бацюшка сам падставіў чарку, і Габрусь наліў яе аж з коптурам...

— Каб у бацюшкі ў засеках поўна было,—прыгаварыў Габрусь, калі бацюшка нагінаўся сербануць з чаркі, каб не праліць „жывой вадзіцы“...

— Няма каму напаўняць мае засекі: ня тыя часы,—адказаў бацюшка і гэтак лыкнуў спрытна чарку, што аж Антось Лабанок пазавідваў...

— Вось гэта я разумею,—сказаў Антось і пачаў наліваць сабе белай.

Гэтым кірмаш і распачаўся...

Надыходзіў вечар.

На небе пачалі то там, то сям зьяўляцца хмары. У паветры была страшэнная духата—нібы то зьбіралася на дождж...

Выпрэжаны конь айца Парфірыя хадзіў па градах на Габрусёвым агародзе і „цярабіў“ маладую капусту.

Для яго таксама быў кірмаш... Але на гэта ніхто не зьвяртаў увагі...

Кірмашнікі гулялі ва ўсю. Толькі час-ад-часу з расчыненых вакон хаты несьліся па вёсцы гукі звонкага рогату альбо вясёлай песьні-дрындушкі.

— А ну, айцец Парфіры, навядзі струны ліры, ды зайграй нам сваім кракадзілавым голасам «сьвяты ўгодніча Мак-ка-ка-вей,—гукаў Антось Лабанок, падсеўшы бліжэй да бацюшкі і чокаючыся з ім чаркамі...

Габрусь, які яшчэ мацней усіх трымаўся на нагах, узяў Антося за плячо і папрасіў, каб ён супакоіўся. Але Антось і слухаць не хацеў. Ён вылез з-за стала, перайшоў на другі бок, падсеў бліжэй да бацюшкі і пачаў гаманіць:

— Ты, бацюшка, тут ня бацюшка, а такі самы, як і мы ўсе: як Антось, Габрусь, Гіляры, Купрыян... і наогул, як усе, хто тут выпівае і закусвае... Мы ў царкве табе ў руку цалуем, а тут?!. Жартуеш, брат... Я не пацалую табе... Праўда, ёсьць і тут дурні, якія таксама цалавалі... але я?! Антось Ла-ба-нок?! О!?. Ніколі!

— Барузьдзіш ты, Антось,—сказаў бацюшка, нюхаючы кавалак пірага

пасьля толькі што выпітай чаркі,—майго званьня ніхто нідзе не адбярэ... Я быў бацюшка, ёсьць бацюшка і буду ба-цю-шка... Званьне мне не ад людзей, а ад бога дадзена...

— Але я цябе не баюся,—сказаў Антось, зноў падстаўляючы сваю чарку, каб чокнуцца...

— Не мяне, а бо-о-га трэба баяцца,—загаманіў бацюшка, узьвёўшы вочы ўгару і ікнуўшы на слове «бэга».

Антось паўзіраўся на бацюшку, які з чаркаю самагону ў руках, нібы з чашаю „сьвятога прычасьця“, „узьвёў вочы к небу“ ды выпаліў, як з бярданкі:

— Пацалуй богу ў с....

Але Габрусь, які падстаўляў смажанае парасё да бацюшкі, закрыў рукою рот Антосю.

Антось абвёў усіх вачамі, ізноў сеў...

— Ня тое грэх, што ў вусны, а тое, што з вуснаў,—сказаў бацюшка, выпіўшы чарку.—Ты, Антось, глупства сказаў; але я не магу на цябе абразіцца, дзеля таго, што богу я магу куды хочаш пацалаваць... Бог ёсьць дух...

А на другім канцы стала ў гэты час жонка Антося схапілася грызьціся з Купрыяніхаю, якая ўвесь час сачыла за гутаркаю Антося і ўпікала, што яе муж трымае сябе вельмі брыдка і зусім не паважае бацюшку. Антось гаркаў цераз стол на жонку, і бабская лаянка спынілася. Зноў усе пілі па чарзе і віталі сусед суседа з кірмашом...

У хаце была гарачыня. Пот цурком ліўся па тварах. Кампанія з кожнай хвілінай станавілася весялей і весялей...

Самагонка сваё ўзяла. Спачатку айца Парфіра прымусілі пець ухвальныя песьні „угодніку Макавею“, а пасьля бабы пачалі вытылінгіваць гэткія прыпеўкі, што бацюшка, набраўшыся зуху, перамяніў свой рэпэртуар. Ён вылез з-за стала, стаў супроць прыгожай і дзябёлай бабы Купрыяніхі ды, прытопваючы нагамі, засьпяваў:

Ты-ж мая, ты-ж мая,
Ты-ж ня чужая;
За то цябе спадабаў,
Што ты маладая.

Купрыяніха ад радасьці, што каля яе пачаў «хадзіць пявуном» бацюшка, ажно распаўзлася...

Ты вясёлы і прыгожы,
Толькі вось кудлаты;
Як палягуць усе спаць—
Жду к сабе да хаты...

—адпела Купрыяніха да бацюшкі. Але бацюшка ня крыўдзіўся за слова кудлаты, а толькі мацней аблапіў Купрыяніху і пусьціўся ў скокі. Усьледжа за бацюшкам Габрусь і Гіляры таксама хапілі па кабеце і пачалі шпарка круціць мяцеліцу.

Аднэвэкі музыкант Савоська, які быў спэцыяльна запрошаны Габрусём для кірмашу, спрытна хадзіў кручкамі па цымбалах і шырока разяўляў рот ад сьмеху, калі бацюшка прысядаў, падаткнуўшы крысы сваёй доўгай вопраткі, альбо цалаваў зьнянацку Купрыяніху...

А Купрыяніха, расчырванеўшыся, як мак, бліжэй прыціскалася да свайго танцора і прыпявала:

А я скачу-падскакую
Ў мяне нешта пад...

Гадзіны паўтары Савоська не пераставаў сеч на цымбалы, а п'яныя кірмашнікі давалі адно другому дыхту.

Гарачыня прымусіла расчыніць вокны і дзьверы. Пад вокнамі хаты сабралася шмат малых дзяцей. Але ніхто не зварочваў увагі. Дзеці ажно качаліся ад рогату, пабачыўшы, як танцуе падгуляўшы бацюшка. А бацюшка да таго разыйшоўся, што калі, нават, перастала йграць музыка і спыніліся ўсе скакаць, ён яшчэ ўсё выробляў нагамі розныя выкрутасы і прыхіліўшыся лагадней да Купрыяніхі, сьпяваў ёй на вуха:

Прасіў, прасіў—ня выпрасіў,
Бадай табе чорт выкусіў...

Тымчасам надыйшоў змрок.

Дажджу ня было, але неба ўхутана было хмарамі, і ва ўсіх бакох пагрымліваў гром і мільгацела маланка...

Моладзь і частка старых, якія не захацелі кірмашаваць, вярталіся з працы... Кожны, праходзячы каля Габрусёвай хаты, затрымоўваўся, каб падзівіцца на кірмашнікаў, якія ўжо блуталіся і на дварэ і на прыгуменьні...

— Нябось, кірмаш, відаць, ня дрэнны быў, калі, нават, ногі адмаўляюцца слухаць,—казалі праходзячыя сяляне.

А дзеці рагаталі і ўсім расказвалі, як з Купрыяніхаю скакаў бацюшка.

Раптам на прыгуменьні пачуліся крыкі і лаянка.

Гэта, на чым сьвет стаіць, лаяўся Купрыян на бацюшку, які гушкаў Купрыяніху на пасавым калясе ад малатарні ў маняжы за акалотам. Купрыян хацеў учарэпіцца бацюшку ў валасы, але быў да таго п'яны, што жонка як турнула рукою, то ён задраў ногі й тройчы перакуліўся. Пабачыўшы, што фізычнай сілай ня можа даць рады, Купрыян пачаў лаяцца самымі апошнімі...

Невядома, чым-бы гэты „кірмаш“ скончыўся, каб не разьнеслася чутка, што едзе міліцыя. Усе да таго перапалохаліся, што, як дым у паветры, няма ведама куды пахаваліся.

Толькі бацюшка бегаў каля сваёй драбінкі і прасіў, каб яму запрэглі каня. Габрусь супакойваў бацюшку:

— Мала хто едзе,—казаў ён, надзяючы хамут на каня:—бацюшка няхай не палохаецца... А лепш было-бы, каб, айцец Парфіры, паслухалі мяне ды засталіся начаваць. Паглядзеце, як хмары абложылі ўсё неба, цёмна, хоць у вока пальцам, дождж можа пайсьці, а ехаць пяць вёрст...

— Не магу, не магу, Габруська, абяцаў матушцы быць сёньня. I так, ведаеш, лішняе па волілі. А скажы Купрыяну, што дарэмна ён да мяне чапляўся. А жонка яго... з агнём кабета, як па твойму?

— Ды яно-ж так! Але нашто было, каб ён бачыў? Прайшліся-б дзенебудзь за гумнішча... Ды нічога, прасьпіцца, то на ўсё забудзецца.

— Хто? Купрыян?

—Але,—адказаў Габрусь і зірнуў на бацюшку.

Бацюшка ўсьміхнуўся і сьцебануў каня пугаю.

Перад тым, як пасадзіць бацюшку на воз, Габрусь завёў яго ў варыўню і даў некалькі разоў папягнуць з біклажачкі. Бацюшка гэтак пацягнуў, што ледзьве-ледзьве ўзабраўся на каламажку. Габрусь даў яму ў рукі лейцы і пугу, вывеў каня за вароты і разьвітаўся, яшчэ раз гаворачы аб тым, што лепш было-б ня ехаць.

Конь па вуліцы пайшоў nаціху, а бацюшка зразу стаў „кляваць“ носам.

Вясковыя хлапчукі-падшывальцы грамадою йшлі за бацюшкам, напамінаючы яму, як ён сьпяваў і скакаў з Купрыяніхаю і як яго чуць Купрыян не адпаласаваў на прыгуменьні.

Але бацюшку „змарыў“ сон, і ён нічога ня чуў, што навокал яго дзеялася.

Адзін з хлапчукоў—той самы, якому ў мінулым годзе бацюшкаў сын у школе расьсек справжкаю пераносіцу, захацеў чым-небудзь дапячы бацюшку.

Ён, падбегшы бліжэй да каламажкі і ўпэўніўшыся, што бацюшка заснуў, узяў разьлейцаў каня і прывязаў лейцы за гужы.

Усе хлапцы ішлі і рагаталі, чакаючы, што будзе, калі бацюшка захоча павярнуць у які-небудзь бок.

Выехаўшы за вёску, конь прайшоў некалькі крокаў ды зразу павярнуў у авёс, які рос паўз дарогі. Каламажка застанавілася, і бацюшка, рэзнуўшыся носам аб біла, прачнуўся.

— Ну, каб цябе ваўкі,—шмаргаючы за лейцы, крычаў хрыплым басам бацюшка. Але конь і ня думаў адрывацца ад аўсу, бо лейцы былі прывязаны за гужы і яго зусім ня трывожылі...

Бачыць бацюшка, што конь яго ня слухае, пралупіў вочы і пачаў сьцябаць пугаю. Конь павярнуў з аднаго боку і зараз-жа перайшоў на другі бок дарогі, пачаўшы ганашыць авёс.

А гэткая была цемра, што нібы з завязанымі вачыма пазіраеш наўкола. Толькі бляск маланкі час-ад-часу асьвячаў усю акругу.

Пачынаў вырскаць дожджык. Бацюшка, крыху аглуздаўшыся, ніяк ня мог уцяміць, дзе ён і што. Ён пачаў нешта мычэць сабе пад нос, клясьці каня, але ня рушыўся з месца...

Хлапцы, папрысядаўшы на мяжы ў аўсе, усё гэта бачылі і рагаталі, затыкаючы рот далоньню, каб ня выдаць сябе.

Бацюшка доўга валэндаўся, а пасьля супакоіўся і перастаў нукаць на каня. Хлопцы думалі, што бацюшка заснуў.

— Націкавым можа кончыцца кірмаш для бацюшкі,—гаманілі паціху паміж сабою хлапцы,—конь пад'есьць аўсу, бацюшка тымчасам высьпіцца і паедзе да хаты. К таму часу можа і сонца ўзыйсьці.

— Давай лепш падойдзем да яго,—сказаў той самы хлапец, які ўстроіў штуку з лейцамі.

Некалькі смельчакоў падышло да каламажкі і пачалі моцна гаманіць. Бацюшка пачаў шавяліцца.

— Гэта хто тут пасе каня?—гукнуў празрыстым голасам адзін з хлапцоў.

— Гэта—я,—адказаў чуць павaрачваючы язык бацюшка.

— Хто ты?

— Ну, я... бацюша... А вы хто такія?..

— Мы? хлопцы!

— Адкуль вы, хлопцы?

— З Ліпнёўкі

— Ага, з Ліпнёўкі... А скажыце мне, хлопцы, куды я еду?

— Нікуды вы ня едзеце, а стаіцё ва месцы ды каня ў чужым аўсе папасваеце...

— Цяпер няма чужога... і ўласнага няма... усім раўнапраў'е пры Савецкай уладзе... вось што... Але скажыце, хлопцы, куды ўсё ж такі я еду і... дзе я еду...

— Мы-ж кажам, што на месцы стаіцё...

— Ага, на месцы,—паўтарыў бацюшка, нібы толькі праснуўшыся,— ну, а куды я паеду, калі паганю каня? Куды мой конь стаіць перадам, а куды задам, скажыце мне, хлопцы?

— Ці-ж вы ня бачыце?

— Ня бачу, бо нешта ў ваччу цёмна...

Хлопцыварагаталі, пашушукаліся, а далей адзін і кажа:

— Перадам стаіць да Ліпнёўкі, а задніцаю да вашага капялюша.

— Ну, то й добра, што да Ліпнёўкі. Цяпер сядайце, хлопцы, на воз і завязіце мяне ў Ліпнёўку да Габруся. Ведаеце, што на канцы жыве... бо дамоў гэтакай цемраю пэўне-ж не заеду...

— Добра, добра,—адказалі хлопцы і залейцаўшы каня, як трэба, трое з хлапцоў ускочылі на каламажку, узялі з рук у бацюшкі лейцы і пугу, пасакаталі прама па дарозе.

Едучы пачало бацюшку трасьці і ён пачаў прыходзіць да сябе.

— Вы закон божы вучыце ў школе?—запытаў бацюшка.

— Не,—адказалі ўсе трое ў адзін голас.

— А чаму? Ці-ж вам, сукіны дзеці, спасеньне душы не патрэбна? Га?! Ці вы можа ў гэтым самым ка... камусамоле?

Хлопцы хіхікалі.

— Але, бацюшка, «камусамоле», а там закону божаму ня вучаць...

— А чаму-ж вас там вучаць? На сабак брахаць ды бацькоў ня слухаць!? Біць вас трэба, сукіны дзеці, што ў царкву ня ходзіце, богу ня моліцеся, ды старшых не паважаеце...

Хлопцы ва ўсім супярэчылі бацюшку, а бацюшка „настаўляў іх на пуць ісьціны“ і лаяўся апошнімі словамі.

— Вось і прыехалі,—сказаў адзін з хлапцоў, і ўсе трое саскочылі з каламажкі.

— Стой, хто гэта?—пачуўся голас упацёмку.

— А, гэта ты, Габрусь,—загаманіў весялей бацюшка, паварачваючы галаву да голасу.

— Не Габрусь, а Ігнась, тутэйшы міліцыянэр.

— Мі-мі-лі...—хацеў паўтарыць бацюшка, але з пераляку язык ня мог павярнуцца.

— Гэта-ж мы злавілі бацюшку,—гаварыў адзін хлапец да міліцыянэра,—ён каня пасьвіў у нашых аўсох.

— А, бацюшку!—цішэй загаманіў міліцыянэр.—То выбачайце, бацюшка, я зараз пашлю за старшым, пакуль што вы зьлезьце, зайдзіце ў каравульную, а каня я скажу ў хлеў паставіць, бо дождж пачынае йсьці.

— Ды ён сам ня зьлезе, яго зьняць трэба, бо ён «прычасьце сьвятое» ў нашага Габруся прыняў,—загукалі хлопцы ўпацёмку і пабеглі да хаты.

Бацюшку вельмі паважна папрасілі цэлую ноч супачываць у каравульным пакоі пасьля напісаньня пратаколу.

Гэтым „салодкім“ сном у міліцыі, вядома, ня зусім скончыўся кірмаш для айца Парфіра.

Хлапчукі-ж, бягучы паўтары вярсты ад мястэчка, куды завезьлі бацюшку на начлег, увесь час рагаталі і цікавіліся, як пасьля гэтага бацюшка будзе служыць абедню ў царкве. Яны дагэтуль ня верылі, што бацюшка можа гэтак напіцца і лаяць брыдкімі словамі.

Не прайшоў так сабе кірмаш і для Габруся. У гэту самую ноч у яго патрэсла глячкі ды бутэлечкі міліцыя і таксама напісала пратакол.

Габрусь увесь час чухаў сябе за вухам і больш за ўсіх лаяў бацюшку.

— Казаў-жа яму начаваць у мяне. Дык не, занесла яго нячыстая сіла ў міліцыю. Ну, буду доўга памятаваць гэты кірмаш... Даўся ён мне ў знакі... Хаця-б добра ўсё скончылася! Што пазабіралі самагонку — гэта дарма, але хаця-б штраф невялікі наложылі, а то загіну я зусім... Ну й пакірмашавалі— няма чаго сказаць!

А ўся вёска, як у бубен біла, гаварыла пра гэты кірмаш. Купрыяніха, што шуры-муры закруціла з папом, два тыдні на вуліцу не паказвалася і дала слова больш ніколі не хадзіць у царкву.

Пацешней усяго—гэта расказы хлапцоў, як яны, замест да Габруся, завезьлі бацюшку на ўласным яго кані ў міліцыю.

Чуваць было пра гэты кірмаш і ў ваколічных вёсках.

— Ліпнякі зноў, кажуць, кірмаш спраўлялі,—гаварылі суседнія вёскі, —ды дрэнны, кажуць, торг быў... шмат ім каштавала гэта гулянка.

А поп, кажуць, у міліцыі п'яны спрасонку імшу служыў...

А моладзь ліпнёўская ад радасьці была на сёмым небе. Хто-б не спаткаўся з Габрусём, пыталіся ў яго:

— Ну, што? Як кірмашаваў?!...

Габрусь нічога не адказваў, а кідаў злосны погляд і адыходзіў...

Дома-ж штодня Габрусь лаяўся з жонкаю і, пазіраючы на вобраз сьв. Мікалая, гаманіў:

— Ах, Макавей, Макавей, нарабіў ты мне столькі клопату і няпрыемнасьці... Бадай на цябе ліха найшло, хоць ты і ўгоднік...

— Шэльма, што-ж ты лаеш сьвятога Мікалая? Прычым-жа ён тут,— перабівала яго жонка.

— Ды ўсе яны роўныя, аднаго поля ягадкі! Ня веру я ім. І Макавей і Мікалай—усе яны аднаго варты, такія самыя, як поп, што ім моліцца. А глядзі ты, заблудзіўся ў міліцыю і столькі нарабіў нам страты!.. Тое самае і Макавей і Мікалай зрабілі-б, каб маглі гэтак налізацца дарэмнай самагонкі. І ты такая самая „угодніца“, ліханька на цябе, з карку майго ня злазіш, усё грызеш за гэты кірмаш. А ці я вінават, што гэтак здарылася... Усё „угоднікі сьвятыя“ нарабілі... Цьфу!

Пры гэтым Габрусь запускаў слаўцо па адрасу ўсіх угоднікаў і „нягодніцы“ жонкі, як ён часта называў яе, выбягаў, як апараны, з хаты, стукаючы моцна дзьвярыма.

А жонка гэтым часам станавілася на калені прад сьв. Мікалаем і малілася, просячы, каб ён не зважаў на яе мужа, якому такі сапраўды сьвяты ўгоднік Макавей зрабіў прыкрасьць і вялікія страты.

М. Чарот.

## Пасьля буры...

(*Сказ старога дзядулі*).

Схлупіліся хмары ў паветры...

Стала душна...

Вось-вось, думаем, пачнецца бура... Гэтак і сталася...

За тры дні да адступу палякаў амаль уся наша вёска са ўсёю жывёлаю перакачавала ў лес, на палянку балота, і там дажывала апошнія дні польскага панаваньня...

У вёсцы засталіся толькі старыя ды малыя дзеці, якія раз-по-раз насілі весткі, а таксама і яду тым, хто пахаваўся...

Па вуліцы гойсалі на конях польскія афіцэры. Жаўнеры шарылі па хлявох і хатах, лавілі курэй, малых парасят, тут-жа на двары альбо на вуліцы раскладалі вогнішча і варылі нарабованую жывёлу.

Раптам перапалах...

На дарозе, каля суседняй вёскі, вёрст за пяць, афіцэр убачыў цэлую грамаду людзей, якія, нясучыся на конях, паднялі чорную хмару пылу...

— Бальшавікі! Бальшавікі!—закрычаў ён нечалавечым голасам, і ўсе жаўнеры, як адзін, хапіліся за стрэльбы.

Пачалася страляніна. Жаўнеры стралялі, хто куды папала, ня ведаючы, дзе і з якога боку падыходзяць бальшавікі.

Гэта нас толькі радавала. Стралянінаю нас не напужаеш... Праз нашу вёску ня раз ужо за часы гэтай калатніны лялалі кулі ды бомбы.

А, вось што! Ідуць нашы—гэта зусім добра... Я ўскочыў у сваю хату.

— Баба! а, баба!—загукаў я на жонку,—пячы бліны... госьці йдуць...

— Ці-ж можа быць?! А, божа літасьцівы, дай-жа ім сілы і адвагі, каб хутчэй гэтую погань прагналі ад нас!..

Але хутка ўсё заціхла і пранесьліся чуткі, што гэта не бальшавікі былі, а хлапцы на начлег ехалі, ці з коньмі ў лес ад паноў уцякалі.

А назаўтра а гадзіне дзесятай раніцы і сапраўды пачалі паны даваць лататы, бо бальшавікі наступалі з усіх бакоў... А тут яшчэ нашы хлопцы няма ведама скуль падаставалі стрэльбы і давай жарыць па панох хто з лесу, хто з жыта, а хто і ў адкрытую.

Наўкола, як можна было акінуць вокам, відаць быў толькі дым ды агонь.

Гэта гарэлі вёскі і масты, падпаленыя панамі, каб, напэўна, затрымаць наступ Чырвонай арміі.

Пазіраем мы з-за вуглоў на вуліцу—ажно, на табе ліха!.. У польскай вопратцы бягуць па вуліцы нашай-жа вёскі хлопцы. Мы ўсе ў голас.

— Ды што вы, пашалелі,—гукаем ім,—прадаліся! На свайго брата пайшлі...

— Ня бойцеся,—крычаць яны, рагочучы,—гэта мы паном даём па пятах.

— Гэта паўстанцы,—чуліся галасы.

Мы сьмялей пачалі вылязаць адусюль.

Страляніна, гоман і грукатня пачалі аддаляцца...

Прайшло паўгадзіны поўнага зацішша...

— Ур-р-ра!—пранесьліся ў канцы вёскі галасы.

Мы ўсе на вуліцу.

— Нашы! нашы!..

Загарэлыя, запыленыя, але бадзёрыя і вясёлыя, як адзін, праходзілі чырвонаармейцы.

Апошняе пачалі мы выносіць, каб падмацаваць сілы нашых збавіцеляў. Выносім сала, хлеб, страву. Не бяруць чырвонаармейцы.

— Нам забаронена дарма браць—плаціць павінны.

Мы проста прасілі іх, каб яны хоць трохі пажывіліся чым-колечы.

— Зусім інакшымі сталі,—кажу я сваёй бабе, якая напякла міску бліноў і выйшла частаваць гасьцей,—памятуеш, апошні раз як былі перад польскім панаваньнем і сілком калі-ні-калі бралі... А цяпер...

Было ўжо позьня.

Цэлы абоз нашых уцекачоў цягнуўся ў вёску з лесу. Гналі кароў, авец, сьвіньней...

Вечарам чырвонаармейцы склікалі мітынг.

А наш бацюшка, у якога польскія жаўнеры пазабіралі ўсё дабро—курэй, індыкоў, хлеб, сала—гэтак быў рад прыходу чырвоных, што даў знаць сялянам зьбірацца на „благадарсьцьвены» малебен аб збаўленьні вёскі ад паноў-рабаўнікоў...

— Чулі мы яго казаньні,—гутарылі сяляне,—няхай адзін памоліцца, а мы лепш на мітынг. Там шмат навін пачуем.

І толькі позьняя ноч улажыла ўсіх спаць...

Адно вартаўнікі хадзілі па вуліцы ды бесьперастаньня трашчалі трашчоткамі... Па канцох-жа вёскі стаялі каравульныя чырвонаармейцы.

* * *

Вось і жывём мы цяпер пановаму ды павольнаму...

Успомніш мінулае—проста ня верыцца. Нібы то сон, а ня праўда была. Хто толькі не павандраваў па нашай зямліцы, хто крыві не пасмактаў нашай!

Чаго ня прышлося перанесьці і маёй старой сьпіне!

Закрыеш вочы ды зірнеш у мінулае,—перанясешся на некалькі гадоў назад. Уся жыцьцёвая бура, як на далоні.

І што першым заўсёды кідаецца ў вочы—гэта шапка з чырвонаю зьвяздою. Каб ня гэта шапка, здаецца, так бы і віселі вечныя хмары над нашымі загонамі, так-бы і жылі мы ў духаце, якая ні сёньня, дык заўтра атруціла-б усё паветра.

Часам і цяжка бывае. Няма таго, няма сяго. Але чуеш сябе гэтак вольна і бадзёра, што каб пад маё старое цела ды хто падставіў новыя здаровыя ногі, сам-бы ўзяў стрэльбу, адзеў-бы шапку з чырвонаю зьвяздою, ды туды на захад, дзе гэтак густа сабраліся хмары. Хочацца, каб там гэта бура пранеслася.

— Мне думаецца, што хутка і там зьявіцца гэта чаруючая шапка з чырвонаю зьвяздою. Нешта хмурна заўсёды ў тым баку, куды кожны дзень сонца заплывае.

Мне, вось часам, здаецца, калі я думкамі аблятаю ўвесь сьвет, што нават сонца,—вось гэта самае, што ў нас гарыць і сьвеціць—як толькі туды, на тыя абшары спаўзае, зараз-жа перастае блішчэць. Ня можа яно там сеяць свае залатыя праменьні...

А бяз сонечнага цяпла і сьвету няма жыцьця...

* * *

Яго старыя прыщчураныя вочы з-пад сівых густых броваў пазіралі ўдаль на захад.. Здавалася, што ён хоча рынуцца туды, адзеўшы на сваю белую галаву шапку з чырвонаю зьвяздою...

Успаміны буры, здавалася, маладзілі яго на шмат гадоў і ўздымалі ў ім дух нейкага несьвядомага протэсту...

На твары гэтага старэнькага дзеда зьявілася ніколі нябачаная мною ўсьмешка.

— Крыльлі! Крыльлі яму!—хацелася мне закрычаць моцным голасам.

Я быў нібы зачараваны і ня мог свайго погляду адарваць ад гэтага старога целам, але маладога духам гэроя-дзядулі.

М. К—а.

## Вясна.

Дзе дадуць—зраблю пазыку
І найму сабе музыку,—
Дудара з яго дудою,
Каб іграў ён моцна ёю.

«Грайка, грай!—я засьпяваю,—
Што цяпер на сэрцы маю»,
І дудар ужо іграе;
Маё сэрцэ так сьпявае:

...«Прападзі, мая жуда,
Ўсё, што церпіць небарак,
Ўсе нястаткі ды бяда,—
Я шчарнеў, глядзі, і так,

Толькі вус адзін бялявы...
Годзі мучыць! Я хачу
Сілы, працы і забавы
І вясельля я хачу»...

А з чаго-ж я узбуяўся?
— Бо вясна ідзе да нас:
Як убачыў—засьмяяўся
І вясёлы стаў на час...

Грай-ка, грай! бо сэрца скача,
Яму трэба моцна граць;
А жуда няхай паплача—
Час яе і забываць.

А. Гарун.

## Лета.

У летні час як весела на полі!...
Пасевамі красуецца зямля.
І хоча жыць і хоча шчасьця, волі
Душа мая.

Праменем радасным бліскоча ў небе сонца,
Ўвакруг краса, прывольле, сьветлы рай...
І пекны-ж ты, люблю цябе бясконца,
Мой родны край!
Зялёны гай зьвініць ад птушак сьпеву,
Гамоняць радасна паміж сабой кусты,
На поплаве, глядзіш, направа і налева
Кругом кветы.
У хвалях возера разьліта пазалота
І радасьць шчасная ў бары глухім шуміць,
І ручаёк, і рэчка, і балота
Жыцьцём кіпіць.
І думка поўная вясёлай, новай веры...
Эх, дзіўны лета час! Любуюся табой!
Як ты мне міл! Люблю цябе бязьмеры,
Край родны мой!

Ф. Чарнышэвіч.

## Восень.

Як ня любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны—слаўны тон!
І ў золаце стаіць маўклівы пышны клён...
Як ня любіць мне восень залатую,
Калі на ніву зжатую, пустую
Кладзецца уначы, як малако, туман
І павуціньня шмат на хмызьняку палян...
Як ня любіць мне восень залатую,
Як ня любіць мне частку году тую,
Калі я веру ўсім, калі душа гарыць,
І хочацца ўвесь час, хоць сумаваць, а жыць!

Наталья Арсеньева.

## Зімой.

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі сьнег!
Мяцель ня вее, сьціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
Як мары белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць.
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, сьветлы стоўп спусьціў
І рызай срэбнаю раздольле
Сьнягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце-ж іх сачямі, коні!
Зьвіні вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

Максім Багдановіч.

## Дзьве кумы.

— Ну, як-жа кумка маецца?—
Кума ў кумы пытаецца.
— І ня пытайся лепш, кума:
Цяпер-жа, ведаеш сама,
Што дзень пражыў, то й дзякуй богу.
Няміла, кумка, мне нічога,
Нічога нейк і не на ўме,—
Адказвае кума куме:—
Канчына сьвету, кажуць, блізка;
Вось, кажуць (чула-ж мо' і ты?),
Радзіла чорта камуністка:
Ёсьць рогі, хвост і капыты...
— Ды як ня чуць - я чула гэта,
Раскязвала мне сваццяя Тэкля,
Казала, што за гэта лета
Чарцей было-б тут, як у пекле,
Але таго бог не дапусьціць;
Ён кару на людзей напусьціць,
І ўвесь народ тады пагіне,
Мо' толькі аднаго пакіне
На сьвеце бог ці двух, як Ноя...
—Каб, здэцца, нас, кума, з табою..
Хадзем маліцца хіба мы,
Прасіць, каб бог грахі прасьціў,
Каб кары к нам не дапусьціў—
Сказалі разам дзьве кумы,
Пайшлі ў царкву маліцца богу,
Таўкуцца ілбамі аб падлогу,
Аж лоб трашчыць, лупцуюць цёткі,—

Баяцца згінуць без пары;
А доўгагрывы ў аўтары
Майструе новыя ўжо плёткі—
Знайшоў, кудлаты, заработкі.

Крапіва.

## Плеткары.

Знае ён усё на сьвеце,
Вестак больш, як у газэце—
Чуў-ня-чуў, а навіну
Скажа вам, ды не адну...
Што і чуў, дык пераверне,
І пайшла пісаць губэрня,
Бо даўгі яго язык
К супачынку ня прывык.
— Вой, сястрыцы! Чулі дзіва?
Кажуць, сёньня нарадзіла
Жонка Сьцёпкі Карася
Ня дзіця, а парася...
— А я чула ад Аўдолі,
Што папы дзесь раскалолі
Ўсю царкву напапалам—
Частка тут, а частка там.
— Нешта й я чуў, ды забыўся.
Я чуў: Ленін з Троцкім біўся,
А Калінін іх мірыў—
Гэта сват мне гаварыў.
На Нямеччыну-ж, казалі,
Рэпарацыі напалі—
Многа зьнішчылі дабра.
Гэта, кажуць, машкара.
Так жарэ, што ня дай ты, божа!
Есьць траву, жывёлу, збожжа,
Лес паела дзе-ня-дзе
Й пераходзіць на людзей.
Вы, зязюлькі мае, цёткі!
Што за смак вам плесьці плёткі,
І мазоліць языкі
Вам, саколікі, дзядзькі?
Час і сілу дарма траціць?
Плеткаром-жа мо' ня плацяць?
Толькі й платы бедаку,
Што мазоль на языку.

Крапіва.

# Заморскі зьвер.

...Даўно то даўно гэта было, але яшчэ помню, бо, між намі кажучы, далі такі добра нам на памяць. Было так. Рыгор, Гаўрыла і я выбраліся ў горад з дрывамі; дровы прадалі, зайшлі да Янкеля выпіць чарку, сядзім, калякаем; чуем—каля другога стала гамоняць аб усялякіх зьвярох заморскіх, якіх панавозілі цяпер у гэты горад. Гаўрыла й кажа да нас: «Браткі, лепш меней чарак вып'ем, а пойдзема паглядзець заморскую малпу». Добра, пайшлі, чаўпемся па вуліцах, дапытваючыся, як і куды трапіць да гэтай заморскай зьвярыны, аж тут нарываецца нейкі і кажа: «Хадзеце за мной, я вам пакажу малпу і кошту ніякага ня будзе». Усьцешыліся мы; коцім за ім. «Слухайце, дзядзькі», кажа да нас правадыр наш, «паказаць малпу, то я вам пакажу, але сам з вамі не пайду, бо яна вельмі сярдзітая і ня любіць, каб хто другі раз прыходзіў глядзець на яе, а я ўжо раз быў». Праўда, сьпярша і па нашым целе забегалі мурашкі, але—было ня было! «Вядзі»,—кажам.

Завёў ён нас на нейкую вуліцу, збочыў у нейкі садок, ды й паказвае пальцам: «Бачыце», кажа, «вунь гэты жоўты дом і вялізарны ганак пры ім: падыйдзеце бліжэй і прыгледзьцеся—вось на крэсьле і сядзіць тая заморская малпа». Сунуліся мы бліжэй, углядаемся—праўда: страшная, гарбатая, твар нейк сплюснуўшыся, дый амаль ня ўся ў валасох, але да чалавека надта падобна—і нават апрануўшыся зусім як пан які; вопратка пекная, багатая; але і ўвагі на нас ніякай ня робіць, сядзіць, нават газэту чытае... „Ну“, думаем сабе, „хоць малпа, але як заморская, дык можа і ўмее чытаць?“ Асьмеліўшыся, сталі мы бліжэй падходзіць,—нічога: сядзіць. Гаўрыла кажа: «Братцы, сьвісну я?».—«Сьвішчы», адказваем. Сьвіснуў ён раз—нічога, сьвіснуў другі й трэці раз, ажно праўда: падняло гэтае зьвяр'ё галаву, дый лыпае на нас маленькімі вочкамі, але так нейк сьмешна, што мы ўсе ў рогат! Ажно, людцы вы мае, як запішчыць гэта яна на нас, хоць і ўсяго не зразумелі, але лаянка зусім да нашай падобна, толькі яшчэ крапчэйшая! «Іш ты», кажа Рыгорка, «хоць заморская, падла, а лаянкі тутэйшай скора навучылася». Дый яшчэ горш сталі рагатаць; а я, доўга не чакаючы, тыц ёй пад нос пугаўём! Браткі, вы, мае! Калі ўскочыць гэта яна, калі выхапіць нейкую дудачку, ды як засьвішча,—ужо на што Гаўрыла быў здатны да гэтага, а так-бы не патрапіў! Але нядоўга мы дзіваваліся, бо, як бач, наляцела паліцыя, за карк ды ў паліцыю. Там мы толькі даведаліся, што жулік нас падвёў, бо гэта ня была заморская малпа, а амаль ня першы чалавек у горадзе, але, як людзі нам казалі, надта падобны да малпы. Даведаліся мы ў паліцыі яшчэ нечага, але ўжо не заморскага, а тутэйшага—лазовага кусту; а мне за тое, што ткнуў пугаўём гэну зьвярыну, зрабілі ганар—лішніх пятнаццаць усыпалі.

Ядвігін Ш.

# Зьмест.

### Вэтэрынарныя веды.



### Цікавыя лічбы.



### Справачны аддзел.



### Літаратура і мастацтва.




## Кнігарні Беларускага Выдавецтва „Савецкая Беларусь“.

### Прыгожае пісьменства.

**Багушэвіч Ф.**—Дудка Беларуская і Смык Беларускі. (Збор вершаваных твораў у аднэй кнізе). Выд. «Адраджэньне» . 30 к.

**Бядуля Зьмітрок**—На зачарованых гонях. Апавяданьні. Выд. „Савецкая Беларусь“ . . . . . . . 40 »

**Гартны Цішка**—Песьні працы і змаганьня. Збор вершаў. Выд. Навукова-Літэрацкага Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін. . . . . . . . . . . . 75 »

**Гартны Цішка**—Сокі цаліны. Раман. Частка 1-я. Бацькава воля. Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін. . . . . . . . . . . . 1 р. —

**Гарун Алесь**—Матчын дар. Збор вершаў. . . . . 30 »

**Гаршын Ус.**—Сыгнал. Апавяданьне. . . . . . 10 »

**Гушча Тарас**—У Палескай глушы. Апавяданьне. Выд. «Віленскага Выдавецтва» Б. Клецкіна. . . . . . 1 р. —

**„Дыямэнты“ беларускага прыгожага пісьменства**—Зборнік. Выд. Беларускага в-ва «Зоркі». Кіеў. (Распрадана). . 30 »

**Колас Якуб**—Водгульле. Збор вершаў. Выд. «Адраджэньне». 35 »

» » —Новая Зямля. Поэма. Выд. „Сав. Беларусь“. 1 р. 50 »

**Купала Янка**—Сон на кургане. Драм. поэма ў 4-х абразох. Выд. суполкі „Загл. сонца і ў наша ваконца“. Пецярбург . . 50 »

**Купала Янка**—Спадчына. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“. 1 р. —

» » —Шляхам жыцьця. Збор вершаў. Выд. 2-е «Віленскага выдавецтва» Б. Клецкіна . . . . .

**Ożeszko E.**—Gedali, Апавяданьне, Выд. «Нашае Нівы» . 10 »

Родзевіч Л.—Пакрыўджаныя. Драма ў 4-х дзеях. Выд. Літарат. Камісіі Акцэнтру Наркамасьветы Б. С. С. Р. . . 15 »

Сцэнічныя творы—Сшытак першы („Паўлінка“ Я. Купалы, „Манька“ Ф. Аляхновіча, «Залёты» В. Д.-Марцінкевіча, «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага). Выд. Дырэкцыі Бел. Дзярж. Тэатру. . . . . . . . . . . . 25 »

Сцэнічныя творы—Кніжка першая («Прымакі» Я. Купалы, «Мікітаў лапаць» М. Кудзелькі, «Зьбянтэжаны Саўка», „Пасланец“, „Конскі партрэт“ Л. Родзевіча). Выд. «Сав. Беларусь» 40 »

Сцэнічныя творы—„Як яны жаніліся“. Камэдыя. Выд. суполкі „Загл. сонца і ў наша ваконца“. . . . . . 20 »

«Taras na Parnasie»—Выд. «Нашае Нівы» . . . 10 »

Цішка Гартны. На дзень пятнаццацёхгадовага юбілею яго літаратурнае працы (1908—1923). Выд. Інстытуту Беларускае Культуры . . . . . . . . .

Чарот М.—Босыя на вогнішчы. Поэма. Выд. „Адраджэньне“. (Распрадана) . . . . . . . . . . . 10 »

Чарот М.—Завіруха. Збор вершаў. Выд. Госіздат С. С. Р. Б. 40 »

Ядвігін Ш.—Бярозка. Апавяданьні. Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна. . . . . . . . . 30 »

Ясакар (З. Бядуля)—Пад родным небам. Збор вершаў. Выд. „Адраджэньне“. . . . . . . . . . . 65 »

## Часопісі.

„Полымя“ за 1922 г. № 1. Выд. „Сав. Беларусь“ . . 30 »

„ за 1923 г. № 2, 3-4. Цана за нумар . . 50 »

„ за 1923 г. № 5-6, 7-8 . . . . . . . 75 »

„Маладняк“ (Для моладзі. З малюнкамі). Выд. Белтрэстдруку 75 »

„Вольны Сьцяг“ За 1921 і 1922 г. г. Цана за нумар 10 »

„Зорні“ (Дзіцячая) За 1921 і 1922 г. г. Цана за нумар 15 »

„Раніца“ Думкі Беларускай студэнцкай моладзі. Пецярбург, 1914 г. № 1. . , . . . . . . . . . 10 »

„Саха“ (Сельска-гаспадарч.). За розныя гады. Цана за кожны сшытак . . . . . . . . . . 3 »

## Падручнікі для школ.

Беларуская разразная азбука—Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін . . . . . . 10 к.

Валасковіч і Лукашэвіч—Зборнік арытмэтычных задач. Ч. 1-я. Выд. „Адраджэньне“ , . . . . . . . 30 »

Валасковіч і Лукашэвіч—Зборнік арытмэтычных задач. Ч. II-я. Выд. „Адраджэньне“ . . . . . . 40 »

Гарэцкі М.—Гісторыя Беларускае літаратуры (з малюнкамі). Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна . . 1 р. —

Гарэцкі М.—Хрэстаматыя Беларускае літаратуры. XI век —1905 г. (з малюнкамі). Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна . . . . . . . . . .

Грамыка М.—Пачатковая географія (з малюнкамі). Выд. „Сав. Беларусь“ . . . . . . . . . . 1 р. —

Ігнатоўскі Ў.—Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд. 3-е 40 »

Карта паўкулі—(Усход і Захад). На палатне. Выд. „Віленскага выдавецтва Б. Клецкіна . . . . . . 5 р. —

Кісялёў А.—Элемэнтарная альгэбра. Ч. II-я. Выд. „Бел. выдавецкае т-ва“ . . . . . . . . . 1 р. —

Колас Якуб—Другое чытаньне. Выд. суполкі „Загл. сонца і ў наша ваконца“. . . . . . , . . . . 15 »

Круталевіч А.—Альгэбра. Ч. I я. Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін . . . . . . 60 »

Лёсік Я.—Практычная граматыка. Ч. I-я. Выд. „Сав. Беларусь“ . . . . . . . . . . . 40 »

Лёсік Я.—Практычная граматыка Ч. II-я. Выд. Наркамасьветы Б. С. С. Р. . . . . . . . . 50 »

Лукашэвіч і Валасковіч—Мэтодыка арытмэтыкі. Выд. „Адраджэньне“ . . . . . . . . . . 60 »

Мэтрычная сыстэма мераў у параўнаньні з расійскімі мерамі (Табліца) . . . . . . . . 50 »

Некрашэвіч С.—Беларускі лемантар (з малюнкамі). Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін . . 40 »

Некрашэвіч. С.—Роднае Слова. Другая пасьля лемантара кніжка для чытаньня. Выд. 2-е. Выд. „Савецкая Беларусь“. У справе 70 »

Смоліч А.—Географія Беларусі (з малюнкамі). Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна Ч. I. . . . . 50 »

Смоліч А.—Географія Беларусі (з малюнкамі). Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна. Ч. II. . . . . . . 1 р. 50 »

Смоліч А.—Зорка. Беларуская граматка. Выд. 7-е Наркамасьветы Б.С.С.Р. . . . . . . . . . 20 »

Тарашкевіч Б.—Беларуская граматыка для школ . . 45 »

Трэпка—Фізыка. Мэханіка і цяплыня (з малюнкамі). Выд. „Віленскага выдавецтва“ Б. Клецкіна . . . . . . 1 р.

Цыгельман К.—Аснаўныя пачаткі арытмэтыкі. Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін . . 60 »

Цыгельман К.—Аснаўныя пачаткі арытмэтыкі. Выд. Наркамасьветы Б. С. С. Р. . . . . . . . . 20 »

Шапашнікаў і Вальцаў—Арытмэтычны задачнік . . 20 »

## Кнігі па розных пытаньнях.

Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск 1-шы. Элементарная матэматыка . . . . . . . . 30 »

Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск II-гі. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва . . . . . 30 »

Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск III-ці. Географічныя і космографічныя тэрміны і назовы нябесных цел . 30 »

Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск IV-ты. Тэрмінолёгія лёгікі і псыхолёгіі . . . . . . . . 30 »

*Увага.* Усе выпускі тэрмінолёгіі—выд. Інстытуту Беларускае Культуры.

Biarozka—Pczalina—żywioła małaja, a karyści szmat daje. Выд. суполкі „Загл. сонца і ў наша ваконца“ . . .. 10 »

Жыван, агр.—Культура кармовых караньплодаў. Выд. Наркамзему Б. С. С. Р. . . . . . . . . 20 »

Ігнатоўскі У.—Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі. Выд. Нав.-Літ. Аддзелу Наркамасьветы Б.С.С.Р. 15 »

Ігнатоўскі У.—Мотывы лірыкі баларускага песьняра М. Чарота. Выд. Госіздата С. С. Р. Б. . . . . . . . 20 »

Каляндар «Праца» на 1923 г.—Выд. «Сав. Беларусь» . 30 »

Календары выд. «Нашае нівы» за розныя годы . . па 10 »

Кармовыя травы: Сэрадэля і Пялюшка. Выд. Наркамзему Б. С. С. Р. . . . . . . . . . . . 10 »

Пачопка Я.—Як узгадаваць і даглядаць сад (з малюнкамі). Выд. Наркамзему Б. С. С. Р. . . . . . . 30 »

Янчук, праф.—Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўны пэрыяд. Выд. «Адраджэньне» . . . . . 45 »

Jak rabić dobryja ramowyja wulli. Выд. «Нашае Нівы» . . 7 »

Jak używać sztuczny nawoz . . . . . . . . . 5 »

## Музычныя творы.

Равінскі М.—Зборнік песень з нотамі. Выд. «Адраджэньне» 40 »

Тэрраўскі Ўл.—Беларускі лірнік. Сьпеўнік на чатыры галасы (99 песень). Выд. Нав.-Літ Аддзелу Наркамасьветы Б. С. С. Р. Бэрлін . . . . . . . . . 75 »

## Выдавецтвам „Савецкая Беларусь“ друкуецца:

Беларускі работніцка-сялянскі каляндар на 1924 г.

Выпісы з беларускае літаратуры. Новы і найноўшы кругабегі.

Кашын—Фізыка (з малюнкамі). Перакл. А. Круталевіча.

Лёсік Язэп—Правапіс.

Маркс і Энгэльс—Комуністычны маніфэст. Перакл. Я. Лёсік.

Мікэльсар—Пачатковая геомэтрыя (з малюнкамі).

Некрашэвіч С.— Роднае слова. Першая пасьля лемантара кніга да чытаньня (з малюнкамі).

V.

Прыгатавана да друку:

Азбукін М.—Географія Эўропы (з малюнкамі).

Гурло А.—Барвенак. Збор вершаў.

Гутноўскі М.—Агульныя асновы Савецкага права з адзначэньнем асаблівасьцяў права Б. С. С. Р.

Журба Я.—Заранкі. Збор вершаў.

Капельнін і Цынгер—Прыродазнаўства (з малюнкамі). Перакл. М. Грамыкі.

Кісялёў А.—Геомэтрыя. Перакл. А. Круталевіча.

Колас Якуб—Мэтодыка роднае мовы.

Круталевіч А.—Альгэбра. Ч. II-я.

Луцэвіч У.—Вясёлка. Зборнік дзіцячых песень і гульняў з нотамі (100 нумароў).

Пічэта Ў.—Гісторыя Беларусі. Ад старадаўных часоў да Люблінскай вуніі.

Сцэнічныя творы. Кніжка другая. («Соцыялістка» Цішкі Гартнага, «Сон на балоце» М. Кудзелькі, «Каліcь», „Лес шуміць“ Ф. Аляхновіча).

„Чырвоны Дудар“—Беларускі дэкляматар. Злажылі Я. Купала і Цішка Гартны.

---

Кнігі прадаюцца ў галоўнай кнігарні выдавецтва „Савецкая Беларусь,“—Менск, вул. Леніна (быўш. Губарнатарская), у кнігарнях Цэнтрабелсаюзу і Белтрэстдруку ў Менску і ў павятовых гарадох Беларускай рэспублікі, а таксама ў Гомелі (кнігарня Нацмен., вул. Камунараў, 1), у Вітабску (кнігарня Дрэйцара, Замкавая вул., 5) і ў Беларускім бюро пры Наркамасьветы РСФСР (Масква, Срэценскі бульвар, д. 6).

